А. Александровіч
А. Вольны
А. Дудар




# ВАЎЧАНЯТЫ

## РОМАН БЕЛАРУСКІХ ЛЯСОЎ

№ 2 Бібл. Цырв. Зьмена № 2

МЕНСК 1925

№ 2 БІБЛІОТЭКА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“ № 2



А. АЛЕКСАНДРОВІЧ, А. ВОЛЬНЫ, А. ДУДАР

# ВАЎЧАНЯТЫ

## РОМАН БЕЛАРУСКІХ ЛЯСОЎ

Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК—1925

# ВАЎЧАНЯТЫ

## (Роман Беларускіх лясоў)

### 1

Смутны сёньня бацька Балаховіч.

Неспакойная ноч была...

Два разы чуў ён, нібы лісьце сухіх дрэў, шапацелі яго паперы. Два разы ўздымаўся з ложка і нічога...

Зноў заснуў.

Раптам чуе праз сон, нібы хтосьці стаіць ля яго галавы і шавеліцца.

Узьняўся і выразна ўбачыў прад сабой цёмную фігуру, якая стаяла нярухома.

Усхапіўся бацька.

Фігура ні з месца.

— Хто тут?

— Бальшавік! Вангард рабочага пролетарыяту.

— Што?—хваціў бацька рэвольвэр.

— Ні з месца!

У адказ пачуўся спакойны голас.

— Сёньня толькі забіраю твае паперы, а заўтра й цябе!

— Эх!... ты...

Спусьціў курок рэвольвэра.

Нічога...

— Два,

— Тры,

— Чатыры,

— Нічога...

Нейкая рука рупліва павымала патроны раней. Бацька анямеў...

— А за гэтым, бывай!..

І фігура нырнула ў цемру.

Праз хвіліну ўвесь лягер быў на нагах.

Вылецеў з сваёй палаткі бацька, крыкнуў:

— Лавіць!

Забегала варта...

Куды бегчы? Каго лавіць—ніхто ня ведаў.

Сьмяялася васеньняя ноч касымі брызгамі сваіх падсьлепаватых вачэй.

Сьмешна ёй было бачыць узброеных людзей, якія з перапалоху бегалі, налятаді адзін на аднаго, зьбіваючы з ног, лавілі ня ведаючы каго.

Але яна ведала, чаго сьмяецца, дарма што сьлепаватая.

Яна добра бачыла, хто ўзьняў гэту завіруху.

Ня раз сачыла яна за ім, як ён пад сьветам смаляка перакідваў старонкі „Азбукі комунізму“.

Ня раз падглядала пад вакном, як ён на сходзе, сам вясковы, і такім-жа хлопцам горача тлумачыў:



— Мы ўсе бальшавікі, бо мы—вангард рабочага пролетарыяту...

А грамада ўсё палахліва бегала...

Ноч сыпала мітульгою, падстаўляла хвоі пад ножкі, мокрымі галінамі парола вочы...

— Зьбяры людзей!—голасна загадаў бацька паставому.

Тры выстралы—знак збору—упіліся ў мокрыя кудры ночы.

З смуткам і спалохам на твары зьбіраліся бацькавы ратнікі да палаткі.

— Хто стаяў на варце?..

— Бальшавік! Скаціна!

Ратнік выцягнуўся прад бацькам, нічога не разумеючы.

Бацька падышоў да яго, трасучы кулаком.

— Спаў?.. А можа й сам бальшавік?!.

Ад'ютант бацькі, Дзяргач, кульгавы, з доўгімі лахматымі валасамі, якія праз папаху вылазілі і закрывалі яго вочы, заўсёды быў пад рукой.

І на гэты раз ён ужо стаяў ля бацькі, трымаючы ў сваіх сухіх руках наган.

Бацька злосна выхваціў наган з рук Дзергача і праз хвіліну барабан нагана кашлянуў сьмерцю...

Дзяргач, як і заўсёды, бачачы кроў, радасна захіхікаў у рукаў.

Бацька крута павярнуў у палатку, агледзеў рукамі, што папер няма, задумённа прасядзеў да зары.

Раніцаю ён толькі заўважыў, што на падушцы яго ляжала папера, на якой крывымі літарамі было выведзена:

| |
|---|
| Чакай!<br>Мы вангард рабочага пролетарыяту. |

## 2

Ціха жылося ў Зацішшы.

Нібы ртутная рака, кацілася жыцьцё ў мястэчку.

Ведала мястэчка, што недзе там, за яго межамі, жыцьцё ідзе ня так, як тут.

Прыходзілі адны, прыходзілі другія, але ніхто з местачкоўцаў не разумеў, у чым справа. Чаго яны б'юцца—чырвоныя, белыя.

А стары Лейба кожную суботу йдзе ў школу й моліцца свайму богу. Ну, і чаму-ж яму не маліцца.

Няхай ня моляцца комсамольцы.

А стары Лейба ня тое, што Мойша. Ён з комсамольцамі нічога супольнага ня мае. Ён у бога верыць.

І ня чуў нават Лейба, стары, любячы бога Лейба, нездаволены адными комсамольцамі, што да яго мястэчка,—да мястэчка, дзе ён радзіўся, жыў,—насоўваюцца чорныя маланкі. Ня ведаў стары Лейба, не зрабіўшы за ўсё сваё жыцьцё нікому дрэннага, што хтосьці заражае на яго наган . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Смутны сёньня бацька.

Асколкамі думкі бегаюць:

„Чакай—мы вангард рабочага пролетарыяту“.

Сабраў свой штаб бацька радзіцца. Дзе-б, дзе-б распляскаць той накіп, што ў грудзёх? Дзяргач трымае ў руках карту. Вось, вось—дванаццаць вёрст адсюль Зацішша. Там-бы, там-бы разгарнуцца. Ёсьць каго рэзаць. Вочы Дзергача заблішчэлі.

А там, там, у Зацішшы, жыве яго Мурка,—успамінае Дзяргач,—яго чорнакудрая Мурка. Дзяўчына стэпу, дзікая... Выразаць усіх! Толькі-б яе, Мурку, узяць жыўцом.

— Ну, ты, крывы чорт, чаго задумаўся?...—працадзіў бацька.

— Трэба выступіць! Дзе жыды? Куды?.. Зьбірай людзей! Разьбіць па дваццаць. З чатырох бакоў на мястэчка...

Я з дваццацьма з боку лесу.

Рэж!.. Бяры!..

Весялей толькі! Пасьля сыгналу—збор . . .

. . . . . . . . . . . . . . .

Нібы чуў кудлаты лес бацькаў загад, нібы сэрца яго імшалае забалела. Сударгай зьвяло кусты і нібы частка іх адарвалася і папаўзла ад стану бацькі. Шмат таемнага ў лесе. Здалёку—куст, а прыгледзішся—сьвітка саматканая. А яшчэ бліжэй глянеш—таемную фігуру ўбачыш. А цяпер ня кусты паўзьлі. Можа і кусты

папаўзьлі-б, але прырасьлі яны сваімі карэньнямі к лесу і ня могуць выпаўзьці з яго. А кожны кусьцік беларускіх лясоў, каб мог толькі выбрацца з лесу, шмат чаго надзвычайна цікавага расказаў-бы. Толькі дзеля гэтага цяпер паўзьлі ня кусты, а юнак дзіця лесу, які зрадніўся з ім. Выбраўшыся на дарогу, юнак падняўся і з усіх ног пусьціўся да сяла.

Першым, каго спаткаў ён, быў яго найлепшы сябар Мікітка.

— Склікай сабе ў хату ўсіх комсамольцаў!

І заблішчэлі пяты Мікітавы, які пабег зьбіраць комсамольцаў.

„Склікай“, а сам ня ведаў, што трэба цяпер рабіць. Тое, што Балаховіч прыносіць шкоду краіне і што з ім трэба змагацца—ён ведаў, ён аб гэтым чытаў на старонках газэты „Савецкая Беларусь“.

Толькі дзеля гэтага ён сабраў атрад і тлумачыў такім-жа вясковым хлапцом, як і сам, што мы—вангард рабочага пролетарыяту. І вось толькі дзеля гэтага ён у вапошні час дні і ночы сядзеў у лесе, каб прасачыць стан бацькі. Лёгка яму было сачыць за бацькам у лесе, лёгка яму было прамінуць усе пасты і прабрацца ў палатку бацькі і зусім няпрыкметна выйсьці. Кожная сьцежка, кожны куст, яма і нават воўчае гняздо былі яму знаёмы. А страху ён юнак, дзіцё беларускага лесу, ня ведаў, бо ён нават ня ведаў, што гэта за слова „страх“...

Ён чуў, што рыхтуецца налёт на мястэчка Зацішша.

Гэта яго ўзбурыла, ён толькі і думаў, каб хутчэй спаткацца з бацькам.

Ён ведаў, што ўдасца ажыцьцёвіць сваю думку, памерацца з сілай бацькі.

І ня чула старое Зацішша, што чорныя маланкі ўжо мільгацяць і вось-вось прарвуцца і ўдараць па мястэчку.

І ня чула яно, што нейкая маладая, нясхладная і магутная рука хоча стрымаць гэтыя чорныя маланкі.

Вечар надходзіў...

## 3

Мястэчка заснула.

Ня спала толькі жменька комсамольцаў, якія сталі на варце. Ня спаў і валасны камісар Раеўскі, які атрымаў ад павятовага ваеннага камісарыяту паведамленьне, што ў яго раёне ў лясох зьявілася банда Булаховіча.



Некалькі бяссонных начэй даюць сябе знаць. Цела просіць адпачынку. Але Раеўскі ведае, што працаваць трэба. І схіляецца бледны твар над паперамі; становяцца крывымі радкамі словы данясеньня:

— Усё спакойна. Меры перасьцярогі прыняты...

Раеўскі накінуў падраную шынэльку і вышаў на вуліцу праверыць пасты.

Сьляпымі вачыма вакон глядзелі гарбатыя хаткі мястэчка.

На вуліцы ціха.

Толькі падраныя боты Раеўскага трывожна пішчэлі на ўсе галасы і будзілі спакой местачковых вуліц.

Падышоўшы да школы, Раеўскі ўбачыў у вакне настаўніцы сьвет.

Раеўскі заглянуў у вакно. У пакоі настаўніцы сядзеў фэльчар, местачковая хадзячая газэта, які ведаў заўсёды ўсе навіны.

Ён даўно ўжо быў безнадзейна закаханы ў настаўніцу і цэлыя вечары сядзеў у яе... Сёньня ён даўно ўжо вылажыў свае навіны і цяпер маўчаў. А настаўніца чытала кніжку і чакала, калі фэльчар выйдзе.

Ня раз і ня два разы фэльчар памыкаўся загаварыць да настаўніцы...

Шмат чаго хацеў ён ёй расказаць: аб сваім пачуцьці, аб тым, што ён даўно ўжо зьбіраўся прызнацца...

Але думка чаплялася за думку і нявольна, разьняўшы рот, каб прагаварыць, сьціскаў яго знова.

— Ага,—спахваціўся фэльчар і такім-жа стрывожаным голасам казаў далей:

— Вы чулі, што да Раеўскага прышла паперка перасьцярогі, быць на варце...

Хаця-ж заўсёды фэльчар быў толькі назолай настаўніцы, цяпер ён нібы прачытаў яе думкі.

Гэта яе адразу ўскалыхнула. Яна старалася ад фэльчара даведацца больш падрабязна а бандзе, скуль і калі прышла папера. Але фэльчар маўчаў.

Гадзіньнік, які вісеў адзінока на сьцяне, соладка хроп, пасьля раптам усхапіўся і сваім мядзяным малаточкам стаў разганяць у пакоі смутак ночы, адбіваючы тры гадзіны.

Шэраю вільгацьцю, нібы коўдраю, засьцілалася паветра.

Халодныя пырскі да касьцей марозілі цела.

Хаты—нібы авечкі, зьбітыя ў кучу—прытуляліся да зямлі.

Раеўскі абышоў пасты. Комсамольцы ня спалі. Яны расклалі невялікія кастры і сядзелі каля іх, вядучы між сабою ціхую гутарку.

Нэрвы іх былі напружаны, усё зьвінела жаданьнем барацьбы, а ў соннай галаве іскрамі мігацелі думкі.

Раеўскі, здаволены слаўнай вартай, вяртаўся да хаты, калі ў паветры блiснулі чырвоныя маланкі і раздалася страляніна.

— Сядзелі... Падышлі незнаёмыя. Завялі гутарку. Пытаюцца... Ззаду нехта ўткнуў у сьпіну штык Галубоўскаму і Хведарынчыку. Ня ўстрымаліся. Кінуліся назад, сюды. Вось і ўсё...

Апошнія словы былі заглушаны шлёпаньнем капыт па дарозе Некалькі салдат з коньніцы нясьліся ўскач па вуліцы.

— Сюды!—Ціха выгаварыў ваенком

— Кладзіся! На прыцэл!.. Але коньніца не даехала да іх. Яна астанавілася каля ганку лепшай у мястэчку хаты..

Праз хвіліну прыклад абразанкі забразгатаў па вокнах і дзьвярох.

Раеўскі моцна сьціснуў рукаятку свайго бульдога.

Ня памятаючы сябе, ён кінуўся ў той бок, дзе пакінуў на варце комсамольца.

— Стой!—крыкнуў Раеўскі і адначасна выпусьціў з бульдога некалькі куль.

— Свае!

— У чым справа, кажэце,—задыхаўшыся, запытаўся Раеўскі.

— Зьнятыя з пастоў... Галубоўскі і Хведарынчык—забіты...

— Кажэце, як дапусьцілі?—ціха прытуліўшыся да сьцяны, запытаўся ваенком.

— Уставай! Прымай гасьцей!—загадаў са сьмехам голас.

Нейкая фігура палахліва выглянула ў вакно і тутжа, падстрэленая, адкінуўшыся, звалілася на падлогу.

— Плі!—сударажна загадаў ваенком.

„Дапамогі ня будзе“, безнадзейная думка мільганула ў яго галаве.

А ворагі насядалі.

На ганку валаснога выканаўчага комітэту стаяў Дзяргач. Валасы з-пад шапкі яшчэ больш раскудлачваліся і, як сабачы намордпік, аплялалі яго твар.

Два ратнікі трымалі Раеўскага.

— Ну, таварыш камісар, як маецеся? Не чакалі, мусіць, нас у госьці? Ну, што-ж? Давайце пагутарым...

— Адказвай!—зьмяніўшы свой іронічны тон на злосны, буркнуў Дзяргач.

— Як сьмеў са зброяй выступаць супроць народнай арміі?

— Супроць бандытаў,—слабым, але рашучым голасам адказаў ваенком.

— Ах ты,—і Дзяргач хапіўся за наган, але новая думка заварушылася ў яго галаве

— Дзе сем‘і комуністых? Помні, сукін сын, не адкажаш—як сабаку задушу!

Раеўскі адказаў гнеўным поглядам.

Раптам сярод ратнікаў пачуліся крыкі. Нейкая кабета прабівалася да ганку.

Ратнікі ня пушчалі.

— Хто там?—насупіўся Дзяргач.

— Жонка гэтага камісара,—далажыў адзін з ратнікаў. Маленькія вочкі Дзергача заіскрыліся.

Ён нешта шапнуў свайму памоцніку. Той адышоў; праз момант сьцяна ратнікаў расступілася і прапусьціла жонку Раеўскага.

— А божа-ж ты мой!

— Маўчы,—спыніў жонку Раеўскі,—бачыш, жывы яшчэ.

—Ну, ты будзеш адказваць, ці не?—крыкнуў Дзяргач.

Раеўскі сьціснуў зубы і маўчаў.

— Тады,—Дзяргач махнуў рукою,—у рэчку яго!

Жонка заенчыла яшчэ больш...

І шкода стала Раеўскаму жыцьця, шкода стала нават гэтага соннага мястэчка. Раеўскі гатоў быў упасьці к нагам Дзергача і прасіць міласьці.

— Дзе сем'і комуністых?—успомніліся яму словы Дзергача.

І цьвёрдая рашучасьць вярнулася да яго. Яго павялі.

Дарэмна галасіла жонка.

Ні слова не сарвалася з вуснаў Раеўскага.

4

Вясковыя комсамольцы нутром разумеюць, што барацьба з Балаховічам—гэта барацьба за сялянства. Вясковыя комсамольцы рашылі дзейнічаць.

Хутка сабраўшыся на кліч свайго „атамана"—сакратара вясковай комсамольскай ячэйкі—комсамольцы радзіліся аб тым, як перашкодзіць бацьку выканаць думку абналёце на Зацішша.

— Таварышы, вайсковых частак, якія-б нам дапамаглі, навакол няма. Трэба спадзявацца толькі на свае сілы.

— Нічога, нічога. Мы ня лыкам шытыя. Справімся самі з гэтым збродам!—загудзела грамада.—У Чырвонай арміі шмат сваёй працы. Не павінны мы дапусьціць, каб тут, каля нашых вёсак, гінулі чырвонаармейцы ў барацьбе за нас з гэтаю поганьню. Самі павінны справіцца!

— І здолеем!—крыкнуў гарачы Сьцёпка.

— Здолеем, бо мы — вангард рабочага пролетарыяту,—цьвёрда перакананы ў праваце сваіх слоў, казаў сакратар ячэйкі.

— Ну, дык рыхтуйцеся-ж, хлопцы, а я выйду крыху гляну на вуліцу.

І сакратар вышаў.

— Эх, хутчэй-бы,—крыкнуў Сьцёпка.

— Але-ж і маладзец Алесь,—сказаў Янка, які гатоў быў за свайго сакратара „ў агонь і ў ваду".

— Ого, Алесь,—адгукнуліся хлопцы.—Ён, брат, самога чорта скруціць. Гэта-ж трэба: прасачыў за Бала-

ховічам, пабываў у палатцы, прыгразіў і пашоў. Нібы ў сваёй вёсцы арудуе...

— Алесь, Алесь,—ён брат усё можа!—з бліскучымі вачыма крыкнуў Сьцёпка.

А Алесь тымчасам, седзячы на прызьбе сваёй старэнькай хаты, ледзь-ледзь пісьменны, Алесь выводзіў на зямлі пальцам, каравым вясковым пальцам, нейкія ўзорыкі.

Толькі вочы жмурыліся сваімі залатымі брывамі і падглядалі на той малюнак, што рабіў у закінутай вёсцы гэты малады комсамолец з бліскучымі вачыма. Толькі раптам ён чамусьці ўстаў і пашоў у хату, у якой яго чакала грамада.

— Сьцёпка і Янка, са мной! А вы, хлопцы, пакуль што пачакайце тут. Праз дзесяць хвілін мы выступаем!

З грамады вышаў Сьцёпка з Янкам і пашлі за сваім сакратаром, здаволеныя тым, што ён выбраў толькі іх.

І ўдвух яны пашлі за сваім Алесем, гатовыя во... во... памерці за яго, калі толькі ён скажа, што гэта патрэбна.

Толькі Алесь гэта ня лічыў патрэбным, а падвёў і пасадзіў іх на тэй прызьбе, на якой ён толькі што сядзеў. І, водзячы пальцам па зямлі, Алесь пачаў паказваць сваім таварышом, якія былі ім выдзелены „у начальнікі“, плян пабеды над бандай Балаховіча, плян, які яго нязграбным пальцам быў выведзен на зямлі.

Затаіўшы дыханьне, слухалі яго „начальнікі“.

— Так, так, яны разумеюць Алеся... Усё так проста...

Яны дзеляцца на два атрады; адзін атрад павядзе Янка, а другі—Сьцёпка.

— Вось так, адзін вунь з гэтага боку, а другі вось туды, дзе на зямлі выведзены пляц у мястэчку.

А Алесь?

— Алесь пойдзе раней іх. Пойдзе адзін і проста ў мястэчка. Так, толькі так яны захвацяць бандытаў.

## 5

Раеўскага прывялі да рэчкі.

Рэчка чарнела сінявата-шэрым берагам і пужала сваёй чарнатою.

Бераг увесь быў пакрыты людзьмі.

— Кідай яго!—скамандваў старшы.

Памерці маладым, калі наперадзе столькі працы, столькі жыцьця.

І калі яго схапіла некалькі рук, ён сабраў усе сілы і рвануўся. Паднялася суматоха.

У паветры павісла моцная, сакавітая лаянка. Камок людзей круціўся над абрывам. Раптам... Дзікі крык, плеск вады.

Раеўскі зьнік пад вадою. Вынырнуў і скручанымі пальцамі стараўся схапіць сьлізкія халодныя берагі. Ратнікі з цікавасьцю пазіралі на яго. Вось ён учапіўся ў корч.

— Вылезе,—крыкнуў адзін.

Старшы дастаў наган і спакойна-разьмераным рухам прыцэліўся. Суха ляснула... Пачырванела вада, і праз хвілінку ўсё было скончана. . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А на вуліцах стогн стаяў.

Ратнікі п'яныя. Убягаюць у хаты. Ляцяць адтуль усе хатнія прылады. Пушынкі, як матылькі, у паветры носяцца.

У хаце фэльчара спакойна.

Фэльчар толькі што вярнуўся ад настаўніцы і сабраўся класьціся спаць. Пачуўшы страляніну, адразу зразумеў, у чым справа. Але спакойна зьняў абраз і павесіў на вакно. А па твары бегала ўсьмешка:

— Так ім і трэба.

Стукнулі ў дзьверы. Фэльчар адчыніў, і ў хату ўляцела чацьвёра ратнікаў.

— Давай грошы, жыд!

Душа фэльчара схавалася ў пяткі.

— Я... я ня жыд... я...





— Грошы давай! — Твары п'яныя, чырвоныя. А ў вачох зьвярыная ўпартасьць.

— Грошы давай!

Пачалі пароцца ў рэчах.

— Што вы робіце... Вы... ня маеце права... я...

— Маўчы!.. а то, — і каравая рука выразна піхнула пад нос фэльчара рэвольвэр.

Фэльчар акамянеў ад страху. Але тут здарылася нешта, што ўскалыхнула і яго. Адзін з ратнікаў забраўся ў яго шафу, дзе ляжалі лекарскія прылады, пераплёўшыся з кнігамі і нейкімі баначкамі. Усё паляцела на падлогу.

— Разбойнікі! — закрычаў фэльчар і кінуўся ратаваць сваё дабро. Але рэвольвэр аказаўся спрытнейшым за яго...

Шкляныя вочы фэльчара з задзівеньнем глядзелі ў столь. Ня мог зразумець фэльчар, зашто-ж яго... Ён-жа так ня любіў бальшавікоў, так чакаў, пакуль прыдзе народная армія.

Стары Лейба толькі чацьверты раз перавярнуўся на другі бок. Страляніна яго разбудзіла. Ён падняўся... Хата была поўная людзей. Вось адзін зграбае ў коўдру падсьвечнікі... Старыя, дзедаўскія, кованыя падсьвечнікі.

— Тата, тата!..

Гэта адбівалася ад двух дужых ратнікаў маладая дачка Лейбы.

— О, зьвяры, — прастагнаў Лейба,—будзьце вы... І ўпаў з разьбітаю прыкладам галавою.

А па вуліцы соваліся нагружаныя дабычаю ратнікі. І несьлі на сябе вечнае пракляцьце старога богамольнага мястэчка.

Дзяргач у гэтай „працы“ удзелу ня прымаў. Толькі адна думка, зьвязаная так моцна з сьвятым для яго іменем „Мурка“, корчыцца ў галаве.

Узяўшы з сабою пару хлапцоў, Дзяргач пашоў у напрамку да школы. Ён ведаў, што яго Мурка—настаўніца. Падышоў да школы. Невялікая, але новая будыніна. Над уваходам ён нявольна прачытаў:

— *Беларуская працоўная школа.*

Гэта адразу напомніла Дзяргачу аб настроях яго Муркі.

Міжвольна ўспомніў ён свае юнацкія годы: сэмінарыя... школьная лаўка... чорнакудрая Мурка.

Спадзяючыся прыхільнага спатканьня, ён парашыў зайсьці да яе адзін.

Ратнікі засталіся чакаць на вуліцы.

Страляніна, суматоха ў мястэчку палохала настаўніцу. Выйсьці на вуліцу ня было і думкі. Яна старалася чытаць, каб забыцца, каб ня чуць.

Заскрыпелі дзьверы, і прад сабою яна ўбачыла Дзергача. Ён цяпер меў яшчэ больш зьвярыны выгляд, чым раней.

— Добры вечар...

Настаўніца маўчала, а ў думках хацелася, каб заявярнуўся і пашоў... Яна знала, чаго ён прышоў, але не... цяпер яна толькі паважае аднаго, простага мужыка— Алеся...

— Не пазнаеш?.. І сесьці ня просіш?..

Седзячы ўжо ў крэсьле, Дзяргач не знаходзіў сабе месца. Яму ня трэба было цяпер аглядаць яе пакой, ён гэта здолеў зрабіць у адну хвіліну, як толькі ўвашоў. Цяпер яму хацелася загаварыць з Муркай, азалаціць яе пакой... Але нічога ня вышла. Яму прышлося зьвярнуцца да сваіх звычайных прыёмаў.

Не пасьпела прабегчы хвіліна, як Дзяргач ужо рваў адзеньне настаўніцы, зацягнуўшы яе на ложак.

— Пусьці,—вырывалася Мурка.

Але Дзяргач ня слухаў. Дрыжачымі рукамі ён рваў і камячыў вопратку Муркі. Мурка страціла апошнюю надзею.

Раптам вочы яе заіскрыліся. З-за поясу Дзяргача пабліскваў браўнінг. Мурка ўбачыла яго.

— Чакай,—стараючыся гаварыць ласкавей, стрымала яна Дзергача,—лепш вось так...

І яе левая рука абвіла яго шыю. Ён проста ап'янеў ад нечаканасьці і на хвіліну выпусьціў Мурку з рук.

— Мурачка, родная.

Але вочы яму засьвярліў чорны зрачок браўнінга

— Цяпер паспрабуй, падступіся.

Дзяргач, ашалеўшы ад злосьці, кінуўся на Мурку і зьбіў яе з ног.

Чорны зрачок засьвяціўся маланкаю, і куля прабіла гладкую столь.

Пачуўшы стрэл, у хату ўляцелі ратнікі. Дзяргач пасьпеў ужо адабраць браўнінг. Убачыўшы ратнікаў, кінуў:

— Забраць гэту сьцерву...

Ратнікі паслухмяна выконваюць загад.

— Зараз-жа адвесьці ў лягер да мяне. Толькі помніце: не дагледзіце—са мною жарты кепскія.

Дзяргач застаўся ў хаце адзін.

— Сьцерва! хто мог чакаць? Ну, чакай-жа. Ты ў мяне яшчэ паскачаш!

Вышаў на вуліцу.

Глянуўшы на фурманку, на якой увозілі настаўніцу, пачуў, як нехта крануў яго за рукаў. Дзяргач абярнуўся і ўбачыў Крывашэіна.

Крывашэін—яго блізкі сябра. Разам у Менску ў Беларускай вайсковай камісіі працавалі.

Дзяргач, хіхікаючы, пачаў хваліцца.

— Гэта Мурка!.. як ні ўпіралася, але...

І заліўся рогатам.

Крывашэін прыслухаўся.

— Ты чуеш? Нібі-та страляніна...

На вуліцах узьнялася суматоха. З усіх бакоў мястэчка чуліся частыя стрэлы. Перапалоханыя ратнікі бегалі ўзад і ўперад, падалі, паднімаліся і гэтым яшчэ больш павялічвалі паніку.

## 6

Ніхто не зьвярнуў увагі на маладога вясковага хлопца, які, падазрэнна аглядваючыся ва ўсе бакі, увашоў у мястэчка.

Пачуўшы каля школы крыкі, накіраваўся туды рашучым крокам.

Сьмешны хлапчук. Што ён гэтак сьпяшыць у самую завіруху, у самыя лапы гэтых зьвяроў.

Нібы бяроста на вогнішчы, пакаробіўся твар хлапчука, калі ён убачыў па абодвых баках дарогі яшчэ цёплыя трупы жыхароў мястэчка.

Стогн плыў вільгацьцю па мястэчку. Кроплі крыві на зямлі вілі сьвежае апавяданьне аб толькі-што ўтвораных зьдзеках.

І такое апавяданьне, якое нават у газэце альбо ў часопісі не раскажаш.

Каля ганку папа ён убачыў нейкую грамаду і проста накіраваўся да яе.

Калі-ж яшчэ некалькі крокаў зрабіў хлапчук, дык ужо выразна ўбачыў сярод стаяўшых самога „бацьку“.

Вочы хлапчука весела бліснулі.

— Хто гэта там ідзе?—запытаўся бацька.

— Прыцягнуць яго сюды,—загадаў стаяўшы каля бацькі нейкі начальнік.

Хутка два ратнікі падбеглі да хлапчука.

— Ідзі за мною,—сказаў ратнік.

— Гэта гледзячы на тое, куды ты пойдзеш,—спакойна адказаў хлапчук.

— Не разгаварваць!—голасна закамандваў адзін з ратнікаў.

Хлапчук абярнуўся, глянуў на яго і спакойна запытаўся:

— Чаму, калі ты злуешся, у цябе вочы, як у жабы, на лоб вылазяць?

На гэта ратнік ня ведаў, што адказаць. Ды, праўда, ня было калі адказваць, бо падышлі да ганку.

— Ты як сюды папаў?—грозна запытаўся бацька

— Да ўжо-ж не к табе прышоў. Не палохайся,—адказаў хлапчук. Бацька ўздрыгнуўся, нібо нешта нядобрае ўспомніў. Але, глянуўшы на хлапчука, яшчэ такога маладога ды простага, крыху супакоіўся.

— Ты трымай язык за зубамі, а то скажу, каб яго ў цябе выдралі... Адказвай, як папаў сюды?

— Ды кажу-ж, што не к табе йшоў, а к папу.

— Чаго к папу ў гэтакі час?.

— А таго, што бацька памірае. Трэба-ж яго да споведзі ўзяць.

Бацька Балаховіч супакоіўся. Нават нейкая прыемнасьць лягла на яго твары, бо бацька сам быў набожны.

Але ўсё-ж такі, для пэўнага супакою сказаў сваім ратнікам.

— Адвядзеце яго ў клець ці куды: трэба, каб Дзяргач з ім пагутарыў. Той лепш здолее. У яго і мёртвы загаворыць.

Праз хвіліну вярнуліся ратнікі, далажылі бацьку, што яго загад выканан—хлапчука запёрлі ў склеп. Здаволены бацька адпусьціў ратнікаў „прайціся“ па мястэчку, а сам пашоў у пакой да папа.

Але і ў пакоі ня мог супакоіцца бацька. Ніяк ня вылазілі з галавы словы: „Чакай—прыду, вангард рабочага пролетарыяту“.

А можа гэты хлапчук, гэта і ёсьць той „чакай“...

Але-ж гэта сьмеху варта, каб яго, бацьку гэткай рацi, магло спалохаць такое дзіцянё.

„Не, гэта ня ён“, голасна супакоіў сябе бацька.

Але-ж усё-такі думкі нейкай трывогай варушыліся ў галаве бацькі; каб саўсім супакоіцца, ён рашыў яшчэ раз глянуць на хлопца.

— Гэй, прывесьці яго сюды!—загадаў бацька, але ўспомніў, што кругом нікога няма, бо ён-жа сам адпусьціў сваіх людзей „прайсьціся“...

Ну, а хіба-ж бацька, узброены бацька, сам пабаіцца глянуць на гэтага малога хлапчука.

Бацька перадумаў усё гэта; устаў і пашоў у склеп, у якім сядзеў хлапчук.

Вышаўшы ў сені, бацька выняў наган, адкрыў крук, падняў дзьверцы і крыкнуў:

— Вылазь, сукін сын!

У склепе было цёмна, бацька ніяк ня мог разглядзіць, што там рабілася.

— Вылазь кажу, а то, як шчанюка, падстрэлю,— яшчэ галасней крыкнуў бацька, нахіліуся над склепам, каб разглядзець, дзе-ж ён, гэты хлапчук.

І раптам бацька пачуў, як яго нехта са ўсёй сілы штурхнуў у тое месца, адкуль ногі растуць. Згубіўшы роўнавагу, бацька не пасьпеў уявіць сабе, што гэта здарылася, і калодаю паляцеў у склеп. Адначасна склеп зачыніўся і нехта рупліва пазачыняў крукі і крыкнуў:

— „Мы—вангард рабочага пролетарыяту“...

## 7

Узьнялася паніка, але паніка, якая яшчэ ні разу ня ўздымалася ў часе налёту бацькавага.



Няведама, хто ўзьняў страляніну, і ратнікі пачалі ў паніцы ўцякаць.

Пранеслася вестка—бацька бясьсьледна прапаў...

Крывашэін, хлапец, маладзейшы за Дзергача, замятушыўся і, сабраўшы чалавек 6 ратнікаў, пашоў па мястэчку з вобыскам.

Дзяргач крышку йначай. Ён чамусьці падумаў, што тут бацька здолее яму напаскудзіць. Яму здавалася, што бацька паехаў разам з Муркаю.

Ня зусім прыемна. Другой думкі ў Дзергача і ня было. Упэўніўшы сябе ў гэтым, Дзяргач сеў на свайго каня і... пыл слупом узьвіваўся і расплываўся ў шырокім прасторы.

8

Што было рабіць далей. Алесь разумеў, што вызваліць Зацішша можна было толькі адным—нагнаць паніку. Але паніка—гэта часова. Ачухаюцца ратнікі—бяда.

— А Мурка!

І здабытая перамога страціла ў Алеся свой бляск

І вось знаёмай вуліцай...

Алесь пастукаў у дзьверы школы.

Адказу няма.

Алесь таўхануў нагою дзьверы і ўвашоў у пакой.

— Што гэта?

Скамечаная пасьцель, раскіданыя рэчы.

— Нехта пабываў. І Муркі няма.

І Алесь пачаў аглядаць пакой.

Раптам нейкі пакет зьвярнуў яго увагу. Ён ляжаў на падлозе каля ложка. Алесь падняў яго.

На пакеце было напісана:

| |
|---|
| Зусім сакрэтна<br>В. ДЗЕРГАЧУ. |

— Што за Дзяргач?

Алесь ускрыў пакет.

Спачатку ён чытаў паперу, вынятую з пакету спакойна. Але мала-па-малу твар яго сьвятлеў.

— Вось, гэта, дык так.—Алесь нават падскочыў на месцы.

І выскачыў з хаты.

У мястэчку даўно ўжо стала спакойна. У валасьці комсамольцы наладзілі мітынг і ўгаварваліся, што рабіць далей.

Па вуліцах зьбіралі трупы забітых.

Алесь прышоў у валасьць. Адразу папрасіў слова.

— Так што, хлопцы, вось якое становішча. Бацька ў нашых руках. Трэба яго пільнаваць. Перашлём потым у Слуцак.

Організавалі часовы комітэт, і сход закончыўся.

Алесь адазваў Сьцёпку.

— Вось што, братка! Іду даганяць бацькавых дзетак. Ты ведаеш... яны Мурку зьвезьлі.

Сьцёпка, які даўно ведаў пра адносіны Алеся да Муркі, падняў вочы.

— Не, брат, я цябе аднаго ня пушчу. Калі ня хочаш, каб усе вучаняты йшлі, то мяне з сабою вазьмі.

— А хто тут застанецца?—пачаў здавацца Алесь.

— У вучанят заўсёды знойдзецца кіраўнік.

Алесь раздумаўся.

— Добра, пойдзем разам. Трэба толькі пагаварыць з хлопцамі.

Праз паўгадзіны Алесь і Сьцёпка ўжо зьліліся з сінім лесам... А ў Зацішшы ў валасьці, задыхаючыся ад гневу, у цёмным падвале сядзеў бацька.

— Папаўся, як парасё ў мех.

Выхаду няма. Каля дзьвярэй стаіць на варце комсамолец. Бацька ня ведаў сіл сваіх ворагаў і ўяўляў сабе, што тут іх цэлая армія.

— Што цяпер будзе? На страсе нешта заскрэблася.

— Котка, мусіць, — падумаў бацька.

Але котка ня спыняла сваёй працы і хутка ў падвале пракраўся праменчык сьвету.

Бацька ўздрыгануўся, там быў чалавек. Гэты чалавек стараўся не рабіць шуму й старанна зьдзіраў кавалкі гонтаў. Са страхі схіліўся знаёмы твар Дзергача. Бацька ўсьцешыўся.

Ц-с-с-с...—прыпыніў Дзяргач —Трэба ўцякаць.—І спусьціў бацьку вяроўку. Праз пару хвілін абодва былі ўжо за мястэчкам, дзе іх чакалі коні.

Паскакалі.

— Як гэта ўсё сталася?—парушыў маўчанку бацька.

— Я проста не разумею. Як гэта кучка дзяцей магла так напалохаць атрад,—адказаў Дзяргач.

— Як кучка дзяцей?

— Проста. Вы ведаеце, хто падняў гэту паніку!

— ?

— Кучка паршывых комсамольцаў. Вось схапілі вас ды стрэлілі некалькі раз, дык нашы бараны й памяць страцілі.

Бацька быў агарошаны.

— Сорам, страшэнны сорам,—думаў ён.

Ехалі лесам.

Абапал дарогі дрэвы насупіліся, працягваюць каравыя лапы, каб затрымаць бацьку, хлешчуць па вачох іголкамі хвоек.

— Забойца,—шэпчуць, а між кустоў, пры дарозе— чатыры пары ваўчанят бліскучых убачылі падарожных.

— А, падла, уцёк такі,—са злосьцю працадзіў Алесь, цікава, хто яго вырataваў?

Алесь прыслухаўся да гутаркі.

— Слухай, Дзяргач,— зьвярнуўся бацька да свайго памоцніка,—я лічу, што нам трэба адамсьціцца. Дагонім зараз ратнікаў і тады... усё начыста, каб і духу ад гэтага праклятага мястэчка не засталося.

„Дзяргач“, урэзалася ў вушы Алеся, „дык вось каму быў адрасованы пакет“...

## 9

Вярстах у пяці ад мястэчка пачалі зьбірацца ратнікі. Страх, які заўладаў, імі яшчэ не прашоў. Ім здавалася, што вось-вось ізноў наляціць на іх вораг. І як стада бараноў, зьбіўшыся ў кучу, чакалі яны ворага.

Афіцэры выбіваліся з сіл.

— Бацькі няма, дзе бацька,—праносілася ў іх галовах. Але ратнікі яшчэ ня ведалі, што зьнік бацька.

У лягэр вярнуўся Крывашэін.

— Дзе бацька?—абступілі яго афіцэры.

Крывашэін толькі паціскаў плячыма.

— Трэба, панове, супакоіць ратнікаў. Мы яшчэ ня ведаем, хто на нас нападаў. Трэба навесьці парадак.

Афіцэры толькі пераглядаліся.

— Ну, што-ж мы можам зрабіць?

Але Крывашэін аказаўся самым упартым з іх.

— Трэба супакоіць!

І, як чорт, замятаўся між ратнікаў.

— Стаць у шэрагі,—заравеў ён.

Адзін з ратнікаў мятнуўся ў бок.

— Стой!—І не чакаючы, пакуль той спыніцца, ляснуў з нагана. Ратнік упаў.

Выгляд забітага таварыша працьвярэзіў ратнікаў.

— Стройся,—выходзіў з сябе Крывашэін.

І выстраіліся ратнікі. З гэтаю групаю Крывашэін пачаў аднаўляць парадкі.

Пад лесам паднялася хмара пылу, і праз пару хвілін Крывашэін убачыў Балаховіча і Дзергача.

Ён кінуўся ім насустрэчу.

— Нарэшце.

— Што тут было?—запытаў бацька.

Крывашэін у кароткіх словах расказаў, у якім становішчы ён застаў лягэр.

— Сволачы,—вылаяўся бацька.

Дзергачу прышла ў галаву новая думка.

— Трэба, каб павесяліліся хлопцы,—сказаў ён.—Іначай гэта паніка можа мець шкодныя вынікі.

Бацька заўсёды і ва ўсім згаджаўся з Дзергачом.

І Дзяргач зьвярнуўся да ратнікаў:

— У нагароду за вашу храбрасьць бацька дазваляе вам сягоньня павесяліцца.

А ў абозе ўжо выгружалі з вазоў бочкі з гарэлкаю.

Праз паўгадзіны лягэр прыняў новы выгляд. Бацька з Дзергачом хадзілі між шэрагаў палатак і падбадзёрвалі ратнікаў.

Пры разгроме Зацішша ня ўсе ўцяклі з пустымі рукамі. У многіх кутках лягэру, побач з гарэлкаю, зьявіліся карты. Ратнікі рэзаліся ў „вачко“.

Вось сабраўся гурток чалавек у дваццаць. Некалькі пар шпараць пад гармонік:

Эх, ты, Юрачка,
Што ня жэнішся?
Прыдзе зімачка—
Дзе падзенешся.

А гармонік не змаўкае. Разгуляліся хлопцы.

Прыдзе зімачка—
Дзе падзенешся?
Ці ў полі пад кустом...

Здаволены бацька. А там, у суседняй групе, адзін з ратнікаў зацягвае:

Эх, яблычка,
Куды коцішся...

Шум вясельля не змаўкае. Толькі лес ловіць водгаласы п‘янага разгулу і аддае іх назад.

Я на бочцы сяджу,
А пад бочкай сьлізка...

Папацелі твары ратнікаў. Вось адзін чырвоны, як рак, падняўся і, хістаючыся, адышоў ад сяброў.

— Ігнась, куды ты?

— Я... ік... зараз, я толькі адну рэч прынясу.

— Што з ім?

— Прадуў усе грошы. Пашоў, мусіць, па падсьвечнікі жыдоўскія; давайце, хлопцы, кіньма граць, пакуль ён прыдзе.

— Засьпяваем „камара“!

І ўжо выводзіў:

— Гэй, у лесе пры даліне
У нас сталася бяда...

Цэлы хор падхапіў:

...ў лесе, ў лесе
у нас сталася бяда...

А лес адказваў:

...нас сталася бяда...

Доўга ня спынялася гульня ў лягэры бацькі.

Дзяргач таксама выпіў. Успомніў пра Мурку.

Пакінуў бацьку й пашоў у сваю палатку.

Мурка ня ведала, што з ёю робіцца, яна чула шум гулянкі, чула песьні, лаянку... Ёй стала страшна. Яна хацела выйсьці, але пры выхадзе стаяў вартаўнік.

Было позна.

Раптам Мурка ўздрыганулася і адступіла назад. У палатку ўвашоў Дзяргач.

— Ну, вось мы ізноў спаткаліся,—няцьвёрдым голасам прамарматаў ён.

Яшчэ большы страх апанаваў Мурку. Яна разумела, што ёй цяпер няма адкуль чакаць ратунку. Дзяргач п'яны, і ён гаспадар становішча.

Што рабіць?

Дзяргач падышоў бліжэй.

Але раптам ён пачуў, што нехта йдзе да палаткі. Яго вочы з дасадаю ўставіліся на ўход.

Увашоў Балаховіч. Ногі даўно ўжо перасталі слухаць свайго гаспадара. Ішоў бацька, хістаючыся, як човен.

— В-ось і я прышоў да цябе, Дзяргач,—запінаючыся і старанна выводзячы кожнае слова, сказаў бацька.

— Ну, у чым справа?

— А справа ў тым, што я... ік... не пасьпеў табе... ік... падзякваць за сваё вызваленьне... ік...

— Ну, добра, добра! Потым можна будзе падзякваць.

— Н-ну, калі потым, дык потым.

І бацька сабраўся ўжо даць задні ход, калі раптам яго погляд упаў на Мурку.—А гэта... ік... хто?—І пачаў уважна разглядаць Мурку.

— П-прыгожая дзяўчына. А скуль ты яе выпараў? Я... ік... начальнік, а ты без майго ведаму... ік... дзяўчат к сабе цягнеш. Але ты, брат, Дзяргач... ік... малайцом, хоць і сьвіньня. Давай, брат, пацалуемся!

І бацька аблапіў Дзергача, які проста з сябе выходзіў. Абсьлюніўшы твар Дзергача, бацька павярнуўся і пашоў.

Пры самым выхадзе ён спыніўся, як-бы нешта ўспомніўшы.

— Ага, Дзяргач! Чуць не забыўся...

Павярнуўся бацька і хацеў нешта сказаць Дзергачу, але тут погляд яго ізноў нашчупаў Мурку. Бацька змоўк.

— Ну, што яшчэ,—нецярпліва запытаўся Дзяргач.

— Я, брат, забыўся... Нешта хацеў табе сказаць... хачу, браток ты мой, жаніцца.

— І гэта ўсё?

— Н-не. Ты зразумей мяне, хачу жаніцца. Т-ты глянь на мяне, чым я не жаніх,—і „жаніх“ здаволена ікнуў.

— Паненачка,—зьвярнуўся ён да Муркі,—скажэце вы мне: чым я не жаніх?—І, прыдумаўшы нешта новае, дадаў:

— П-панечка, ці ня пойдзеце вы за мяне замуж.

Дзяргач пачырванеў ад злосьці.

— Радзіў-бы вам праспацца.

Але ў бацькі цяпер моцна сядзела думка, што ён начальнік.

— Маўчаць,—крыкнуў ён і пастараўся прыняць грозны від.

Вышла такая сьмешная фігура, што нават Мурка ўсьміхнулася.

— Хто тут начальнік?!—хрыпеў бацька:—Я ці ты? І бацька горда ткнуў сябе пальцам у грудзі.

— Я хачу жаніцца і жанюся, і ніхто мне ня можа перашкодзіць. І ты ня можаш мною камандваць. Не дапушчу!

Трохі падумаўшы, бацька сказаў:

— А за жонку сабе вось гэту дзяўчыну бяру. І ты мне... папа сюды!

Зморан такою доўгаю прамоваю, бацька змоўк.

— Ну-ну, паненачка, пойдзем са мною,—распачаў ён ізноў праз хвіліну. І, раскрыўшы рукі, накіраваўся да Муркі.—Пацалуй мяне, ж-жоначка!

Дзяргач ня мог ужо больш выцерпець.

— Чэсьцю прашу пакінуць маю палатку,—увесь чырвоны ад злосьці, кінуў ён бацьку.

Але той нічога ня чуў і ня бачыў. Дзяргач, бачачы гэта, рашыў зрабіць нешта другое. Ня кажучы ні слова, ён падышоў да бацькі, узяў яго за каўнер, моўчкі падцягнуў да выхаду і, паддаўшы каленам, выкінуў яго вон.

Чуваць было, як лаяўся бацька, усё цішэй і цішэй і нарэшце закончыў салодкім храпам.

Дзяргач адвярнуўся да Муркі.

— Ну, цяпер мы зноў адны. Мурка адказала яму паглядам, поўным страху.

— Як-жа ты думаеш цяпер гаварыць са мною? ізноў так, як у Зацішшы?—іронічна запытаў Дзяргач.

— Ну, што-ж ты маўчыш? Ты цяпер—мая ваенная здабыча, а я цябе так лёгка не адпушчу. Воляю ці няволяю, а я цябе вазьму.

Мурка адступала далей.

— Пашкадуй!

— Ха-ха-ха! Загаварыла такі. У чым цябе пашкадаваць? Я-ж нічога благога рабіць ня зьбіраюся. Я толькі хачу глянуць у твае вачаняты. Ці такія яны, як бы-

лі раней? Ты-ж, здаецца, калісьці ня так варожа на мяне глядзела.

І сам падышоў зусім блізка. У вачох загарэліся зьвярыныя агні.

— Ці варта час траціць.

Схапіў дзяўчыну, паваліў на зямлю, пачаў рваць вопратку.

— Адзін пацалунак!

Нешта страшнае было ў яго вачох, і Мурка прарэзьліва закрычала.

— Ратуйце!

У гэты час Дзяргач пачуў, як дзьве пары моцных рук схапілі яго і паваліді.

Праз хвіліну ён ляжаў на зямлі з завязанымі вачыма, скручаны па руках і нагах моцнымі вяроўкамі і з заткнутым ротам.

Настаўніца пазнала свайго вучня.

— Няўжо гэта вы, Алесь, адратавалі мяне?

Алесь канчаў вазіцца з Дзергачом.

— Добра, што ў пару пасьпелі.

— Але вы-ж загінеце тут, --баязьліва сказала Мурка —Вас-жа толькі двое.

Алесь пераглянуўся са Сьцёпкам.

— Трэба было-б і яго ўзяць з сабою,—сказаў Сьцёпка, ткнуўшы нагою Дзергача.

— А на чорта ён нам здаўся,—адказаў Алесь.

І, успомніўшы, што яны не адны, Алесь зьвярнуўся да Муркі.

— Цяпер трэба ўцякаць.

Выбраліся з палаткі. Ноч чорным параванам пакрывала сонны лягэр.

Ніхто не заўважыў тры цені, якія скальзнулі між палатак і праз некалькі хвілін зьліліся з цёмнаю сьцяною лесу.

Але як толькі ўвашлі яны ў лес, іх спыніў крык:

— Стой! Хто йдзе?

— Свае!—голасна адказаў Алесь.

— Пароль?

Алесь ціха даў загад Сьцёпку і настаўніцы ўцякаць, а сам стаяў нярухома.

Праз хвіліну збоку хруснуў валежнік. Алесь радаваўся. Ён ведаў, што гэта Сьцёпка і настаўніца ўцякаюць.

— Пароль! А то страляць буду,—пачуўся зноў голас з цемры.

— Ты што, асьлеп? Мяне не пазнаеш?—Кажучы гэтыя словы, ён падышоў да самага ратніка. Ратнік глянуў, вытрашчыў вочы і выцягнуўся ў струнку. Перад ім стаяў сам бацька. Хіба ратнік ня ведаў мундзіру бацькавага, хіба-ж ён яго не спазнаў? Ой, спазнаў і добра...

— Не спазнаў вас па голасу,—баязьліва захіхікаў ратнік.

„Бацька“, ня кажучы больш ні слова, пашоў „дамоў“, узяўшы напрамак к палаткам.

Ратнік зноў астаўся на варце... Нічога не адказаў... Думаў ён, што „бацька“ злуецца на яго за тое, што не спазнаў яго адразу. Вось будзе сварка...

А „бацька“, прашоўшы, крокаў 50, стаў, прыслухаўся і павярнуў у другі бок... Шпаркім крокам далей ад палатак. Адышоўшы, пачаў бегчы.

Адбегшы так вёрст чатыры, стаў, зноў агледзеўся, пераведаў дух і папраавіў сваю вопратку.

— Ну, і будуць сьмяяцца хлопцы, калі ўбачаць мяне ў гэткай вопратцы.

— І дадумаўся-ж я разьдзець бацьку... Але добра, што зрабіў так, іначай справа была-б дрэнная.

Добра, хоць памятка застанецца па бацьку... Але і будзе рогат...

Праўда, можа было-б лепш забіць. Не, Алесь не хацеў гэтага рабіць. Бацьку ён рашыў жыўцом забраць і аддаць чырвоным. Забраць цяпер з сабой ня было ніякае магчымасьці.

Надыходзіла раніца...

Блакітнаю хусткай з чырвонай каймою абвязалася неба.

Зазьвінелі птушкі.

Неяк яшчэ больш сьвяжэйшым здаваўся подых ветру. Раптам Алесь пачуў далёкі выстрал.

Дрэвы шалахнулі лісьцямі, нібы кудрамі махнулі— эт, вось бачыш, зноў пачынаюць страляніну.

І, сапраўды, з боку палатак усё часьцей і часьцей зьвінелі выстралы.

Толькі цяпер Алесю прышло на думку тое, што з ім няма Сьцёпкі і настаўніцы.

Гэтая страляніна зноў трывогаю адгукнулася ў яго грудзёх.

10

Сьцёпка, як толькі даляцеў да яго голас Алеся: „Уцякай“,—узяў за руку настаўніцу і хутка пацягнуў за сабою ў лес. Мокры лес дышаў сьвежасьцю, нібы вось толькі-толькі ён выкупаўся ў расе і разьлёгся на ўвесь свой лахматы прастор. Толькі дзе-ні-дзе трухлявыя, згніўшыя карчы лілі свае бела-сьнежныя праменьні.

— Добра ў лесе ноччу!—думаў Сьцёпка. А думкі Сьцёпкавы, нібы п‘яныя, хісталіся пад шапкай. Больш за ўсё нездаволены думкі былі тым, што Балаховіча прышлося ў палатцы пакінуць.

— Ну, ці ня крыўда, нават забрацца ў самую палатку да самога бацькі, дый пайсьці так проста, ні з чым. Эх, а каб бацьку цяпер вялі яны ўдвох, Алесь і Сьцёпка, вось добра-б было! А што-б хлопцы сказалі? О, хлопцы—яны-б і ня ведалі, што гаварыць,—разважаў Сьцёпка.

Акунуўшыся ў свае думкі, ён зусім не глядзеў, куды вялі іх лясныя сьцежкі.

А сьцежкі, нібы сам лясун, кружыліся і кружылі Сьцёпку. А тут яшчэ, як на бяду, пачуў Сьцёпка, што рука настаўніцы неяк пацяжэла і пацягнула яго назад.

Хацеў запытаць Сьцёпка, у чым справа, ды не пасьпеў. Настаўніца, як падбіты жытнёвы колас, адразу ўпала на зямлю.

Ня ведаў Сьцёпка, што рабіць яму, як ратаваць яе,

ведаў толькі адно—яму даверыў Алесь настаўніцу, ён абавязкова павінен давясьці яе ў сваю вёску.

Прыслухаўся Сьцёпка.

Дышыць.

Ну, дык у чым справа? Ня ведаў ён, вясковы і зусім просты, што гэта ў настаўніцы бывае ад празьмернай нэрвовай напружанасьці і зморанасьці.

Сеў Сьцёпка разам з упаўшай, глядзеў і чакаў...

Дужа цяжка было глядзець Сьцёпку, як настаўніца, нібы мёртвая, белая і з адчыненымі вачыма, ляжала,—але-ж чым дапамагчы, але-ж як?

Адно зразумеў Сьцёпка.—Трэба хутчэй у вёску, да фэльчара.

Ціха, беражна ўзяў Сьцёпка дзяўчыну да сябе на рукі. Адно толькі палохала яго, каб не загразіць сваёю сьвіткаю яе вопратку. Але ня было калі доўга разважаць. На тое ён і Алеся вучань, каб не разважаць, а рабіць.

І, хапіўшы яе, ён вопрамецьцю кінуўся бегчы.

Доўга ўжо бег Сьцёпка і, праўду кажучы, змарыўся, канца лесу і ня бачыць, толькі раптам...

— Стой,—пакацілася галасістая хваля па лесе.

Разам з вокрыкам Сьцёпка павярнуў у бок і хутчэй галасістай хвалі пабег назад.

— Тра-ра-рах, — зазьвінела куля і са сьвістам праляцела...

Гэты адзін выстрал ня толькі прымусіў задрыжэць Сьцёпку і зьбіцца з дарогі, але і разбудзіў бацьку.

Разбудзіў бацьку, які так соладка спаў!

Бацьку самому здалося гэта больш як дзіўным.

Стаў і сам сабе ня верыць. Што гэта?

Як маці радзіла год 36 назад, так і цяпер прачнуўся, нават і сарочкі няма...—Што за чортава насеньне!—хацеў бацька кінуць, але спыніўся, усё-ткі сорам яго перамог.

Зара рассыпалася; пачынала крыху віднець. Бацька цяпер, як калісьці Алесь, тайком, пацiхутку йшоў у па-

латку, каб параадзецца і прыцягнуць да адказнасьці паставога і нават Дзергача...

— Добра,—сурова прагаварыў бацька.—Суровая будзе кара. Пачэша патыліцу не адзін ратнік.

Устаў...

Устаў бацька, веры сваім вачом не дае... Дзяргач сьпіць на падлозе... Увесь зьвязаны вяроўкамі, рот завязаны хусткай...—Што? Як? У чым справа?—адказу сабе бацька ня мог даць.

Але доўга ня думаючы, бацька расштурхаў Дзергача, пачаў яго распытваць...

Ну і зарагатаў Дзяргач, калі, расплюшчыўшы вочы, убачыў перад сабою бацьку...

Рогат Дзергача, як сьнег, залепліваў вушы ратнікаў, стаячых блізка палаткі.

Бацька абазваўся. Дзяргач пачаў яму прыпамінаць пра ўчарашнія „падзеі“ бацька ўсё гэта ўспрымае, але нават з нейкім недавер'ем.

Але часу траціць нельга.

Праз некалькі хвілін атрад перад бацькам.

— У пагоню! сукіны дзеці!—падаў загад бацька.

Ніколі бацька недапушчаў і думкі аб тым, што нейкі пастух здолее выкінуць такую штуку.

Хай нават хто-небудзь з блізкіх бацьку проста жартам сказаў-бы, што вось будзе такая рэч,—бацька яго-б сам, сваёю ўласнаю рукой катаваў-бы...

Але якая прыкрая рэч гэта самагонка?... Гэта-ж так адурманіла, што нічога ня чуў... Узбудзіўся... аж сорам успомніць.

— Эх, недарую, хай толькі пападзецца...

І бацька, седзячы на ложку, стаў уяўляць сабе, як яго верныя ратнікі нясуцца на конях... адны па лесе... другія па полі... во... злавілі... ня ўцёк!..

І, як заўсёды, бачачы нібы пабеду, бацька падняўся, стаў хадзіць па палатцы, пагладжваючы рукі.

Вочы загарэліся чырвонымі вугольлямі радасьці. Ходзіць ад аднае сьценкі да другое і праз зубы разважае:

— Чаму няма ніякіх вестак?

І стаў нэрвуючыся зусім шпарка хадзіць па пакоі.

Падыдзе да стала, схопіць паперку, парве на дробныя кусочкі, заскрыгоча зубамі, выйдзе з палаткі.

Ціш... Ня чуваць ніводнага выстралу... Толькі ля штабу стаіць, выцягнуўшыся ў струнку, паставы...

Зноў у палатку...

А думкі падсьмейваюцца...

Прад вачыма Балаховіча прабягаюць малюнкі: атрад разьбіты... Крывашэін папаўся ў палон. Мужыкі „ўрачыстыя“ хаўтуры спраўляюць... Ідуць... Ідуць па бацьку...

— О, хам'ё! Іх бароніш, а цябе?.. Не... не... ня можа быць... там Крывашэін!..

Як ніколі, цяпер ён сам падышоў, асядлаў каня і, пенячыся ад злосьці, паехаў пад мястэчка насустрач...

А Дзяргач зусім спакойны... Ён сядзіць на куфры перад зэдлікам і піша роман-фантазію „Зялёны дуб“...

Ён любіў пісаць... Левай рукою ўпіўся ў свае доўгія валасы, а праваю з алоўкам кінуў на паперу, задумаўся...

А добра было-б каб табой ніхто не камандваў... Думка ўсьцешыла яго; здаволена ўсьміхнуўся...

Падняўся, адчыніў куфар і дастаў тоўстую кнігу і сшыткі. Кніга—гэта сабраныя нумары беларускай часопісі „Рунь“, якая друкавалася ў часе польскай окупацыі ў Менску.

Пачаў пералістваць—здаволена ўздыхнуў. Ну, і як ня быць радасным. Чорнымі літарамі ён убачыў так знаёмае яму імя—Дзяргач.

У „Руні“ ён друкаваў уражаньні свайго вандраваньня, пад назовай „Абразы Палесься“. Ён іх перачытаў...

Тут і Мурка, яго даўнейшая чорнакудрая Мурка, апісана такой слаўной русалкай, якая ў маёвыя ночы сваім звонкім галаском пяяла яму пра каханьне.

Перачытаў у сшытку і сваю п'есу. Як добра ўспомніць... Які бадзёры ўздым стаў у публікі, калі гэту п'есу адыгралі ў „Беларускай хаце“... Як добра ён выканаў сваю ролю—разбойніка. Як яго віталі, калі ён вы-

шаў у залю ў вопратцы члена беларускай вайсковай комісіі. Як трымаў сябе горда ён, аўтар, толькі што адыгранай п'есы.

Дзяргач парашыў стаць гэроям!..

Бацьку парашыў кінуць...

Дзяргач—беларус, а бацька...

— Стану гэроем беларускіх лясоў, абаронцам беларускага народу, і ў гісторыі Беларусі Дзергачу залатая старонка.

Так аб сабе думаў Дзяргач і цьвёрда рашыў кінуць бацьку.

Стаў абдумваць плян.

Але думкі яго разагнала бацькава лаянка:

— Э, сукіны дзеці!.. Шалапаі... Не салдаты, а анучы!

Дзяргач усьміхнуўся.

— Ня выйграна...

11

Як толькі змоўклі галасы ратнікаў, уздыхнула зямля, шавяльнулася купіна і пачала расьці, расьці і рабіцца чалавекам. І ня думалі ратнікі, што тыя, каго яны шукалі, былі так блізка ад іх.

Сьцёпка быў такім-жа сынам лесу, як і Алесь. Папаў у кусты,—сто год шукай—ня знойдзеш. Так і цяпер. Схаваў Мурку і сам да зямлі прырос, як пачуў пагоню. А мінула бяда—думаць пачаў, што рабіць.

Мурка ўсё яшчэ была бяз памяці. Сьцёпка пачаў ужо крыху злаваць на Алеся.

— Пакінуў і рабі што хочаш!

Аднак трэба было прымаць тую ці іншую пастанову.

Сьцёпка хлопнуў сябе па каленях.

— Вось дурань, дык дурань!.. А на што-ж лясьнікова хата? Занясу паненку, а сам пайду па хлопцаў!

І, асьцярожна падняўшы Мурку, пашоў праз кусты без дарогі.

А Алесь даўно ўжо быў у вёсцы. Толькі думка неадвязная ў галаве:

— А што-ж Сьцёпкі няма? Ці не злавілі?..

І горкае нешта калючкаю пад сэрца.

—Вось што, хлопцы,—зьвярнуўся Алесь да „ваўчанят“,—трэба нам парадзіцца.

Абступілі з усіх бакоў.

— Кажы.

— Бачыце, давялося мне бацькаў портфэль пачысьціць. Трэба гэтыя паперы ў горад завезьці. А даручыць гэта думаю Міколу. Вы са мною згодны?



Ніхто не спрачаўся.

Паехаў Мікола ў горад раніцою.

Зараз-жа пасьля яго выезду зьявіўся Сьцёпка. Алесь кінуўся да яго.

— Што знача? чаму ты адзін?

Сьцёпка ў кароткіх словах перадаў усё, што здарылася з ім.

— Трэба каб хто-небудзь яшчэ схадзіў туды, да лясьніка, бо дзяўчыне, як відаць, дрэнна...

— Сам пайду з табою,—адказаў Алесь.

12

Мурка прачнулася і не магла ніяк уцяміць, што з ёю здарылася і дзе яна апынулася. Нявыразнымі абрыўкамі мітусіліся ўспаміны... Лягэр... Дзяргач... Балаховіч... Гэты комсамолец, Алесь...

— Добры хлопец гэты Алесь!..

Перад вачымі Муркі зноў ажыла мінулая ноч... Аж мурашкі прабеглі па сьпіне, як подумала Мурка пра Дзергача. Зноў прад вачыма Алесь.

— Не пабаяўся, прышоў на паратунак!..

Ї сама ня ведала Мурка, чаго ёй стала сорамна...

Дзьверы рыпнулі і ўвашоў лясьнік.

— Як, ачунялі? Можа трэба чаго, то скажэце—прынясу.

— Дзе я? і хто вы такі?—спыталася Мурка.

— Мы хто? Мы лясьнікі, а гэта хата мая.

— Як я да вас папала?

— Ды Сьцёпка прынёс вас сюды. Няпрытомная вы былі.

— Сьцёпка?

Ї ўспомніла, што Алесь прыходзіў у лягэр не адзін... Зноў сорамна неяк стала.

— Ды ён ужо даўно пашоў? Мусіць зараз прыдзе,—апавядаў лясьнік.—Але што гэта я байкі пляту. Мусіць-жа і есьці хочаце?

Ї сапраўды Мурка нібы-та пачынала адчуваць голад. Шмат сіл адабрала гэта ноч.

— Пайду хоць яешню сьпяку,—падняўся лясьнік.—Вы ўжо выбачайце... Чым багаты, тым і рады!

Вышаў.

За вакном чарнела непралазная сьцяна мускулістых чорных дрэў. Там, за гэтаю сьцяною збаўца Муркі Можа разам з таварышам таксама сюды загляне.

— Дзяргач недалёка,—падказала думка.

Мурцы стала страшна.

А што калі дабярэцца сюды. Нюх у яго сабачы. Можа даведацца, дзе я. А даведаецца—прапала я. Хоць-бы хутчэй хлопцы гэтыя прышлі.

Праз некалькі хвілін увашоў лясьнік і прынёс румяную яешню.

— Падмацуйцеся пакуль што! Нябось згаладалі...

Мурка ўзялася за яду. Лясьнік адышоў да вакна і ўглядаўся ўпушчу.

Пад'еўшы, Мурка пачула сябе шмат мацнейшаю. Папрабавала ўстаць. Лясьнік утрымаў яе.

— Ляжыце лепш, вам-жа карысьць будзе!..

Мурка паслухала.

— А скажыце, дзядзька,—зноў пачала Мурка гутарку,—мусіць нудна вам тут аднаму жыць у лесе?

— Прывык ужо! А прытым я і не адзін,—і на твар лясьніка набегла нейкая цень.—Дачка жыве са мною,—глуха дадаў ён.

— Колькі год вашай дачцы?

— Дзевятнаццаты ад пакравы пашоў.

— Што-ж я яе ня бачыла? Чаму яна да мяне не зашла сюды?

— Хворая ляжыць,—і ў адказе лясьніка Мурка пачула нейкія горкія абрывістыя ноткі.

— Што з ёю?—неяк па інэрцыі запыталася Мурка, і адразу ўбачыла, што гэтым запытаньнем балюча кальнула ў сэрца лясьніка.

— Цяжка казаць,—як-бы перамагаючы сябе прагаварыў лясьнік:—бандыты...

Мурка ўскалыхнулася.

— І тут бандыты,—праняслося ў яе галаве.

Лясьнік памаўчаў.

— Атрад праходзіў тут... Балаховіча... Там адзін з доўгімі валасамі...

Мурка падумала пра Дзергача.

— Начальнік нейкі, як відаць,—казаў лясьнік.—А звалі яго... Дзергачом...

Лясьнік не заўважыў, якое ўражаньне зрабіла гэта імя на настаўніцу.

— П'яны быў... Успала яму на вока дачка...

У голасе лясьніка пачуліся сьлёзы...

# ДРУГАЯ ЧАСТКА

## 1

Вечар... Вуліцы Горадні асьвятліліся. Гоман. Сьмех Зьвіняць шпоры і пераліваюцца жаночыя галасы...

Цёмны дом князя Сангушкі—як выспа, у моры сьвету. Панура глядзяць высокія рэзныя дзьверы.

У адным з пакояў сядзяць кругом пакрытага чорным сукном стала пяцера людзей у дзіўных чорных балахонах. Твары закрыты, рукі—у чорных рукавічках Толькі на грудзёх у кожнага вышыты белы знак.



Усе заняты нейкімі важнымі справамі.

— На павестцы дня засталося яшчэ адно пытаньне,—апавяшчае чалавек, які сядзіць на вышэйшым ад другіх крэсьле.—Я атрымаў ад гэнэрала Балаховіча ліст, у якім ён просіць нашай дапамогі.

— Справа ў тым, што з нейкага часу зьявіўся новы вораг у яго—гэта нейкая група комсамольцаў, якія называюць сябе „ваўчанятамі“. Яны заўсёды зьяўляюцца там, дзе іх не чакаюць і Балаховіч праз іх пацярпеў шмат няўдач. Злавіць іх няма магчымасьці. Іх жменька, але ня зловіш. І вось гэнэрал просіць дапамогі ў нас. Я прашу вас, брацьця, выказаць свае погляды на гэту справу.

Адна з чорных рук паднялася.

Слова мае брат Станіслаў Красінскі.

Красінскі падняўся.

— Мой пагляд, брацьця, бязумоўна, можа быць толькі такі: трэба дапамагчы. Нам даволі таго, што ў нас просяць дапамогі супроць комсамольцаў. Ня трэба глядзець каму мы памагаем: даволі ведаць, што дапамагаем у барацьбе з страшнейшым ворагам. Але... Мы павінны прыняць пад увагу, што наш удзел у гэтай справе павінен застацца ў вялікім сакрэце. Мы пашлем нашых людзей да Балаховіча, але гэта павінна быць вядома толькі яму і яго памоцніку Дзергачу.

Красінскі апусьціўся.

— Слова мае брат Station Браніслаў Скжынскі.

Падняўся Скжынскі.

— Я зусім згаджаюся з братам Красінскім у першай частцы яго прамовы. Але я хачу зазначыць, што Балаховіч трымае сувязь з беларускімі комітэтамі. Я запытаю вас: хіба гэтыя комітэты не такія-ж ворагі нам, як і комсамольцы і комуністыя? І ці варта траціць сілы, дапамагаючы ім.

Скжынскі скончыў.

Выказваліся і другія.

Падняўся старшыня.

— Я цяпер стаўлю пытаньне на галасаваньне: хто за тое, каб дапамагчы Балаховічу?

Чатыры чорныя рукі падняліся.

— Аднагалосна. Я бяру на сябе організацыю дапамогі, а пакуль што абвяшчаю сход горадзенскага комітэту фашыстых закрытым.

Усе ўсталі.

— Брат Скжынскі і брат Патоцкі застануцца тут, каб выпрацаваць плян дапамогі.

Усе трое перашлі ў габінэт гаспадара і зьнялі з сябе чорныя балахоны.

Гэта былі маладыя людзі. Самаму старэйшаму з іх—Сангушку было дваццаць тры гады, Патоцкаму толькі што скончылася дваццаць.

— Дык вось, брацьця,—пачаў Сангушка,—перш усяго нам трэба намеціць пэўнае заданьне. А заданьне гэта простае: зьнішчыць самую організацыю „вучанят". Трэба злавіць правадыроў. І нельга аддаваць іх у рукі Балаховіча, бо ён ня ўпільнуе іх. Я пасылаю вас абодвух туды і дам вам лісты ў штаб чацьвертай арміі польскай. Там ёсьць нашы людзі і яны дадуць вам і сродкі і ўсё патрэбнае. Выехаць трэба заўтра ў поўдзень.

Скжынскі і Патоцкі нахілілі галовы ў знак згоды.

— А пакуль што, сягонешнім вечарком... —прыяцельскім тонам загаварыў Скжынскі,—чаму-б нам не скарыстаць яго?

І праз гадзіну ніхто не падумаў-бы, што трое вясёлых панкоў, якія вячэраюць у рэсторане „Стэльля", зьяўляюцца правадырамі горадзенскіх фашыстых.

Грыміць музыка. Хор сьпявае. Кругом сяброў пачалі зьбірацца такія самыя багатыя юнакі, як і яны. Заблішчэлі афіцэрскія пагоны, забялелі жаночыя вопраткі.

— У аддзельны габінэт,—скамандваў Патоцкі.

. . . . . . . . . . . .

## 2

Не на жарты ўзьнялася барацьба.

Балаховіч, мы ня скажам, што ён абясьсіліўся, але скажам тое, што ён да сваіх блізкіх і верных пачаў адносіцца з недавер'ем.

Паміж Балаховічам і Дзергачом адносіны адчуваліся нацягнутымі.

Ратнікі Балаховіча, якія дабылі яму шчасьлівыя хвіліны, пачалі нядбайнічаць. Загад Балаховіча цяпер ня так выконваецца, як выконваўся ў былыя дні. Усё гэта і прымусіла бацьку зьвярнуцца да фашыстых і прасіць дапамогі. Дапамога дадзена. Закілзалі, і моцна закілзалі сваю ўвагу, каб знайсьці сьлед ваўчанят.

А галава Балаховіча з кожным днём усё больш і больш трашчэла. Мала толькі таго было Балаховічу, каб змагацца з „ваўчанятамі", яму трэба было зварочваць увагу і на Дзергача.

Дзяргач зышоў на другую дарогу. Ён пачаў праводзіць нацыянальную лінію. Пачаў беларусізаваць атрад Балаховіча. І гэта праца Дзергача пусьціла свае карані. Балаховіч бачыць, што гэта ня меншы вораг для яго, як і ваўчаняты, пачаў шукаць выхаду.

— Што рабіць?!

— Васілеўскі!—заскрыгатаў голас бацькі:—Адправіць ліст у Вільню, каб высылалі мне ўсе беларускія газэты і кнігі.

Балаховіч таксама стаў, ці задумаў „рабіцца беларусам".

Ён надумаў зрабіцца сьвядомым беларусам, стаць бацькам беларускага народу, узяць гэты народ пад сваю апеку. Апавясьціць так, што „я, Балаховіч, ня толькі абараняю Беларусь, і яе сыноў ад бальшавіцкае навалы, але і абараняю іх сьвядомасьць, „я—бацька беларускага народу". Так і было абвешчана.

Дзяргач на стаў ажыцьцяўляць сваю фантазію пра „Зялёны дуб".

Плян пабудованы—Збор людзей.

Новая банда—„Залёны Дуб".

3

— Та-та-та-та, та-та-та-та—выстукваюць калёсы вагону. Бягуць за вокнамі слупы, лясочкі. Дзе-ні-дзе вёска спаленая пакажацца. Вайна тут нядаўна пракацілася.

Бяжыць цягнік у Баранавічы.

У служэбным вагоне ў купэ №4—трох афіцэраў.

Патоцкі і Скжынскі—добрыя артыстыя. Яны ня ведаюць трэцяга і таму стараюцца паказаць, што яны самыя звычайныя панскія сынкі, штабныя афіцэры.

Успамінаюць апошні вечар... Аддзельны габінэт у рэсторане... Шампанскае... Артыстка Эма Ліжынская... П'яныя песьні... І раніцою з адзервянелымі галовамі—у вагон.

Дарога крыху растрэсла сяброў.

— Трэба падмацавацца,—кажа Скжынскі. З чамаданчыка выплываюць розныя закускі і пляшка рому. Скжынскі з Патоцкім бяруцца за яду.

— Проша, пана, да нас,—далікатна прапануе Патоцкі.

— Дзенькуе пана,—глуха адзываецца з кутка падарожны.

Патоцкі стараецца завязаць гутарку.

— Здалёку, пан, едзеш?

— З Беластоку.

— Тон незнаёмага паказвае, што ён ня мае вялікай ахвоты да гутаркі.

— Таксама да Баранавіч?—нясьмела пытаецца Патоцкі.

— Так.

Цягнік спыняецца, і падарожны выходзіць на пляцформу. Скжынскі і Патоцкі бачаць праз вакно, як да яго абярнуўшыся падышоў нейкі абарваны салдат і нешта шапнуў на вуха. І салдат, як-бы не салдат, ня трымае фронту перад афіцэрам, а трымаецца, як начальнік нейкі.

Скжынскі з Патоцкім пераглянуліся.

— Нешта ня так.

Незнаёмы вярнуўся і зноў забраўся ў свой куток. Толькі вочы з кутка часамі з падазрэннасьцю спыняліся на маладых афіцэраў.

На другой станцыі незнаёмы таксама вышаў з вагону. Скжынскі і Патоцкі зноў бачылі, як ён гутарыў з нейкім цывільным і атрымаў ад яго нейкі пакет.

Фашыстыя пачулі нешта нядобрае. Прыехалі ў Баранавічы. Скжынскі адразу адправіўся ў штаб арміі.

Патоцкі пашоў за незнаёмым. Прашоўшы некалькі вуліц, Патоцкі ўбачыў, што незнаёмы спыніўся каля брамы. Азірнуўшыся кругом, ён стукнуў тры разы ў браму.

Патоцкі, схаваўшыся за слуп, глядзеў, што будзе далей.

У хаце каля брамы адчынілася вакно і высунулася галава. Незнаёмы зрабіў нейкі знак рукою і нешта запытаў.

Галава зьнікла. Праз хвіліну адчынілася брама і, упусьціўшы незнаёмага, зноў зачынілася.

Патоцкі пастаяў яшчэ некалькі хвілін. У вокнах загарэўся сьвет.

Патоцкі падняўся на тумбу, глянуў у вакно. За сталом пакрытым markdown рознымі стравамі сядзела трое людзей, у адным з якіх ён пазнаў незнаёмага, незнаёмы гаварыў аб нечым вельмі важным, потым, як-бы нешта ўспомніўшы, падышоў да вакна і закрыў яго занавескаю. Патоцкі пашоў у гасьцініцу, дзе ўмовіўся спаткацца з Скжынскім.

Скжынскі ўжо даўно вярнуўся са штабу і чакаў Патоцкага.

— Ну, раскажы, што даведаўся...

Выслухаўшы Патоцкага, сур'ёзна заківаў галавою.

— Та-ак! тут справа нячыстая...

— Памойму—гэта бальшавіцкія агэнты,—сказаў Патоцкі.

У Скжынскага зьявіўся ўжо цэлы плян... І схіліўшыся да вуха Патоцкага, ён сказаў, што на яго погляд трэба зрабіць. Патоцкі зусім згадзіўся.

На другі дзень абодвы адправіліся ў штаб і, дастаўшы ў дапамогу некалькі разьведчыкаў, узяліся за працу.

Цэлую ноч прастаяў Патоцкі ў браме супроць таго дому, дзе схаваўся невядомы. Пад раніцу адчынілася брама і з яе вышаў той самы незнаёмы, толькі цяпер

не ў афіцэрскай форме, а ў вопратцы селяніна з багацейшых. Ён сьмела накіраваўся па вуліцы, але, як толькі дашоў да рогу, раздаўся сьвіст і праз хвілю ён з заткнутым ротам ляжаў на зямлі ўвесь аблутаны вяроўкамі. Падышоў Патоцкі.

— У комэндатуру да раніцы.—А сам вярнуўся ў гасьцініцу. У гасьцініце Скжынскі перадаў Патоцкаму ліст.

— Ад Балаховіча,—працягнуў ён.

У лісьце Балаховіч пісаў пра тую ноч у лягэры, калі ён сварыўся з Дзергачом за Мурку.

„Я да гэтага часу не магу зразумець, як апынуліся яны ў лягэры, як уцяклі і, наогул, як гэта ўсё магло здарыцца. Зьвязаць мяне і майго памоцніка сярод майго стану. Пасьля гэтага сам начальнік дзяржавы ня можа быць спакойным у Варшаве; чакаю Вашай дапамогі“.

—Гэта сапраўды нейкія чэрці, а ня людзі!—плюнуў Патоцкі.

— Ну, а як твая справа, Стась? — запытаўся Скжынскі.

— Усё добра. Заўтра зьнімем дапрос.

4

На другі дзень зраньня Патоцкі і Скжынскі былі ўжо ў комэндатуры.

У пакоі каля габінэту комэнданта стаяў стол і тры крэслы.

Прывялі арыштаванага.

— Сядайце,—з няпрыветнай усьмешкаю працадзіў Патоцкі.

— Я прашу растлумачыць прычыны майго арышту

— Зараз дазнаецеся, пане бальшавік.

— Бальшавік?

І ў тоне голасу арыштаванага зазьвінела нотка задзіўленьня.

Скжынскі пачаў дапрос.

— Імя і прозьвішча ваша?

— Я адмаўляюся адказываць вам, бо ня ведаю вашых поўнамоцтваў.

— У нашых сілах прымусіць вас загаварыць. Аднак, магу сказаць, што мы—прадстаўнікі горадзенскага фашыстаўскага комітэту.

У вачох арыштаванага засьвяцілася насьмешка.

— Вітаю брата Бронісдава Скжынскага і брата Станіслава Патоцкага.

І з патаемнай кішэні на грудзёх арыштаваны дастаў чорную кніжачку, на вокладцы якой быў выціснуты 卐 знак.

Каб нават дом комэндатуры перавярнуўся дагары нагамі, ці пан Пілсудзкі абвясьціў Польшчу Савецкаю рэспублікай — уражаньне было-б меншае за тое, якое зрабілі на Скжынскага і Патоцкага кніжачка і знак.

Моцная лаянка павісла ў паветры.

— Самі сябе ашукалі,—прастагнаў Скжынскі.

Абодвы разглядалі кніжку, у якой было выразна напісана:

№ 642

Беластоцкі аддзел

Горадзенскага

**Комітэту фашыстых**

*Пан Казімір Грыбоўскі.*

Сакратар аддзелу.

На другой старонцы стаяў подпіс і пячатка. Грыбоўскі працягнуў нейкую паперку. Гэта паперка яшчэ больш абурыла Скжынскага і Патоцкага.

„Па загаду Горадзенскага комітэту брат Грыбоўскі пасылаецца на дапамогу Скжынскаму і Патоцкаму“.

Па загаду Горадзенскага комітэту браты Грыбоўскі, Скжынскі і Патоцкі ўтвараюць баявую тройку.

Інструкцыі комітэту перадаюцца праз брата Грыбоўскага, які назначаецца начальнікам аддзелу фашыстых пры атрадзе Балаховіча.

Браты Патоцкі і Скжынскі дакладна выконваюць інструкцыі брата Грыбоўскага.

— Комітэт прадбачыў, што вы можаце ўхіліцца ад вашых непасрэдных абавязкаў. Я быў пасланы, каб праверыць вашу дзейнасьць. У мае абавязкі ўваходзіла адабраць ад вас ініцыятыву, калі вы сойдзеце з дарогі.

— Комітэт паслаў вас у армію Балаховіча для барацьбы з „ваўчанятамі", а вы замест гэтага заняліся арыштамі братоў.

Скжынскі падняў голас:

— Але ваша чыннасьць у вагоне была больш, чым падазрэннаю.

— Маўчаць,—кінуў Грыбоўскі. Раз вам былі дадзены інструкцыі, вы ня мелі права брацца за другія справы. Цяпер вы паедзеце да Балаховіча. Мае загады будуць вам перасылацца ў пакетах з маёю пэрсанальнаю пячаткаю. Можаце ісьці!

5

Прашоў месяц з таго часу, як Балаховіч гасьціў у Зацішшы.

Яшчэ жылі сьвежыя раны на целе мястэчка. Яшчэ кантар ня мог прывыкнуць да таго, што па суботах на прывычным месцы ня відаць старога набожнага Лейбы, няма Іцкі й яшчэ многіх.

— Мучанікі.

А пару дзён назад з-за ваколіцы—

Мы смело в бой пойдем
За власть советов...

Песьня ліхая, вясёлая. У Зацішша прышоў эскадрон ЧК.

І ў клюбе „Комуна" (раней магазын) новае жыцьцё зарунела.

У суботу спэктакль.

Ой, што сказаў-бы стары набожны Лейба.

Забылі бога, не шануюць суботы і, страшна падумаць, бога—старога бога—высьмейваюць.

У клюбе—ня нудныя канты сінагогі.

— Мы маладняк бунтоўны
Рабочых і сялян.

А камандзір эскадрону чытае апошнія сводкі.

На сьценках—загад:

З прычыны разьвіцьця чыннасьці бандыцкіх атрадаў Балаховіча N-скі павет абвяшчаецца ў асадным становішчы.

— Сход Заціскай ячэйкі КСМ абвяшчаю адчыненым.

Гэта Алесь—сакратар ячэйкі.

— Сягоньня нам зробіць даклад прысланы з Вільны таварыш Пчальніцкі.

Падняўся дакладчык. Пачаў гаварыць. Гладка, кругла...

Не падабаецца Пчальніцкі Алесю.

— Чорт іх ведае, адкуль толькі яго выкапалі.

Франтавата апрануты. Белыя пешчаныя рукі. Раўнюткі прабор на галаве. І нейкае самазадаваленьне, якбы цень пагарды на твары.

Але білет у парадку. І лісты з рэкомэндацыямі.

Злуецца Алесь.

— Няўжо лепшага не маглі знайсьці? Напэўна нейкі панскі сынок!

А дакладчык сыпе словамі, як гарохам. „Белая Польшча, стараецца ўсімі сіламі затрымаць і падарваць нашае экономічнае разьвіцьцё. Буржуазія Польшчы ня можа прымірыцца з фактам існаваньня побач з ёю пролетарскай Беларускай рэспублікі. Міжнародная сытуацыя складаецца ня ў нашу карысьць. І польскія мілітарыстыя за грошы францускіх ранцье орґанізуюць банды й пасылаюць іх на нашу тэрыторыю.“

Алесь слухаў і яму не падабалася манера дакладчыка.

— Сыпе незразумелымі словамі. Ня можа, як чалавек, гаварыць.

Пчальніцкі рабіў даклад больш гадзіны.

Хлопцы простыя. Дзе ім зразумець тыя вучоныя слоўцы, якімі перасыпаў Пчальніцкі сваю прамову. Адно зразумелі: барацьба з бандытамі—сур'ёзная справа.

Пасьля дакладу—спэктакль.

Разыходзіліся хлопцы з песьнямі.

Алесь вышаў адзін і ціха пашоў па вуліцы, думаючы пра Пчальніцкага.

— Бач ты яго—мілітарысты ранцье—чорт яго ведае, што яно значыць.

Праходзячы каля касьцёлу, Алесь убачыў, што праз шчыліну стаўні ў хаце ксяндза сьвеціцца агонь.

— Пану богу моліцца пан ксёндз, — усьміхнуўся Алесь.

Завярнуўшы за рог, Алесь раптам пачуў шпаркія крокі. Глянуў. Нехта йшоў з папяроскаю ў зубах.

Аганёк папяросы асьвятліў твар Пчальніцкага.

— Чаго ён тут?—пранеслася ў галаве Алеся.— Ён-жа жыве зусім у другім баку.

Пчальніцкі, не дашоўшы да рогу, зьвярнуў у браму і стукнуў тры разы ў дзьверы ксяндза. Алесь аж абамлеў.

— Эге, галубок! Дык ты з ксяндзамі знаёмства водзіш. А ну, паслухаем, што ты будзеш яму расказваць. Толькі як туды прабрацца? Ага.

І Алесь, як белка, узабраўся на дрэва, што стаяла каля самай хаты; адтуль на дах, і праз пару хвілін Алесь забраўся на гару.

Унізе чуваць былі галасы.

Адзін голас быў Алесю незнаёмы.

Другі... Гэта Пчальніцкі. Нешта горача гавораць папольску.

— А, каб цябе халера, дык ты й папольску ўмееш,—прашаптаў Алесь.

Пчальніцкі часта памінаў словы „комунісьці“, „комсамольцы“. Раптам Алесь настаражыў вуха. Ён некалькі раз пачуў слова—„Ваўчаняты“...

Як ні ўслухоўваўся Алесь, але нічога ня мог зразумець з іх гутаркі. Ён ужо зьбіраўся пакінуць сваю позыцыю, калі пачуў, што нехта ўзышоў ціханька на ганак і пастукаўся.

Рыпнулі дзьверы, і ў пакой увашоў нехта трэці.

Алесь настаражыўся.

Унізе пачалася жывая гутарка. На гэты раз усе трое гаварылі пабеларуску. Алесь ад задаваленьня нават прысьвіснуў.

Гаварыў Пчальніцкі.

— Становішча Зацішша цяпер дужа моцнае. Ды й мала карысьці траціць на захват яго сілы.

— Што вы даведаліся пра „ваўчанят“?—запытаўся апошні госьць.

— Дзе я чуў гэты голас,—прабарматаў Алесь і пачаў слухаць далей.

— Вельмі мала. Ведаю толькі, што гэта проста кампанія комсамольцаў, на чале якой стаіць сакратар тутэйшай ячэйкі. Цяжка дазнацца што-небудзь пэўнае, бо мяне неяк старонцца тут.

— Усё-ж такі трэба раз назаўсёды пакончыць з гэтымі шчанюкамі. Вось мой плян.

Тут гутарка пераліласе ў шопат, і Алесь, як ні стараўся, нічога ня мог пачуць.

Праз паўгадзіны нарада скончылася.

— Знача, праз тры дні,—пачуў Алесь ізноў голас незнаёмага...

Адчыніліся дзьверы і ў пакоі застаўся адзін ксёндз.

Саскочыўшы на зямлю, Алесь азірнуўся ва ўсе бакі і нідзе нікога ня ўбачыў.

— Дзе я чуў гэты голас?

Алесь ішоў і лаяў самога сябе.

— Расьцяпа! празяваць такі добры выпадак.

І раптам хлопнуў сябе па лобе.

— Тая ноч... Балаховіч п'яны... Мурка крычыць, кліча на дапамогу. Алесь і Сьцёпка вяжуць чалавека з доўгімі валасамі... Чалавек лаецца, стараецца вырвацца... І голас, голас... Гэты самы голас Алесь чуў пяць хвілін таму назад, лежачы на гары ў ксяндза...

— Дык вось што за птушка Пчальніцкі—з Дзергачом знаёмства водзіць.

— Пакончыць з гэтымі шчанюкамі,—перадражніў Алесь.—А гэтага сукіны сыны ня хочаце?

І Алесь выставіў у цемнату мастацкі зложаную фігу. Цемната паслухмяна прыняла Алесяў падарунак і перадала адрэсатам і Балаховічу, і Дзергачу, і Пчальніцкаму. Хацела і ксяндзу перадаць, але той вырашаў

дужа важныя божыя справы разам са сваёю аканомкаю. Пасяджэньне адбывалася пры замкнутых дзьвярах і ксёндз ня мог прыняць пасылкі.

6

У гэты самы момант у Варшаве, у Бэльвэдэрскім, палацы, адбываўся другое важнае пасяджэньне. Тут быў і вышэйшы гаспадар усяе Рэчы Паспалітай — начальнік францускай ваеннай місіі, і пан Пілсудзкі, і абодвы браты Балаховічы, і сам Савінкаў.

Пілсудзкі заканчваў сваю прамову:

— І так, атрад гэнэрала Балаховіча мы рэарганізуем у Народную добрахвотніцкую армію. Усе выдаткі праводзяцца па каштарысе польскага ваеннага міністэрства.

Пры гэтых словах Пілсудзкі баязьліва пакосіўся на старшыню францускай місіі.

— Мы спадзяемся, што гэнэрал Балаховіч ніколі ні ў якім выпадку ня будзе забываць інтарэсы польскіх грамадзян.

Прадстаўнік „грамадзян“, фабрыкант Рыпінскі, падарыў Пілсудзкага міласьцівым поглядам.

— Гэнэрал Балаховіч не павінен забываць, што ў тых мясцовасьцях, дзе будзе праходзіць яго армія, жывуць каранныя палякі, часткаю зрусыфікаваныя і прымусам абернены ў праваслаўе.

Пілсудзкі пакосіўся на эндэцкіх дэпутатаў: на іх тварах было відаць задаваленьне.

— Я закончу сваю прамову пажаданьнем, каб з дапамогаю арміі гэнэрала Балаховіча наша Рэч Паспалітая атрымала назад свае адвечныя абшары і дашла да сваіх старых рубяжоў—рубяжоў 1772 г. Я яшчэ пажадаю, каб армія гэнэрала Балаховіча, скончыўшы сьвятую справу аб'яднаньня польскіх зямель, нанесла апошні сьмяротны ўдар бальшавізму і ўстанавіла ў Расіі дэмакратычную ўладу, якая будзе падтрымліваць найлепшыя адносіны са сваімі суседзямі. З богам, гэнэрал! Жадаю вам пе-

рамогі ў вашай сьвятой барацьбе! Няхай жыве Польшча „ад мора да мора!“ Няхай жыве вольная дэмократычная Расія!

— А цяпер, панове, папрашу вас усіх да мяне на вячэру,—дадаў Пілсудзкі, зачыняючы пасяджэньне.

Уся бліскучая кампанія спусьцілася ўніз. Вялікая заля была заліта морам сьвету. Багата ўбраныя сталы трашчэлі ад він і найлепшых страў. У залі сабраліся сьліўкі варшаўскай знаці. Тысячамі агней пераліваліся багатыя туалеты кабет, зьвінелі шпорамі ваенныя, пераліваліся ўсімі колерамі радугі пагоны ўсіх нацый.

Музыка зайграла марш.

Госьці пачалі рассаджвацца за сталы. Начальнік францускай місіі выбраў сабе цёплае месца, недалёка ад він сваёй бацькаўшчыны.

Кругом яго сядзелі дамы з вышэйшага варшаўскага сьвету, якія зараз-жа пачалі закідаць яго пытаньнямі. Шампанскае пачало разьвязваць языкі.

Балаховіч расказваў сваім суседзям пра сваё мінулае. Шмат дзе пабываў ён. Скромны паручнік сьмелым націскам захоплівае Пскоў і атрымлівае за гэта гэнэральскі чын. Ён не абмануў давер'я свайго начальства. Жалезнай рукою ён прыдушыў гідру бальшавіцкай анархіі ў здабытым горадзе. І ўсе лепшыя людзі Пскова папомняць яго дабром. Праўда, яго ня любілі рабочыя, але..... хэ-хэ... ці-ж варта лічыцца з натоўпам.

І „бацька“, заплятаючымся языком, пачаў дэкламаваць Пушкіна:

> Поэт, не дорожи любовию... ик... народнай... Восторженных...

Тут гэнэрал ня вытрымаў і расплакаўся.

— І я... п-п-поэта, і я,—палез бацька абнімацца да нейкага бэлгійскага афіцэра.

Той з кіслаю мінаю адвярнуўся.

— Я п-поэт, — надрываўся Балаховіч. — П-пацалуемся.

Бэльгіец адвярнуўся да гэнэрала сьпіною.

— Н-ну й ня трэба.. ік.. праўду я кажу?—павярнуўся бацька ў другі бок.

Тут сядзела жонка аднаго з варшаўскіх комэрсантаў. Малажавая й даволі прыгожая, яна зьвярнула на сябе ўвагу Балаховіча. Ён пачаў ухажываць за ёю. Завязалася гутарка. Бацька напаўняў бакалы, і з кожнаю хвілінай душа яго ўсё больш і больш лунала ў паднябесьсі й гутарыла з богам.

Нарэшце язык зусім адняўся ў бацькі. Ён нашоў, што можна весьці гутарку й бяз слоў. Трымаючыся такога погляду, ён пусьціў у ход рукі, і праз хвіліну яго суседка аглушыла ўсю залю страшным крыкам:

— Нахал!

Гэнэрал хацеў устаць з-за стала, але ногі адмаўляліся служыць яму, ён за нешта зачапіўся і страшэнным грохатам гопнуўся на паркет.

Гэта яшчэ больш перапудзіла гасьцей. Нават начальнік францускай місіі, які нашоў, што яго суседка падобна да францужанкі, і пачаў дэтальна абсьледваць гэты факт, нават ён страпянуўся й на хвіліну адвярнуўся ад сваёй дамы. Балаховіча вынесьлі. Пілсудзкі, увесь зялёны ад злосьці, выбег за ім. Але тут ён убачыў, што гэнэрал ужо ня можа даць хоць які-небудзь адказ. Ён толькі барматаў сабе пад нос нешта незразумелае. Пілсудзкі паціснуў плячыма й вярнуўся да гасьцей.

Вячэра скончылася. Госьці перашлі ў танцавальную залю. Музыка загрымела вальсам і закружыліся пары. А ў цёмных гасьціных таксама прытуліліся афіцэры й маладыя вясёлыя кабеты.

Начальнік францускай ваеннай місіі канчаткова пераканаўся, што яго суседка за сталом падобна да францужанкі. І цалуецца таксама...

Каля высокай белай калёны стаяў ангельскі афіцэр. На гладка выгаленым твары—усьмешка, вечная ўсьмешка, толькі ангельцу ўласьцівая. Вось ён убачыў таварыша. Ідзе, прабіваючыся між людзей.

— Ай,—крыкнула нейкая маладая паненка.

Ангелец наступіў ёй на нагу—на маленькую беленькую ножку. З ёю жаніх—пан Падгурскі.

Франтавік, які рашуча заступіў дарогу ангельцу.

— Прашу рэваншу!..

Ангелец з пагардаю зьмерыў яго з ног да галавы і адвярнуўся сьпіною. А замест яго—перад Падгурскім—гэнэрал Шэптыцкі.

— Пане маёр—на гаўптвахту. Вы арыштаваны!..

Музыка грае фокстрот. І панна Зося засталася без кавалера...

7

На другі дзень гэнэрал Балаховіч аддае апошні візыт Пілсудзкаму.

Робка ўваходзіць бацька ў габінэт начальніка дзяржавы. На спатканьне яму суровы алавяны погляд.

— Вы, гэнэрал, учора скомпромэтавалі нас перад чужаземнымі гасьцямі. Вы ня ўмееце сябе трымаць!

Душа бацькі—камочкам. Сьлізкім камочкам—у пяткі.

— Я... я, пане...

— Пры другіх умовах я з вамі ня стаў-бы гаварыць, а засадзіў-бы вас на гаўптвахту. Прашу слухаць мяне. Наша армія заканчвае адход з Савецкай тэрыторыі. Мы па дагавору адмовіліся падтрымліваць розныя антысавецкія організацыі. Вы ня можаце заставацца на нашай тэрыторыі й павінны здабыць сабе сваю. Вы выступаеце ў раёне Паўднёвай Беларусі. На Валыні і з Галіцыі вас падтрымае Пятлюра з украінскімі фармаваньнямі. Выступіць трэба як найхутчэй. Сягоньня-ж выяжджайце ў армію. Інструкцыі, грошы й зброю атрымаеце праз штаб другой арміі...

Балаховіч вышаў і праз 6 гадзін ехаў ужо ў Горадню.

8

На вокзале ў Горадні сабралася шмат вайсковых. Сярод іх відаць было некалькі цывільных у пацёртых паліто й шапках.

Балаховіч вышаў з вагону.

Цывільныя заёрзалі й накіраваліся да гэнэрала.

— Дазвольце нам, гэнэрал, ад імя Беларускага ўраду вітаць вас перад уступленьнем на зямлю нашай бацькаўшчыны! Вы—беларус і зразумееце,якім шчасьцем для нашага народу будзе аднаўленьне парадку на Беларусі праз устанаўленьне дэмократычнай улады. Мы жадаем, гэнэрал, каб ваш штандар як найхутчэй разьвіўся над Менскам і другімі гарадамі бацькаўшчыны. Мы пераконаны, што ваша армія ў самым хуткім часе вызваліць усю нашу бацькаўшчыну з Маскоўска-бальшавіцкай няволі!..

Тут міністар прымушан быў спыніцца, бо нейкі жандарскі афіцэр, якому фігура міністра паказалася падазрэннай, падышоў да яго:

— А ці маеш, пан, дакуманты?..

Міністар пачырванеў і ня ведаў што рабіць.

— Пакажы, пане, дакуманты!

Міністар ня ведаў, куды дзецца ад сораму. Яго колегі таксама баязьліва азіраліся кругом.

Афіцэр настаіваў:

— Пойдзем да комэнданта!..

Тут Балаховіч нашоў патрэбным прыняць удзел у спрэчцы. Ён зьвярнуўся да афіцэра:

— Я гэтага пана ведаю й ручаюся за яго!..

Жандарм паціснуў плячыма й адышоў.

— Будзем знаёмы, пане!—падышоў Балаховіч да міністра.

— Варонка,—прадставіўся той.

Пасьля кароткай размовы Балаховіч сеў у аўтомобіль і паехаў у штаб.

Міністры-ж, патаргаваўшыся з фурманом, паехалі абедаць.

Спатканьне Балаховіча каштавала чуць не паловы ўсяго ўрадавага скарбу. І ён пачаў лаяцца.

— Чорт вас ведае, бяз шыку ня можаце абыйсьціся!..

Міністар фінансаў Вярнікоўскі быў страшна занепакоены:

— На вокзал можна было й пехатою прыйсьці — ногі не адваліліся-б!..

— Але-ж трэба было нам падтрымаць свой прэстыж! — спрабабаваў спрачацца Варонка.

— Схавайся ты са сваім прэстыжам! Вось, каб не Балаховіч, то разам з прэстыжам сядзеў-бы ў комэндатуры!

Варонка нешта хацеў адказаць, але папярхнуўся і змоўк.

Увашоўшы ў сталоўку, міністры там забавіліся да вячэры, а вячэраць ужо не маглі, бо Варонка, палажыўшы галаву на стол, плакаў горкімі сьлязамі, а Вярнікоўскі яго суцяшаў.

— Не, ты зразумей, Тодар, — ікаў Варонка, — мяне — правадыра беларускага народу — у комэндатуру .. а тут яшчэ ты з фурманамі.

Вярнікоўскі зусім раскіс.

— Ты, Язэп, ня плач... Загляне сонца... ік... і ў наша ваконца... Хочаш, зараз дзесяць фурманоў найму й паедзем толькі мы з табою... нікога больш ня возьмем...

— Н-не, брат, лепш засьпяваем „камара“.

І ў гэту ноч Варонка ня мінуў камэндатуры. Толькі разам з ім пабываў там і Вярнікоўскі.

## 9

Алесю стала ясна падстава барацьбы.

Ён добра ведае цяпер „актывістага“ Пчальніцкага, і заўсёды, дзе толькі была магчымасьць, „асаджваў“ яго, але пакуль што маўчаў. Аб гэтым ён нават і блізкім ні слова.

— Хлопцы! З кожным днём наша праца становіцца больш востраю. Мы павінны быць кожную хвіліну на варце, бо, ведайце, за намі сачаць!..

Глыбока прытуліліся словы Алеся ў грудзёх кожнага з яго таварышоў.

— Увечары, браткі, выкананьне пляну! — казаў далей Алесь.

Увечары баявое заданьне!

І ад ветру сукатае гальлё хістаецца. Зеляніна нашых лясоў шапацела, радасна сустракала саматканы атрад.

— Што было-б, каб ня гэты лес!..

І тут-жа Алесь ускорыў ход.

У лагчыне, сярод запушчаных лясных кустоў, разьвязваюць пытаньне:

— Мы павінны выбраць некалькі таварышоў, каб паслаць іх на працу ў суседнюю вёску.

Разрасьліся карэньні атраду. Малады дубняк, які моцнымі галінкамі ўкрапляе свой корань...

— Я думаю, хлопцы...

Але пашкодзіў трэск гальля.

— Ідуць.

Выскачылі хлопцы й рассыпаліся па адным.

— Мг... г...—злосна кінуў Алесь.

Ён убачыў Пчальніцкага з Закрыстыянам...

— Па нашых сьлядох!.. Высьледжваюць!—падумаў Алесь, і тут-жа вынес пастанову:

— Час рашучае расплаты.

Пчальніцкі й Закрыстыян абняліся, як сярдэчныя сябры, а кроў цячэ па іх тварах.. канец...

У газэтах—кароткае паведамленьне:

— Узброеныя атрады пад кіраўніцтвам Балаховіча перашлі на нашу тэрыторыю.

Зарэгістравана некалькі пагромаў.

Настаў час новай барацьбы.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## 1

Паабмятаў лістапад лісты з дрэў і пакрыў сухія галіны серабрыстым пухам.

Холадна.

І Прыпяць неяк хмура глядзіць на тое, што робіцца над яе берагамі. Тут стаіць армія гэнэрала Балаховіча. Грэюцца ратнікі, як самі ўмеюць.

Холадна. Есьці няма чаго, бо ўсе вёскі ўжо кругом пачышчаны. Што ня вычысьціла вайна, тое дакончылі Балахоўскія малайцы. Апошняе забіралі. Ну й павыбыралі. Цяпер кладзі зубы на паліцу.

У штабе бацькі толькі што скончылася рашучае пасяджэньне.

Армія гэнэрала Булак-Балаховіча стала „Беларускай народнай арміяй“. Быў выбраны ўрад. Страшынёю стаў Аляксюк, Балаховіч—вярхоўным галоўнакамандуючым, Дзергачоў брат—ваенным міністрам.

Новы ўрад адразу даў „Юзіку“ чын гэнэрала-маёра.

У загадзе па часьцях: „назаўтра парад“.

Прашла халодная ноч і зноў настаў шэры, невясёлы дзень 7-га лістапада.

На шырокім пляцы выстраіліся ратнікі. У гэты дзень мароз выдаўся асабліва люты.

Старэнькі сівенькі попік адслужыў молебен.

Перад фронтам прашоў бацька й сябры новага ўраду.

Балаховіч узышоў на трыбуну.

— Сьмірна!—пранеслася па фронце.

І паляцелі ў паветра словы, якіх ніхто ня слухаў, як у нейкай пустаце гулка адбіваліся яны ў марозным паветры.

— Ратнікі! На вашу долю выпала вялікая справа. Вы ўступілі на беларускую зямлю, каб прынесьці беларускаму народу вызваленьне. Большасьць вас—беларусы. І я, як галоўны камандуючы арміяй, абвяшчаю, „рускую добравольчаскую народную армію“ беларускім народным войскам.

Бацька гаварыў нядоўга, бо перад гэтым доўга глядзеў на шклянога бога, і дзеля гэтага язык яго пачаў заплятацца.

На трыбуну ўзышоў Аляксюк.

— Ратнікі беларусы! Сёнешні дзень павінен стаць для вас вялікім сьвятам. Наша бацькаўшчына доўгія гады стагнала ў няволі. І вось цяпер з дапамогаю братняе польскае дзяржавы мы можам аднавіць даўнюю незалежнасьць нашай маткі-краіны. Іменем беларускага народу мы—часовы ўрад Беларусі—абвяшчаем Беларусь незалежнаю навекі вякоў. Няхай жыве Беларуская народная Рэспубліка! Няхай жыве братняя Польшча! Сьмерць бальшавіком!

Выступала яшчэ некалькі міністраў. Затым адбылася ўрачыстая перадача бела-чырвона-белага сьцягу са знакам пагоні Менскаму палку.

Адзін з афіцэраў штабу Балаховіча—палкоўнік Бяляеў—дужа цікавіўся ўсім гэтым. І тады, калі было абвешчана перайменаваньне арміі, ён запытаўся ў свайго суседа паручніка:

— Скажите, поручик, неужели есть такая страна —Белорусь? Я что-то никогда не слышал о ней!..

Паручнік растлумачыў.

— Скажите пожалуйста!—бубніў сабе пад нос Бяляеў.—Никогда не слышал о таком народе и вдруг оказался офицером Белорусской армии!..

Злосныя разыходзіліся ратнікі з параду.

Вечарам быў прачытаны загад:

— Заўтра выступаем на Мазыр.

У доме, занятым урадам, грымела музыка, ракою ліўся сьпірт, і ўвесь тураўскі вялікі сьвет вітаў сваіх збавіцеляў ад бальшавіцкага тэрору. Афіцэры п'янелі ўсё больш і больш. П'яныя гутаркі станавіліся ўсё больш адкрытымі. „Збавіцелі“ кідалі ўсё больш выразныя погляды на мясцовых паненак.

Нарэшце адзін з маладых афіцэраў ня вытрымаў. Ускочыў на стол і закрычаў:

— Панове, жарка! Скідайце з сябе вопраткі! Прэч забабоны!..

Паляцелі з плячэй мундзіры.

— Дамы й дзяўчаты! Не саромяйцеся нас! Людзі свае! Прэч вопраткі!

Пачалася дзікая оргія. П'яныя афіцэры зрывалі вопраткі . . . . . . Многія кабеты кінуліся да дзьвярэй, але ў дзьвярах паблесквалі штыкі вартаўнікоў.

— Музыканты, польку!..

І не зважаючы на крыкі й стогны, п'яныя гвалтаўнікі рабілі сваю справу. Дзе-ні-дзе паднімалася бойка між самімі афіцэрамі.

Уся заля зрабілася грудаю голых цел, пераплеценых п'янымі хрыплымі крыкамі. Музыканты ня ведалі што рабіць.

Двое-трое афіцэраў стараліся ўстанавіць парадак. Капітан Карпінскі пусьціў у ход рэвальвэр. Рукаяткаю ён працьвярэзіў некалькіх і, нарэшце, пусьціў некалькі стрэл у паветра.

Усё змоўкла.

— Панове афіцэры! Не накідайце сораму на вашы мундзіры.

З натоўпу пачуўся нейчы галас:

— Ня слухайце яго, гэта бальшавіцкі агэнт!

— Бальшавік!..

— У Прыпяць яго!..

— Утапіць! павесіць! — заравелі п'яныя галасы.

Увага ўсіх цяпер сконцэнтравалася на Карпінскім.

Да яго падышоў палкоўнік Таляпт-Кэльма.

— Капітан Карпінскі, вы арыштаваны!..

Карпінскі маўчаў.

— Па пастанове ваенна-палявога суду ў складзе палкоўніка Таляпт-Кэльма і...—палкоўнік запнуўся й азірнуўся кругом,—і паручнікаў Казлоўскага й Лысакоўскага вы прысуджаны да кары сьмерці праз утапленьне за...

Палкоўнік падумаў.

— За вядзеньне комуністычнай пропаганды!.. Ратнікі!.. Узяць яго й... зараз-жа!..

Афіцэры пасьпешна апраналіся. Выпадак з Карпінскім адцягнуў іх увагу ад кабет і даў новы напрамак п'яным думкам.

— Пойдзем тапіць Карпінскага!..

І ўсе, хто яшчэ мог трымацца на нагах, высыпалі на бераг Прыпяці.

Двое ратнікаў з комэнданцкай каманды вязалі Карпінскага.

— Кідай!—скамандаваў палкоўнік.

Пачуўся плеск вады, і прарэзьлівы крык Карпінскага схаваўся пад вадою.

## 2

— У паход! У паход!—панеслася па аддзелах.

Заварушыўся лягэр. Стаянка ў Тураве змучыла ратнікаў. Холад, галадоўка—усё цяпер застанецца ззаду. Наперадзе—перамогі, магчымасьць разьмяцца й паграбіць.

Рана, рана выступілі з Турава. Сонца толькі што паднялося й неяк смутна пазірала на шэрыя калёны, якія соваліся па беразе Прыпяці.

Некалькі прывалаў, і 1-ая дывізія пачала прыбліжацца да Пятрыкова.

Перад самым мястэчкам атрад спаткала дэлегацыя ад Пятрыкоўскіх жыхароў.

Камандзіру атраду паднясьлі хлеб і соль і прасілі аб захаваньні спакою ў мястэчку.

— Да заўтрашняй раніцы павінна быць сабрана 2.000 рублёў золатам, толькі пад гэткаю ўмоваю гарантую вам спакой!

Дэпутаты згадзіліся. Першыя шэрагі ўжо ўступалі ў мястэчка.

Вуліцы як-бы вымерлі. Наглуха зачыненыя вокны, замкнутыя брамы. Мястэчка ўвабралася ў сябе, скорчылася, як сабака, на якую замахнуліся кіем. Ратнікі маўкліва займалі адведзеныя кватэры.

Але, ня гледзячы на павярхоўную ціш, мястэчка ня спала. Ня спала, як-бы прадчувала бяду.

Зацішша перад бураю.

Некалькі гадзін прашло спакойна. Непакой жыхароў пачаў згортвацца. Мястэчка зьбіралася ўздыхнуць поўнаю грудзьдзю.

Раптам ..

Каля аднэй хаты раздаліся два стрэлы.

Некалькі ратнікаў, пачуўшы стрэлы, шарахнуліся ў бок. Нехта крыкнуў:

— Ратуйцеся, жыды б'юць ратнікаў!

І пачалося страшнае. Высыпалі ратнікі на вуліцу.

— Жыды б'юць нашых! Жыды хочуць перабіць усіх ратнікаў!..

— У жыдоў кулямёты!—нехта кінуў апошнюю іскру.

— Бі жыдоў!..

Запрацавалі прыклады. Прэч паляцелі ваконіцы з вакон, затрашчэлі вароты й разам з іх трэскам адляцелі рэшткі трывожнае цішыні.

У хатах—малітвы.

— Божа, зьмілуйся!..

Заблішчэлі агні ў дамох. Ратнікі азьвярэлі. Урываліся ў хату, усё пераварачвалі дагары нагамі, шукаючы грошай і золата. У аднэй хаце прыгожая дзяўчына зьвярнула на сябе ўвагу ратніка. Крыкі, душу разьдзіраючыя крыкі бацькі й маткі. Выцягнулі на вуліцу, рвалі вопраткі. Маці ўчапілася за рукаў ратніка, але й за яе ўзяліся некалькі пар рук. Далёка не адыходзілі, тутжа на вуліцы...

А нацешыўшыся—прыкладамі.

На вуліцах—трупы.

Пабітыя хатнія рэчы, пух з падушак.

Вось ратнік выцягнуў дванаццацёхгадовую дзяўчынку.

— Дзядзечка, я-ж маленькая яшчэ!..

Трасецца барада старога з срэбнымі валасамі патрыярха...

— Божа, за якія грахі!.. За каго пакуту несьці?

Прыкладам па галаве. Кроў па срэбнай барадзе. Вочы сурова ў неба.

— Будзьце праклятыя вы, каты! Нашаю сьмерцю загінуць вам!..

Дэпутаты да гэнэрала.

— Ваша слова!..

Гэнэрал разводзіць рукамі.

— Не магу! Нічога не магу зрабіць.

А страляніна на вуліцах не змаўкае. І звон шкла і зброі—хаўтурны звон. Хаўтурны для балахоўскай справы. Афіцэры п'яныя:

— Дзяўчат!

---

Раніца асьвятліла поле першай перамогі Балаховіча. Трупы забітых мужчын і замучаныя кабеты.

А ў дзень прышла другая дывізія. Першая вычысьціла амаль што ўсё, і ратнікі другой дывізіі рабіліся яшчэ больш злоснымі. На базарным пляцы каля штабу—група афіцэраў.

Тут і палкоўнік Таляпт-Кэльма.

Бязудзельна глядзяць на ўсё, што робіцца кругом. Праз вуліцу бледны ад страху праходзіць жыд. Незаўважыў афіцэраў.

— Вочы палкоўнік гнеўна падняў з-пад навіслых бравей.

— Затрымаць!..

— Ты чаму, жыдоўская морда, шапкі ня зьняў? Бальшавік!..

— Капітан Хамутаў! Загадваю павесіць яго!..

Няшчасны ўпаў на калені.

— Пане палкоўнік, зьлітуйцеся! Дзеці сіратамі!.

Палкоўнік як-бы аглох.

Двое ратнікаў хапілі асуджанага, зьвязалі, надзелі пятлю. Капітан даў знак.

А мястэчка прыносіла сваю ахвяру на справу вызваленьня.

3

У Мазыр, у штаб Балаховіча надыходзілі весткі аб новых і новых пабедах.

Аляксюк паціраў рукі...

— Ну, хутка можна будзе й на Менск вырушыць!

Палітычны беларускі комітэт рассылаў па вёсках адозвы:

— Усе пад штандары нашага бацькі Балаховіча. Толькі ён адзін можа даць сапраўдную вольнасьць беларускаму народу!..

І сяляне йшлі з кольлямі й сякерамі, і няшчадна зьбівалі тых, хто ішоў пад гэтым штандарам.

Вякамі накопленая злосьць супроць усяго, што насіла панскае імя, заліла мужычым гневам непраходныя лясы.

Балахоўцы не шкадавалі партызанаў, бо ведалі, што й ад партызанаў няма чаго чакаць зьлітаваньня.

У Мазыр прыехаў Савінкаў. Пасьля парады Балаховіч наладзіў цэлы банкет. Усе новапастаўленыя гэнэралы, афіцэры, увесь Мазырскі самаўрад былі запрошаны на вечар.

Савінкава Балаховіч заўсёды неяк пабайваўся. А цяпер яму Савінкаў асабліва быў патрэбен. У бацькі быў недахват грошай, а ў Савінкава быў адкрыты крэдыт ня толькі ў Польшчы, але і ў Францыі непасрэдна.

Савінкава Балахоўскае вясельле ня цешыла. Сур'ёзны й заўзяты вораг бальшавікоў, ён не здаваляўся выпадамі Балаховіча. Асабліва не падабаўся яму створаны Балаховічам урад.

Савінкаў усьміхнуўся.

Учора, калі ён прыехаў у Мазыр, сябры „ўраду“ прадстаўляліся яму і скромна папрасілі грошай. А

ўвечары, выяжджаючы з пасяджэньня мясцовага аддзелу „Саюзу абароны бацькаўшчыны“, Савінкаў бачыў „міністраў“. Усе яны былі п'яныя, што называецца ўдрызг.

Балаховіч пачаў выкладаць Савінкаву свае чарговыя пляны. І ня вытрымаў, расказаў Савінкаву сваю новую думку.

— Вось у Польшчы ёсьць начальнік дзяржавы. Хутка мая армія вызваліць Беларусь. Мае міністры хочуць зрабіць мяне начальнікам Беларускае Дзяржавы.

Тут бацька крыху прылгаў. Ні аб чым падобным яго міністры ня думалі. Гэта была яго ўласная думка. Савінкаў з задзіўленьнем паглядзеў на бацьку.

— Вы, гэнэрал, гэта сур'ёзна?..

— А што-ж тут такога?... нявінна адказаў бацька.

Савінкаў нічога не сказаў.

— У гэтага чалавека ня ўсе дома,—падумаў ён.—З такімі кашы ня зварыш!..

І спакойна выслухаў усе пляны бацькі.

Праз два дні Савінкаў вярнуўся ў Варшаву. Злосьць кіпела ў ім, калі ён успамінаў Балаховіча й яго армію.

— І гэты чалавек з яго зьбродам павінен вызваліць Расію? Не, не з яго сіламі, не з яго здольнасьцю рабіць такую справу!..

І крэдыты Балаховічу былі скарочаны.

Пілсудзкі чакаў Савінкава і, калі той прышоў, нецярпліва запытаўся:

— Ну, што, якія ўражаньні, як становішча? Сядайце, расказвайце!

Савінкаў пачаў расказваць. Усё, што накіпела ў ім, усё выкладваў ён Пілсудзкаму.

— З такой арміяй і з такім кіраўніком нельга ваяваць!

Савінкаў успомніў пра проэкт Балаховіча й з іранічнаю ўсьмешкаю перадаў яго Пілсудзкаму. Той нахмурыўся.

— Ідыёт! Скажэце яму, што, калі толькі пасьмее падумаць аб гэтым—як сабаку праганю. Гэта варта

толькі прадставіць! Балаховіч—начальнік дзяржавы! Не разумею, чым у гэтага чалавека галава набіта...

І Пілсудзкі вярнуўся да справы.

— Я цяпер ня ведаю, што рабіць. Замяніць Балаховіча няма кім, а пад яго кіраўніцтвам справа асуджана на поўную няўдачу...

— У мяне зьявілася новая думка,—пачаў Савінкаў.— Трэба спрабаваць організаваць сялянскі рух. Аддзелы майго саюзу маглі-б узяць на сябе кіраўніцтва.

— Гэткая думка і ў мяне была. Але чалавека няма. Дайце чалавека—і можна будзе гаварыць тады!..

— Такі чалавек ёсьць.

— Хто?

— Гэта памоцнік Балаховіча — Дзяргач. Чалавек бяз ідэі, зьвярыныя інстынкты ў ім жывуць. Але організатар, як мне здаецца, добры і энэргіі шмат.

Так, гэта ідэя!..

Пілсудзкі на хвіліну замысьліўся.

— Вось што. Праз пару дзён мы склічам спэцыяльную нараду й абгаворым усё дэтальна. Вы будзьце ласкавы зрабіць даклад аб сытуацыі на месцы.

Савінкаў падняўся.

— Бывайце здаровы!..

## 4

Чырвоныя атрады адыходзілі, ня прымаючы бою. А Балаховіч п'янеў ад „перамог".

Белагвардзейскія газэты захлёбваліся ад радасьці.

У Варшаўскіх салёнах рыхтаваліся да выезду ў Менск і ў Маскву.

Вёска сьціснула зубы й маўчала. Маўчала й напружвала мускулы, каб нанесьці ўдар.

Моладзь у лясох. Большымі і меншымі групамі.

— Эх, каб знашоўся кіраўнік!..

І тут у лясох ішла глухая, маўклівая, сьмяротная барацьба.

Стараліся ўзяць верх. А ўзяўшы верх, ня ведалі зьлітаваньня.

— Раз паміраць!..

А балахоўцы на безбаронныя вёскі нападалі. Забіралі ўсё, што можна было ўзяць. Усё іншае палілі.

5

Алесь і Грышка пакінулі Зацішша.

— Трэба ратаваць сялян.

„Ваўчаняты“ ператварыліся ў арганізаваную баявую дружыну. Да сотні хлапцоў сабралася.

Алесь перастаў быць тым добрадушным, вясёлым хлопцам, якім быў раней.

Усе яго думкі—барацьба.

Усюды, дзе толькі можна, дапамагае.

Змарыліся „ваўчаняты“.

У самай глушы агонь разлажылі. Адпачываюць.

Алесь з Грышкам аб нечым радзяцца.

— Алесь, засьні!..

Гэта Сьцёпка.

— Каціся ты! Няма часу!..

— Тры ночы ня спаў. Заўтра з ног звалішся!

— Нічога, не звалюся. Справа, хлопцы, ёсьць.

Усе паднялі галовы.

— Вось што я надумаў, хлопцы. Трэба нам пад фронт падабрацца. Там нашы блізка. Карысьць прынясем!..

— Ну, за чым-жа дзела стала?—пачуліся галасы.

— Справа ў тым,—пачаў Алесь...

Але раптам з лесу пачуўся сьвіст.

Усе ўстрывожыліся.

Гэта Цімох! Знак падае!..

— Што там здарылася?..

Праз пару хвілін з лесу выбег на палянку хлапец год 12. Сьвіткі й шапкі на ім ня было. Кашуля падрана ў кавалкі.

— Ратуйце, ратуйце!..

— Што такое?—устрывожыліся хлопцы.

— Балахоўцы... напалі на Апочку... папалілі... цяпер нашу вёску акружылі,—задыхаўся хлапец.

Алесь нахмурыўся.

— Вось што. Ты, хлопча, застанься тут за вартаўніка. Як цябе зваць?

— Лявон!..

— Маладзец, Лявон, што прыбег да нас. Харошы ты хлапец, як я бачу А ну, хлопцы, пройдземся.

Алесь падазваў Грышку

— Ты з дзесяткам хлопцаў застанешся ззаду на ўсякі выпадак! Рэшту падзелім на два атрады! З адным — я, з другім — Сьцёпка Сьцёпка абходзіць кругом, а я нападу з лесу. Толькі ты, Сьцёпка, адразу не нападай; пасьля мяне праз хвілін колькі!..

Увесь атрад акунуўся ў цемру.

Ціха акружылі вёску „ваўчаняты“.

Балахоўцы былі асьцярожнымі й выставілі вартаўнікоў. Але Алесю ўдалося бяз шуму зьняць варту.

Пры першых стрэлах балахоўцы струсілі. Але потым, разабраўшыся, што іх больш, як ворагаў, перашлі ў наступленьне. Алесь са сваімі хлопцамі ўжо быў выціснуты з вёскі.

У гэты момант за сьпінамі балахоўцаў загрымелі стрэлы. Пачаў Сьцёпка. Балахоўцы апынуліся між двох агнёў. Перамога была за „ваўчанятамі“. Але шчасьце йзноў вярнулася да балахоўцаў. У вёску, каля якой ішоў бой, павінен быў прысьці яшчэ адзін атрад. Атрад гэты затрымаўся недалёка ад вёскі.

Пачуўшы стрэлы, камандзір павёў атрад хутчэй і трапіў якраз тады, калі „ваўчаняты“ зусім акружылі пераможаных балахоўцаў.

Цяпер ужо „ваўчаняты“ апынуліся ў дрэнным становішчы.

Алесь загадаў адступаць у лес.

— Грышка што-небудзь прыдумае, — калацілася ў яго галаве.

І жменька „ваўчанят“ адстрэльваючыся адыходзіла к лесу.

Балахоўцы наступалі густою лавою. Грышка, пачуўшы, што страляніна прыбліжаецца, зразумеў, у чым

справа. Калі атрад Алеся зусім быў прыціснуты к лесу, Грышка паўзком дабраўся да Алеся.

— Слухай, Алесь,—шапнуў ён яму,—замані гэтых сукіных сыноў у лес, а там знойдзем, што рабіць!...

І вярнуўшыся да сваіх, Грышка адвёў хлопцаў у бок. Алесь выканаў параду Грышкі. Абстрэльваючы балахоўцаў, ён адступаў усё далей і далей у лес. Балахоўцы соваліся за ім.

Нарэшце Грышка знашоў магчымым прыняць удзел у бойцы. Ён біў на ўражаньне.

І тады, калі балахоўцы менш усяго чакалі нападу з тылу, Грышка агарошыў іх некалькімі залпамі.

Эфэкт быў надзвычайны.

Нечаканасьць нападу зрабіла сваю справу. Балахоўцам здалося, што ззаду на іх нападае вялікі атрад. Момант перадышкі, і Алесь зрабіў энэргічны націск. Цяпер кулі сыпаліся на балахоўцаў з усіх бакоў, і яны ня ведалі, куды кінуцца. Пачалася паніка, і праз хвіліну балахоўцы рассыпаліся ва ўсе бакі.

Алесь ня траціў часу. Ён намеціў сабе афіцэра з капітанскімі пагонамі й кінуўся на яго. Схапіў за глотку яго і аглушыў ударам кулака.

„Ваўчаняты“ вярнуліся на сваю паляну з трофэем— прыцягнулі аглушанага Алесем капітана. Капітан яшчэ ня прышоў у сябе пасьля ўдару. Нарэшце вочы яго адкрыліся. Алесь пнуў яго нагою.

— Ну, ты, воўчае мяса, уставай!..

Капітан падняўся і сеў.

— Стань на ногі! Я—пролетарыят, а ты—міжнародны капіталізм і павінен стаяць перада мною. Ну, чуеш, ці не?..

Капітан паглядзеў на суровы твар „ваўчанят“ нехаця ўстаў.

— Як зваць?..

— Капітан Ястрабаў.

— Граматны?

— Граматны.

— Ты тутэйшы ці не?

— Рускі.

— Ці даўно бандытызмам займаешся?

— Я протэстую...

— Ты, чортаў смык, не протэстуй, а адказвай, калі пытаюцца! Дзе цяпер праходзіць фронт?..

— У раёне Мазыра.

— А Калінкавічы?..

— Заняты бальшавікамі.

Алесь аж падскочыў.

— І ты ня брэшаш? Чуеце, хлопцы! Нашы йдуць! Каля Мазыра бой ідзе!..

— Дзе цяпер Балаховіч?

— Ня ведаю

— Брэшаш, злыдзень, ведаеш! Кажы, бо загаворыш зараз немым голасам.

— Здаецца, заўтра выедзе ў Тураў.

— Заўтра, кажаш?

Алесь раптам спыніў дапрос. Новая думка завіхрылася ў яго раскудлачанай галаве. Ён пасьпяшыў падзяліцца сваёю думкаю з Грышкам. Грышка прысьвіснуў.

— Ну й мастак ты, Алесь, на такія штукі!..

А Алесь зьвярнуўся з прамовай да хлапцоў:

— Вось што, хлопцы. Я йду з Грышкам по важнай справе: хачу са старым знаёмым пабачыцца—з Балаховічам. Ты, Сьцёпка, за мяне тут застанешся. Гэтага вось шпака даглядайце тут, каб ня ўцёк,—паказаў Алесь на капітана.—А затым, хлопцы, бывайце здаровы! Можа засыплюся, дык не памінайце ліхам. Пашлі, Грышка! Няма чаго траціць часу!..

Двое першых „ваўчанят“ зьніклі ў лесе.

## 7

Нядоўга цягнуліся перамогі Балаховіча.

Па атрадах Чырвонай Арміі быў дадзены загад:

— Зьліквідаваць банды Балаховіча.

І каля Калінкавіч бацькава армія напаролася на чырвонаармейскія штыкі. Напаролася й пакацілася назад. Сьлед яе паказвалі зруйнаваныя вёскі, разгромленыя мястэчкі.

Балаховіч рваў і мятаў. Усе яго бліскучыя пляны разьляцеліся. А яшчэ прыдзецца разьлічвацца з Пілсудзкім.

Чырвоная армія пагражала ўжо Мазыру. І бацька перанёс сваю сталіцу ў Тураў.

Недалёка ад Турава да невялічкага бацькавага атраду падскакаў на ўзмыленым кані нейкі чалавек. Ён патрабаваў, каб яго зараз-жа дапусьцілі да бацькі.

— У чым справа?—пад'ехаў Балаховіч.

Чалавек нахіліўся да яго й пачаў нешта шаптаць яму на вуха. На твары бацькі зьявілася злосная ўсьмешка.

— Так! калі?

— Учора вечарам, пане гэнэрал!

— Добра! Я вам даручаю ўсю справу, маёр!

— Дзякую, пане гэнэрал!

— Няма за што, падпалкоўнік!..

Прыехаўшы ў Тураў, Балаховіч меў нейкую таемную нараду з незнаёмым і фашыстамі.

З комэндацкай команды былі пастаўлены на варту ў гэту ноч самыя надзейныя ратнікі.

8

Ня сьпіцца бацьку.

Усё ўспамінае ён тую першую ноч, калі Алесь забраўся ў яго палатку. Успамінае сёнешнюю навіну.

Алесь з Грышкам даўно ўжо ходзяць кругом хаты, дзе начуе бацька.

— Як забрацца?

Алесь і Грышка—дзеці лясоў. Па дрэвах, як белкі, лазяць. На дах залезьці—раз плюнуць. На гару, з гары—чорнаю плямаю люк. Пад самым люкам стаіць вартаўнік.

Алесь напружыўся і ўсім сваім цяжарам упаў на шыю ратніка. Праз хвіліну ратнік, напалову прыдушаны, змоўк. Зьверху ціха спусьціўся Грышка.

— Хадзем,—прашаптаў Алесь.

Ціха адчынілі дзьверы. У пакоі цёмна. Алесь хацеў запаліць агонь.

Раптам ён пачуў, як яго схапілі некалькі пар рук. Рвануўся. Але моцныя рукі трымалі яго, як абцугамі. У пакоі паднялася вазьня, лаянка. Сіла салому ломіць. Алеся й Грышку моцна скруцілі вяроўкамі.

— Сьвету! Загарэліся лямпы.

— Добры вечар!—пачуў Алесь голас. Глянуў. Ястрабаў.

— Што, не чакаў так скоро мяне спаткаць?..

У Алеся закружылася галава.

— Няўжо Сьцёпка?..

— Расказаць можа табе, як я сюды папаў?—як-бы прачытаўшы думку Алеся, загаварыў Ястрабаў. Справа простая: вашы хлапцы ня здолелі мяне так зьвязаць, як я цябе. Ну, разблутаў руку, другую А хлопцы зазяваліся. Я й выбраўся з палянкі, а там у вёску. Узяў каня й хутчэй сюды. Хацелася вельмі з табою тут пабачыцца. Ды рахункі такія-сякія зьвесьці!

Адчыніліся дзьверы, і ўвашоў Балаховіч.

— Ага, парасяты папаліся. Ну, цяпер дудкі, не ўцячэце! Павесіць зараз-жа!..

Грыбоўскі нешта прашаптаў Балаховічу. Балаховіч скрывіўся.

— Нашто вам валынку заводзіць?

Аднак загадаў.

— З вока іх ня спускаць! Вартаўнікі адказваюць за іх...

І вышаў.

9

Алеся з Грышкам раніцаю ўлажылі ў аўтомобіль і некуды павезьлі. Разам з імі селі двое ратнікаў і капітан Ястрабаў.

Алесь перакідваўся з Грышкам жартамі.

— Во, брат, дажылі мы з табою. Як паноў якіх у аўтомобілі вязуць. Ці езьдзіў калі ты на аўтомобілі?

Грышка хацеў павярнуцца, але пачуў у сябе пад рукою нешта цьвёрдае й вострае. Гэта быў зломаны канец спранжыны, які вылез праз скураную абіўку.

У Грышкі зьявілася сьмелая думка. Ён цярпліва й няпрыкметна пачаў перацірацъ вяроўку, якая скручвала яго рукі. Алесь, ня ведаючы, у чым справа, сьмяяўся над ім.

— Што ты, Грышка, як вады ў рот набраў!

Але Грышка маўчаў і рабіў сваю справу.

Нарэшце, калі капітан адвярнуўся на хвіліну да шофэра, Грышка падмігнуў Алесю й павёў брывямі на капітана, высунуўшы язык.

Алесь зразумеў.

— Трэба раззлаваць.

І пачаў асыпаць капітана кпінамі.

— Скажы, капітан, як ты ўцякаў ад хлапцоў, дрыжаў ад страху ці не?

Капітан адказваў моцнаю лаянкай. Грышка тым часам рабіў сваю справу й даводзіў яе да канца.

— Дык чаго-ж ты лаешся?

І памаўчаўшы:

— А што калі на нас зараз Сьцёпка нападзе?

— Не нападзе,—вырвалася ў капітана.

— Чаму?

— А таму, што мы ўжо на польскай зямлі. Праз польскі фронт яму не пралезьці.

— Нічога, ён цябе й тут дастане.

Грышка кончыў сваю справу. Рукі ў яго былі свабодныя. Хлопцы ляжалі, шчыльна прыціснутыя адзін да аднаго, і Грышку было лёгка няпрыкметна разблутаць рукі Алесю. Каб адцягнуць увагу капітана, Грышка завёў гутарку.

— А помніш, капітан, калі ты хацеў уцякаць ад нас і Алесь табе па галаве стукнуў. Вось я тады й падумаў: і майстар-жа ты ўцякаць. Даўно, мусіць, гэтаю справаю займаешся?

Ястрабаў пазелянеў ад злосьці.

— Маўчы, шчанё, у морду дам!

У Алеся рукі былі ўжо разьвязаны, й ён умяшаўся ў гутарку.

— А я тады табе па галаве, як тады! Нябось яшчэ галава трашчыць?

— Кінь ты яго, Алесь! Плюнь на яго так вось, як я,—і Грышка плюнуў.

Капітан, як шалёны, кінуўся на Грышку. Але Алесь ня выдаў. Моцным ударам з боку ён зьбіў яго з ног. Капітан упаў на борт аўтомобіля. У гэты час аўтомобіль падскочыў на нейкай каляіне, і капітан выляцеў на дарогу. А хлапцы душылі вартаўнікоў, якія былі проста агарошаны. Пакуль шофэр спыніў машыну, хлапцы мелі ўжо ў руках вінтоўкі й разблуталі ногі. Грышка накіраваў вінтоўку на шофэра, а Алесь пачаў выкідаць з аўтомобіля ратнікаў.

— Поўны ход,—скамандваў Грышка шофэру, трымаючы стрэльбу напагатове.

Шофэр разагнаў машыну.

Даехаўшы да лесу, хлопцы загадалі шофэру спыніцца, вышлі з аўтомобіля і прапалі ў гушчары.

Забраўшыся далёка ад дарогі, дзе ўжо ня страшна была пагоня, хлопцы глянулі адзін на аднаго й разрагаталіся.

— Ха-ха-ха!—рагатаў Алесь.

— Хо-хо-хо!—захлёбваўся Грышка.

— Як гэта мы іх... аж ня верыцца!

— Я ўжо думаў, што канцы нам будуць! Ох-хо-хохо! Лоўка!..

— Вось што, Грышка, — загаварыў Алесь, калі апошняе водгульле рогату затанула ў зялёным моры,— куды мы цяпер падзенемся?

— Як куды? Да нашых!

— А я ня тое думаю...

— А што?

— Перш усяго нам цяжка будзе пералезьці праз кардон. А другое, мы там ня так ужо й патрэбны.

— Чаму?

— А таму, што зараз адтуль Балаховіча выганяць. Самае цяжкае пройдзе, а тут толькі наступае. Там, брат, табе й комсамол, і партыя, і ўлада наша, а тут яшчэ бароцца трэба. Застанемся лепш тут!

Грышка падумаў:

— У мяне тут недзе цётка жыве. Спрабуем знайсьці!

І праз тыдзень Алесь наняўся ў батракі ў двух вёрстах ад таго сяла, дзе жыла Грышкава цётка.

10

У Алеся ня было практыкі працы падпольля. Але ў Алеся была энэргія й моладасьць. У Алеся ня было даволі ведаў, але за тое ў Алеся было правіловае чуцьцё. Трэба толькі дзівіцца таму, як Алесь разгортваў працу...

Ноч. Сіні глыбокі дыван неба, убіты зорнымі цьвікамі. На двары холадна. Добра таму, хто ў хаце сядзіць, добра. Але Алесю, Алесю, які межамі прабіраецца па палёх, ня гэтак ўжо й соладка. Толькі моладасьць, моладасьць вясёлымі званочкамі б'е ў грудзёх. Так і хочацца барацьбы, авантур розных, цікавых. Такіх вось, як у кніжках пішуць.

Холадна. Холад зьбірае ў практычны кулак думы. Цёмна. Толькі ў далі адным падсьлепаватым вокам вакна глядзіць вясковая хатка. Вось і вёска...

Толькі ў аднэй хатцы прыветна мільгаціць аганёк. Алесь проста накіраваў свае крокі да хаткі.

Падышоў Алесь да вакна, глянуў. Консьпірацыя і ўмоўны знак—самыя простыя. На ваконцы стаяла бутэлька з алеем—значыць, увайсьці можна...

Алесь пастукаў. Праз некалькі хвілін дзьверы адчыніліся, і Алесь увашоў у сярэдзіну.

— Ну што, як у цябе, Грышка, усё спакойна?— запытаўся агледзеўшыся Алесь.

— Так, Алесь, так, усё добра...

— Як, сход блізкіх нам хлапцоў, калі назначыў?

— Ды заўтра а 12 гадзіне, вось тут у мяне ў хаце.

— Так... добра. Ці пэўныя хлопцы?—разважаючы запытаўся Алесь.

— Адказваю, як за самога сябе,—горача крыкнуў Грышка.

— Ну, добра...

— А яшчэ, Алесь, дужа хочуць хлопцы пабачыць атамана „Ваўчанят“. Тут, браце, аб табе кожная вёска ведае!..

— Ну, добра. Толькі ты не кажы нікому, што я тут. Нават самым блізкім не кажы!..

І, зьмяніўшы тон, Алесь хутка запытаўся:

— Навіны ёсьць?

— Кажуць, што заўтра—альбо днём, альбо ў ночы будзе праяжджаць праз нашу вёску ў Вільню гэнэрал Балаховіч.

— А ён... і амаль што яшчэ дзіцячы твар Алеся нахмурыўся.

Раўчукамі ляглі па лбу маршчынкі.

— Адгэтуль ён ня выйдзе! Хай ведаюць гэнэралы, што па нашай вёсцы ім езьдзіць небясьпечна. Балаховіч тут згіне,—цьвёрда сказаў Алесь.

Двое ваўчанят беларускіх палёў, ваўчанят з бліскучымі вачыма вынесьлі прыгавар ворагу сялянства—гэнэралу Балаховічу:

— Сьмерць!

Прытуліліся сівыя вёскі, прытуліліся з помстай за зьдзекі,—чакалі.

## 11

Дзень. Серабрыстыя праменьні белымі языкамі ліжуць стрэхі. Роўна а 12 гадзіне пачалі зьбірацца ў Грышкі хлопцы.

Зьбіраліся маладыя сьвіткі саматканыя й садзіліся па лаўках.

Хутка зазьвінеў сьпеў лявоніхі:

— Як я молада ў матулькі жыла,
Як вішанька у садочку цьвіла;
Цьвіла, цьвіла ды пацьвітывала,
З малайцамі ды пагулівала.

Гэта хлопцы прытвараліся. Яны сабраліся зусім не для таго, каб сьпяваць, а каб распачаць помсту, але-ж на ўсякі выпадак, каб ня было ніякай падазрэннасьці, хлопцы сьпявалі.

— Эх-ма, падпольле вясковае. Эх-ма, партызаншчына з цымбаламі...

—А лявоніха, ты жонка мая,
Нямытую мне сарочку дала,
Нямытую, некачаную—
У суседа пазычаную...

Зьвінеў пад вясёлы перазвон цымбалаў сьпеў.

Ніхто не зьвярнуў увагі на Алеся, калі ён сюды ўвашоў.

Ведаць дык яго ведалі, чулі пра атамана „ваўчанят“ дый самі сабраліся, каб да „ваўчанят“ далучыцца. А вось у твар ня прыходзілася бачыць. Адзін толькі Грышка ведаў атамана свайго, але ад Грышкі ніколі ніводнага слова не пачуеш. А для Алеся гэта дык лепш: ён хаця як сьлед можа разглядзець сабраўшыхся хлапцоў.

„Добрыя, слаўныя хлопцы“, думаў Алесь. „З гэткімі шмат чаго зробіш. Хутка ня будзе дзе дахнуць паном“...

У гэты час у хату ўвашлі нейкія два хлопцы, у вопратках польскіх жаўнераў. Моцна стукнула ў Алеся сэрца, сьціснуў ён у кішэні наган і падышоў няпрыкметна да Грышкі.

— Хто гэтыя хлопцы?—запытаўся ён...

— Свае. Пэўныя хлопцы. На іх сьмела можна палажыцца. Яны хоць і служаць у польскай арміі, але-ж нашы.

— Ой, глядзі... качаючы сваёю кучараваю галавою, сказаў Алесь... Занадта ты, Грышка, даверчывы. Гэтак, браце, нельга. Памятуй, выдадуць яны ўсіх і ўсіх расстраляюць. Глядзі-ж, Грышка!... Ты адпаведны за ўсіх... Ну, а цяпер, калі я ўжо паглядзеў на хлапцоў, мне тут ужо няма чаго рабіць. Дык дай-жа мне з сабою аднаго добрага хлапца і я пайду з ім у лес чакаць бацьку Балаховіча. Як тут арганізуеш хлапцоў, дык тады перайдзі ў другую вёску. Там зноў пачынай працу. Праз месяц у кожнай вёсцы павінны быць атрады „ваўчанят“... ну, бывай! Дык глядзі-ж, трымайся,—дадаў Алесь і зьнік.

Пасьля выхаду Алеся хутка пачаўся раённы сход „ваўчанят“.

Грышка, адзін з бліжэйшых сяброў Алеся, апавядаў хлапцом аб працы „ваўчанят“, аб іх мэтах. З запалам і агнём успамінаў ён, як яны—першыя „ваўчаняты“—хадзілі ў стан да бацькі Балаховіча. Як за Балаховічам дні й ночы сачыў Алесь—атаман „ваўчанят“. Апавядаў Грышка пра Алеся, пра яго сапраўды да жудасьці сьмелыя выступленьні. І іскры сыпаліся з яго вачэй...

У часе слоў Грышкі, калі ўся грамада слухала, як зачарованая, адзін з жаўнераў падняўся й ціха, ціха пашоў да дзьвярэй. Грышка гэта заўважыў, настаражыўся, але нічога не сказаў аб тэй трывозе, якая забілася ў яго сэрца.

... І вось Балаховіч хапіў рэвальвэр і ўзяў прыцэл на атамана. Балаховіч стаіць за паноў, паліць вёскі, грабіць, зьдзекваецца над сялянамі, ён ня можа быць нашым, бо ён буржуазея-крывапійца капіталу антанты й царызму - стары рэжым. А наш атаман Алесь—ён комсамолец, ён за вангард рабочага клясу... І вось Балаховіч прыцэліўся: „Рэнцы до гуры“, Алесь яму: „Ты супроць нас—нічтожны белы, гэнэрал і толькі, таму як калёсы гісторыі ў нас!..

— Рэнцы до гуры!.. яшчэ мацнэй закрычаў голас.

Хлопцы, перакінутыя думкамі ў лягэр Балаховіча, глянулі ў бок дзьвярэй, чакаючы ўбачыць нікчэмнага гэнэрала, які так сьмешна крычыць Алесю: „Рэнцы до гуры“...

Але, заместа белага гэнэрала, у дзьвярох і ў вокнах з вінтоўкамі напагатове стаялі жаўнеры.

Замоўклі хлопцы ад неспадзяванасьці. Толькі Грышка пасьпеў выхваціць з кішэні рэвальвэр, але тутжа і ўпаў, зьбіты прыкладам таго самага жаўнера, які прышоў было на сход пад відам партызана і якому так верыў Грышка.

## 12

Кучаравай галавою шалясьцеў лес. Стромкія сосны, нібы партызаны, настаражыліся па абодвых бакох шляху. Чакалі.

Рэсорная брычка хутка кацілася па роўнай дарозе. У брычцы сядзела двое.

— Ваша прэвасхадзіцельства, — сказаў адзін з сядзеўшых другому.—А ўсё-ж такі нашы партызаны ў Меншчыне лаўчэй працуюць, як тут гэты зброд з мясцовых мужыкоў. Палкоўнік Паўлоўскі, здаецца, ужо дванаццатую вёску спаліў. А колькі перабіў комуністых ды жыдоў, дык і не пералічыш!..

— Так, Паўлоўскі малайцом,—адказала прэвасхадзіцельства,—гэта ня тое, што нейкія шчанюкі, „ваўчаняты" Да слова, чулі гаспадзін палкоўнік, што сягоньня ў гэтым раёне захоплена каля 30 гэтых шчанят. І ведаеце,—усе з сумежных вёсак. Хамы. Сволачы... усіх-бы х на адну галіну.

— Будуць судзіць?—запытаўся палкоўнік.

— Так, будуць! Ваенна-палявы суд! Камандзір арміі ўжо аддаў загад: да вышэйшай меры кары—расстраляць!

— Малайцы палякі. Вось гэта, дык пастанова: коратка і зразумела—расстрэл,—сказаў палкоўнік.—Каб нашы рускія з пачатку гэтак рабілі, пабачылі-б тады гэтыя хамы... рэволюцыю. Тады-б...

— Стой!...

Затрыманыя невядомаю рукою коні ўзьвіліся на дыбы й сталі.

— Скажэце, калі ласка, якая цяпер гадзіна?— звонка запытаўся нейкі малады голас.

— Па... палова чацьвертай,—заікаючыся з перапуду адказаў палкоўнік.

— Дзякую, палкоўнік! Гэта я запытаўся ў вас дзеля таго, каб ведаць, а каторай гадзіне быў забіты гэнэрал Балаховіч.

Прагрымеў выстрал, і гэнэрал пачаў спаўзаць з сядзеньня.

— Выбачайце, гаспадзін палкоўнік, што я вас напужаў! Гэткая дасада!.. усё гэты праклятый гадзіньнік. Ну, едзьце! Не старайцеся аглядацца назад, бо мне не падабаецца ваш твар, і як толькі вы павернецеся назад, я магу яго крыху папсаваць куляю. Дык вы ўжо раўней

сядзеце. Усяго добрага, гаспадзін палкоўнік. Перадайце там у горадзе прывітаньне ад „ваўчанят!“—празьвінеў ужо з лесу голас.

Неба далёка, далёка, нібы засеена жытнёвымі зернямі зорак. Лес бесшабашна пакруціў сваёю зялёнаю папахаю.

13

На краі гораду белаю каменнаю труною—турма. У ёй сягоньня 26 партызан. Разьмешчаны яны ў дзьвёх камэрах.

Па чарзе вызываюць партызан на дапрос. Дашла чарга й да Грышкі. Павялі яго ў канцэлярыю турмы.

За сталом сядзяць двое жандарскіх афіцэраў. На стале ляжыць бізун.

— Як тваё прозьвішча?..

Грышка маўчыць.

— Маўчыш? ну, нічога, у нас загаворыш!..

— Узяць яго!—загадаў афіцэр, і Грышку пацягнулі ў сумежны пакой.

На падлозе цёмнага невялічкага пакою нярухома ляжала некалькі акрываўленых цел.

— Мусіць тут і расстраляюць,—пачаў разважаць Грышка. Але раптам нехта стукнуў ззаду па яго галаве і ён упаў.

Хутка Грышка страціў прытомнасьць.

Калі ён прышоў у сябе, дык убачыў, што ў пакой зноў увялі нейкага хлопца. Таксама прыкладам скінулі з ног, а потым цёркаю, што ў вёсцы труць бульбу, пачалі цёрці сьпіну, і калі з акрываўленых абадраных палос сьпіны пасачылася кроў, пачалі сольлю расьціраць сьпіну. Грышка закрыў вочы. У вачох пабеглі чырвоныя кругі.

Чырвонаю істужкаю лілася кроў з-пад сьпін грышкавых таварышоў па саломе.

Жывыя трупы, але ніводнага слова ад іх ня вырвеш!

— Прашло... Маўчалі...

Думалі хлопцы, мінула навала інквізыцыі, але памыліліся.

Залязгала клямка і... зноў пыткі.

Пачала сваю працу ляборатория сьмерці. Засаджваюць іголкі пад пазногці; гарачае жалеза прымушаюць трымаць у зубох, пяткамі ставяць на гарачыя вугольлі, але—ніводнага слова.

Так прашла ноч, а раніцою—суд.

Суд. Але прыгавар даўно вядомы. Судзьдзя яшчэ ўчора трымаў у руках тэлеграму—расстраляць.

Але, суд „праўдзівы, законны“.

24 маладых вяскоўцы, замораныя голадам і пыткай, акружаныя вартай, ішлі на суд.

24 маладыя барацьбіты.

Саля невялікая, цёмная... Толькі як-ніяк можна на сьцяне разгледзець „белы ожал“.

Судзьдзя кінуў спадлоб'я пагляд на ўваходзячых „ваўчанят“: брудныя, чорныя... Іронічна захіхікаў.

Суд пачаўся.

Пачаўся, але і хутка скончыўся.

— Ці прызнаіцё вы сябе віноўнымі ў працы супроць польскага ўраду, супроць Рэчы Паспалітай?..

Хлопцы маўчаць... і толькі зацікаўлена аглядаюць тых, хто акружаў за шырокім сталом судзьдзю. Якіх значкоў толькі ня ўбачылі, якіх гузікаў... якія рознакалёрныя морды.

— Калі хто скажа імя вашага атамана,—будзе вольны!..

— Калі хто скажа дзе вашы атрады,—будзе ў нас працаваць!..

Адказ адзін: моўчкі ўсьміхаюцца. А ў вачох колькі помсты палае!

— Дык вы прызнаіцё сябе віноўнымі?..

Адказ той-жа.

Сядзеўшы разам з судзьдзёю нейкі стары ўжо паляк, не вайсковы, стукнуў сваім далікатным панскім локцем судзьдзю і з радасьцю сьвежага малака шапнуў:

— Маўчаньне—знак згоды!

Судзьдзя не злаваўся, яму ўсё роўна.

Загад тэлеграмай быў.

Устаў, за ім усталі яго суседзі, прымусілі ўстаць „ваўчанят“ і глухім водгульлем пакацілася:

— Палявым судом дэфэнзывы N-скай арміі за дзеяньне, накіраванае да зьнішчэньня існуючае польскае ўлады, сяляне: Грыгор Вясёлы (Грышка), Якуб Вішня, Лаўрэн Ручнік, Андрэй Паддубны, Васіль Зарэцкі, Якуб Далёкі, Зьмітро Падабед, Алесь Бажок . . .

. . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . .

24 чалавекі прыгавораны да сьмертнае кары—расстралянць.

## ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ

### 1

Працавалі атрады Алеся. Па кожнай вёсцы бомбамі заляглі.

Двараніну ні па сьцежцы не прайсьці, ні па шляху не праехаць.

Маёнткі напалоханымі жабракамі прытуліліся.

Цяжкі для іх час надышоў.

І толькі вёскі весела лучынілі вачыма сваіх хатак.

Бач, сялянскія хлопцы ля сваіх хатак сваім жыцьцём здабывалі волю.

Мір вёскам—вайна палацам. Атрады Алесевых „ваўчанят“—усюды.

Двараніну ні ў хаце жыцьця, ні па шляху праезду...

Ой, і ўскіпелі-ж бунтоўнымі хвалямі лапцюжныя сэрцы.

Ой, і ўзьняўся лапаць над панам.

Нават кучаравыя галовы дрэў беларускіх лясоў і тыя, як жывыя, ходарам захадзілі...

А хвоі пяюць, пяюць...

„Цярпець больш ня будзем... Мы знаем, што трэба рабіць“—зьвініць у шуме іх сьпеваў.

Ой, і надышла-ж гадзіна...

Кожнае дрэва заносіць нож на ворагаў сялян.

— Стой!

І той, хто сказаў гэта, падмацаваў сваю пропозыцыю дулам абразанкі.

Малады афіцэр, да якога адносіліся гэтыя аргумэнты, глянуў у цемру. Кругом чарнаватаю сьцяною згрудзіўся лес. І на чорна-шэрым фоне гэтай сьцяны афіцэр разгледзеў нейкія чорныя постаці.

— Стой!..

З-пад заслоны цемры вынырнула двое людзей. Адзін з іх быў узброены абразанкаю, другі трымаў у руцэ аўторытэтны маузэр.

— Адкуль і куды едзеце?

Афіцэр падумаў, што ў незнаёмых была орыгінальная манера задаваць пытаньні. Але думаць доўга нельга было, бо абразанка выказвала нецярплівасьць і прычмоквала замком.

— Еду з Беластоку да бацькоў.

— Дзе яны жывуць?

— У Гарэшкавічах...

У часе гутаркі афіцэру ўдалося разглядзець, што з ім гавораць зусім яшчэ маладыя хлопцы.

Пачуўшы адказ афіцэра, хлопцы пераглянуліся.

— Паварачвай, пане Стронскі, назад!—скамандваў старэйшы. А малады дадаў:

— Мы баімся, каб вы часам не заблудзілі дзе! Цёмна цяпер!

У голасе яго іскрылася насьмешка.

Афіцэр хацеў заспрачацца і сказаць, што да хаты яму засталося толькі вярсты дзьве, а назад да станцыі вёрст 10 з гакам. Але хлопцы яшчэ болей настойна пачалі наступаць на афіцэра.

— Паварачвай назад, пане!

— Але па якому праву?

Пачуўшы гэта запытаньне, маузэр уставіўся на яго сваім чорным вокам, а нехта паварачваў ужо хурманку.

— Я протэстую! Я афіцэр арміі польскай...

— Шчасьлівай дарогі, пане афіцэр, заўтра можаце ехаць да бацькоў зноў, а сягоньня радзім як найхутчэй выяжджаць з лесу!

Забраскацелі калёсы.

Ад'ехаўшы з поўвярсты, хурман адвярнуўся да афіцэра.

— Тут, пане, нешта ня так!..

## 2

— Тут нешта ня так!—прабурчэў стары Мацей, пачуўшы стук у браму.—Якога чорта магло так позна прынесьці?

Стук не змаўкаў.

— Хто там?—падышоў Мацей да брамы.

— Адчыняй!

— Але-ж хто гэта?..

— Ну, хутчэй, стары чорт, бо вароты высадзім!

— Але-ж паны сьпяць ужо! можа заўтра раніцою зайшлі-б...

Адказам яму быў удар у вароты нечым цяжкім.

— Адчыніш, ці не?!

— Я пайду запытаюся...

Вароты затрашчалі ад удараў.

— Адчыняю, адчыняю!

Сабакі на дварэ аж задыхаліся.

Заскрыпелі вароты. У двор пасыпаліся ўзброеныя людзі.

— Чаго вам трэба?—дрыжачым голасам прашамкаў Мацей.

— Вядзі да пана.

— Але-ж яны сьпяць...

— Ну, жывей вядзі... а то...

Адзін з гасьцей аддаваў загады:

— Міхась і Юрка, пільнуйце брамы! Зьмітрок з пяцьма хлапцамі застаецца на дварэ. Акружыць дом!

Чалавек шэсьць стала на ганку перад дзьвярыма.

— Адчыняй!—застукаў прыкладам у дзьверы адзін з іх.

Увашоўшы ў хату, незнаёмыя рассыпаліся па пакоях. Двое затрымалі лёкая.

— Вядзі да пана!..

Той замяўся.

— Але ў іх пані...

— Вядзі, не таргуйся!

Падвёўшы незнаёмых да дзьвярэй панскага пакою лёкай хацеў пастукаць, але адзін з незнаёмых адпіхнуў яго і нагою раскрыў дзьверы.

Пачуўся лёгкі жаночы крык і гнеўны вокрык пана.

— Хто гэта? Хто пасьмеў?..

— Выбачайце, пане Стронскі, што нам прышлося перабіць ваш сон,—абарваў незнаёмы.—Лявон, запалі сьвет!

— Ай, я не адзета!—пачуўся жаночы протэст.

Лявон запаліў сярнічку і пачаў паліць лямпу.

Пан закрычаў:

— Як вы сьме...

І асекся пад наведзеным на яго браўнінгам.

— Вось што, пане, вы атрымалі ўчора 10.000 франкаў за наш лес... я ўпоўнаважаны прыняць ад вас гэтыя грошы.

— Гэта грабёж.

— Гэта толькі аднаўленьне нашага права...

— Ну, пан, гані манету!.. нецярпліва крыкнуў другі.

— Чакай, Лявон, не гарачыся!..

Пан стаяў перад імі ўвесь бляды ад страху. Бялізна яго рабіла яго падобным на нейкі прывід надзвычайна брыдкіх формаў.

— Вы памыліліся, панове бандыты, з крывою ўсьмешкаю загаварыў ён.—Гэтыя грошы знаходзяцца ў банку ў Навагрудку.

— Не пляці, пан, казак. Мы добра ведаем, што грошы тут.

Пані куталася ў коўдру і дрыжэла ад страху.

У пакой убег нехта трэці.

— Алесь, здрада!.. Двор акружае паліцыя.

— Як?

— Мікола быў захоплены і даведаўся, што нас выдаў...—новы госьць схіліўся да вуха Алеся і нешта прашаптаў.

Пан, карыстаючыся момантам, дабраўся да стала і стараўся адкрыць шуфляду. Алесь абярнуўся:

— Я, пане, усаджу табе кулю ў галаву раней, чым ты знойдзеш рэвольвэр. Адыйдзі ад стала...

Алесь падышоў, выцягнуў са стала браўнінг і палажыў сабе ў кішэню.

— Лявон, зьбяры хлопцаў і ў парк. А гэта—захапіць з сабою!..

3

— Новы налёт бандытаў!

— Налёт бандытаў!

— Сьвежыя газэты! Налёт на Гарэшкавічы!

Носяцца хлапчукі-газэтчыкі па вуліцах.

Па Маршалкаўскай вуліцы ішлі двое маладых афіцэрыкаў.

— Стась, чуеш, новы налёт.

Купілі газэту й жадна шукалі сэнсацыйнага паведамленьня

«У ноч з 19 на 20 г. м. ўзброены атрад напаў на маёнтак пана Стронскага—Гарэшкавічы. Ня гледзячы на тое, што паліцыя была папярэджана аб нападзе й акружыла маёнтак, бандытам удалося скрыцца, забраўшы з сабою 10.000 франкаў, атрыманых панам Стронскім за прададзены лес. Зьнік бяз сьледу агэнт, які папярэдзіў паліцыю. На чале атраду стаяў нейкі Алесь. Думаюць, што гэта была вядомая організацыя „Ваўчанят“. Паліцыя вядзе сьледзтва.

Афіцэры пераглянуліся.

— Ізноў ваўчаняты!..

— Гэта бацьку нашага Пранцыся пачысьцілі!

— Я таксама гэта думаю!

— Шкода. Але вось шэльмы, і ад паліцыі выкруціліся, і грошы забралі.

— А ведаеш Бронэк„ мне здаецца, што яны і таго агэнта зманілі.

— Можа быць. Заходзь сёньня ўвечары да мяне. Потым разам куды-небудзь вырушым.

Прыяцелі разышліся.

Вечарам, прышоўшы да Бронэка, Стась убачыў, што той разглядаў карту-трохвёрстку і рабіў нейкія знакі алоўкам. Пачуўшы крокі Стася, Бронэк абярнуўся.

— Мяне, брат, зацікавіла, як маглі ваўчаняты прабрацца праз аблогу.

— Ну і што?

— Шкада, што мы ня ведаем, як акружала паліцыя маёнтак. Ты помніш, як мы былі там мінулым летам?

— І аблазілі ўсю ваколіцу! Помню!..

— Ну, дык павінен помніць, што да дому прымыкае парк. А ты помніш, дзе ён канчаецца?

— Каля рэчкі.

Бронэк самадавольна ўсьміхнуўся.

— Галава. Каля рэчкі... а за рэчкаю што?

— Балота. А за балотам аж да савецкай граніцы лес. Ты гэта праўду кажаш. Але дапусьцім, што бандыты перабраліся праз рэчку. Што далей... Балотам.

— Чудак ты... Па балоце-ж гэтым і сабака не прабяжыць. Зацягвае яно...

— А ну, разгадай загадку.

Стась пачаў ужо крыху цікавіцца.

— І праўда. Паліцыя іх ня бачыла. Праз рэчку ды праз балота ім не пралезьці. На неба яны ўзьляцелі, ці праз зямлю праваліліся.

Бронэк усьміхнуўся.

— Ты, сын мой, маеш рацыю,—важна пачаў ён.— Яны праваліліся скрозь зямлю.

Стась вылупіў вочы.

— Што яны, чэрці ці што? Ты, брат, глупства вярзеш!...

— Яны праваліліся скрозь зямлю, гэта-ж такая праўда, як мы з табою дваране ад патопу.

— Брэдзіш, Бронэк!..

— А вось слухай. Ты ня зусім правільна сказаў што парк канчаецца каля рэчкі. Трэба было сказаць—над рэчкай.

Стась хлопнуў сабе па лбе.

— Я зусім забыўся пра абрыў. Абрыў сажняў у дзесяць і сьцяною спускаецца ў ваду.

— Гэта адно. А скажы, калі пабудаваны палац, у якім жыве Стронскі?

— Нешта гадоў 400 таму назад.

— Ну, цяпер паварушы мазгамі. Нашы прадзеды вельмі любілі часамі гуляць у сьценах сваіх палацаў і пад зямлёю.

— Э, ды ты ўжо да падзямельляў дашоў. Табе, як я бачу, кіно шкодзіць. Ды і з кніжкамі асьцярожней трэба быць.

А ў самога ў галаве ўжо заварушыліся думкі.

І Стась ня вытрымаў.

— А ведаеш, Бронэк, калі ўсё гэта так, як ты думаеш, то зразумела, чаму паліцыя да гэтага часу не магла трапіць на сьляды ваўчанят.

— Я перакананы, што гэта так.

І ў абодвух адразу зьявілася адна думка.

— Праверым?

— Праверым!..

Заўтра ў штаб па водпуск.

— Дзынь... Дзы-нь...

— Алё, слухаю! Так! Дэфэнзыва! Каго? Пана Грыбоўскага? Зараз!..

І праз хвіліну:

— Алё!.. Вы слухаеце?.. Перадаю трубку пану Грыбоўскаму.

— Я слухаю! Хто гэта? А... Скшынскі! Здароў, здароў! У чым справа? Ну, што ты кажаш? Ня можа быць... так, так. Ну і галава ў цябе гарачая. Водпуск маеш ужо? Дапамогу? Добра, добра! Зараз прыеду да цябе!..

Пан Грыбоўскі павесіў трубку.

— Аўтомобіль! На Замкавую!..

4

— Грышка, твой конь у балота зараз улезе!

— Вось падла!.. Панесла яго нячыстая сіла!

І Грышка неахвотна падняўся і зьнік у кустох.

— Ну, Сьцёпка, расказвай далей!..

— Слухайце-ж!.. і вось стаялі Ігнась з Андрэем... раптам брычка едзе, а ў брычцы, браткі мае, афіцэр...

„Куды едзеш?“

„У Гарэшкавічы да бацькоў“.

— Глянуў Ігнась, аж гэта малады Стронскі... як тут быць? Паедзе—усіх перапалошыць. Вось Ігнась уставіў абразанку ды кажа: „Паварачвай назад“...

— Няўжо-ж у яго леварвэра ня было?

— Быў... І леварвэр, і стрэльба, і кулямёт.

— Ну, гэта ты ўжо, Сьцёпка, брэшаш. На чорта ён будзе з сабою кулямёт цягаць.

— А то як-жа ж. Ён-жа афіцэр. Вунь глядзі, кожны салдат стрэльбу мае.

Хлопцы гатовы былі згадзіцца з гэтым довадам. Але з грамады пачуўся голас.

— А ты бачыў калі кулямёт?

— А што-ж, хіба так, як ты? Канешне бачыў!..

— Які-ж ён?

— Так, так, які ён?—зазьвінелі галасы.

Вочы Сьцёпкі забегалі кругом, як-бы шукаючы адказу.

— Ну, такі вось,—нясьмела адказаў Сьцёпка, робячы нявыказны знак рукою ў паветры.—Круглы такі,—набраўшыся сьмеласьці, выпаліў ён.

Расхістаны аўторытэт Сьцёпкі пачаў узмацняцца.

— Выходзіць, што ты яго ня бачыў, калі ня ведаеш, які ён,—ня спыняўся прадстаўнік опозыцыі.—Кулямёт, брат, вялікі і афіцэр ня мог яго з сабою везьці.

— А ў яго маленькі быў—афіцэрскі.

Процiў гэтага опозыцыя нічога не магла сказаць.

— А вось я вам што раскажу,—пачаў крыху нараспеў белабрысы віхрасты хлапец Гаўрылка.

— Ехалі раз салдаты праз Лагінавічы. Ехалі і трэба было ім зьмяніць хурманку. Ну, дык яны аднаго старога прыгналі з поля, дый загадваюць: „Вязі“. Той і туды і сюды—нічога. Грымнулі прыкладам у плечы, і павёз бедны. А яму снапы трэба было з поля вазіць, і конь адзін. І вось павёз ён іх. А яны па дарозе ўздумалі скінуць яго з возу і адабраць каня. „Зьлязай“—кажуць. Той укленчыў перад імі, давай прасіць, маліць. Яны і вухам не вядуць. Зьлез ён з возу...

— Вось дурань!—адазваўся адзін з хлапцоў.—Я-б паскідаў іх з возу, а сам пугаю па кані. Уцёк-бы...

— А яны-ж са стрэльбамі, дурань ты...

— Ну, і вось толькі крануліся яны з месца, як з кустоў з усіх бакоў—людзі з леварвэрамі і стрэльбамі.

— Паадбіралі яны ў салдат стрэльбы, акружылі іх, а старшы падышоў да іх ды давай лаяць:

„Вы што-ж гэта, сукіны сыны, мала вам, што чалавека ад поля адарвалі, дык яшчэ апошняга каня адбіраеце!“

— А потым падышоў да дзядзькі дый кажа: „Едзь, дзядзенька, да хаты, ды калі цябе які салдат пакрыўдзіць прыдзі на гэта самае месца, мяне знойдзеш. Я—Алесь, атаман ваўчанят“. І даў яшчэ дзядзьку на дарогу грошай.

— А што з салдатамі?

— Ніхто іх ніколі потым ня бачыў. Кажуць расстралялі іх ваўчаняты.

У кустох пачуліся шагі.

— Вось і Грышка ідзе...

Але заместа Грышкі да хлапцоў нейкі подышоў незнаёмы высокі хлапец з вінтоўкаю ў руках. Хлопцы прыціхлі.

— А ну, хто з вас, хлапчукі, спрытнейшы? На абаранкі заробіць!

Хлопцы ціснуліся адзін да аднаго. Падняўся Юрка.

— А што трэба зрабіць?

— Сесьці на каня і як мага хутчэй паехаць у Зарэчча і там аддаць пісульку Янку Абалонцу.

Юрка пачасаў за вухам.

— Добра, я паеду.

— Толькі-ж глядзі, нікому не кажы, куды едзеш і ад каго. А вось табе на цукеркі.

— Добра.

І Юрка зьнік у кустох. За ім пашоў незнаёмы.

5

— Я, панове, таксама не разумею, як гэта магло здарыцца,—хрыпеў пан Стронскі.

— А скажэце, у Вас у сьценах ніякіх патаёмных ходаў няма?

— Што вы! Адкуль яны тут будуць?

— Гарэшкавічы—ваш радавы маёнтак?

— Ён раней належаў да роду Ястжэмбецкіх. Потым перашоў да майго дзеда.

— У якім пакоі вы атрымлівалі грошы?

— У зялёнай гасьцінай. Вось толькі што цікавіць мяне, як маглі бандыты выбрацца з парку? Паліцыя ішла паўз абрыву. Яны маглі толькі выйсьці праз абрыў. А гэта, як вы самі бачылі, немагчыма.

Бронэк і Стась пераглянуліся.

— Дзе ты, Пранцысь, быў у гэту ноч? Ты-ж выехаў яшчэ 18-га ўвечары Знача, у тую ноч ты павінен быў быць дома.

— Я... я затрымаўся на станцыі! Старога сябра спаткаў.

„Дзіўна“, падумаў Бронэк.

„Няпраўда“, рашыў Стась.

Пранцысю проста было сорамна прызнацца перад таварышамі, што пабаяўся нейкіх двух хлапчукоў. І ён усім казаў, што затрымаўся на станцыі.

У пакой увашла сястра Пранцыся—панна Гэля.

— Проша вячэраць, панове!

Усе перашлі ў сталовую.

Стась і Бронэк занялі месца каля панны Гэлі і яе падругі Ўладзі. Сама пані Стронская, кабета гадоў за 40, нарумяненая і зацягнутая ў корсэт, таксама прысуседзілася да моладзі і вяла з афіцэрамі жывую гутарку.

Афіцэры наперабой занімалі паненак. Пані Стронская ўсімі сіламі старалася зьвярнуць на сябе ўвагу Стася. Але той увесь захапіўся гутаркаю з Гэляй. Нарэшце пані Стронская зазлавалася.

— Гэля! Табе час ужо ісьці спаць...

Гэля неахвотна паднялася з-за стала.

— Да заўтра, пан Стась!..

Але плян пані Стронскай ня ўдаўся. Пасьля выхаду паненак яны пачалі зяваць. Пранцысь адазваўся да іх:

— Ну, хлопцы, вы змарыліся, відаць! Дзе мне вас улажыць?

— Ці ня можна ў зялёнай гасьцінай?

## 6

Шырака раскінулася балота. Да лесу размахнулася і з лесам пераплялося. Сабака не прабяжыць па ім. Засмокча, зацягне. А ўночы туман зеленаваты кудзерыцца на ім. Усе дарогі старанна абыходзяць гэта балота, бо бяда падарожнаму, які трапіў-бы сюды.

У тумане над балотам мільгануў нейкі цень. Адзін... другі... шмат іх. І гутарка туман калыша... Людзі йдуць па балоце.

Дзіўна. Стары воўк у лесе пацягнуў носам на балота. Што за ліха? Чалавекам пахне. І пахне адтуль куды ён, стары сьмелы брадзяга, баіцца блізка падыйсьці. Не, тут нешта нячыстае.

І пашоў стары воўк вілаватымі воўчымі сьцежкамі далей ад граху. А людзі—бліжэй да лесу. Яшчэ поўгадзіны, і цёмная масыўная заслона лесу расступілася дала дарогу людзям і зноў саступілася.

Прышлі.

— Зьбірайцеся, хлопцы, усе сюды... Здрадніка судзіць будзем.

— Хто здраднік? Дзе здраднік?—загудзелі галасы.

Разлажылі агонь, і вогненныя языкі пляснулі чырвоным ручаём на маладыя энэргічныя твары.

— Марцін Глейка!..

З грамады выступіў малады рыжы хлапец. На твары яго неяк пуста.

Нічога, апроч напалову захаванага нахальнага самаздаваленьня.

— Скажы, Марцін, дзе дзеўся Мікола?

— А скуль я павінен ведаць, што я вартаўнік яму, ці што?

— Так Марцін, ты добры хлапец. Мы табе верым. Але вось, думаецца мне, што гэта ён паліцыю на нас навёў.

У Марціна ў вачох прабеглі чуць прыкметныя іскаркі.

— Так, я даўно на яго падазронасьць маю.

Алесь сьвіснуў.

З-за дрэў выступіў новы хлапец. Вочы Марціна шырака раскрыліся, і ён захістаўся.

— Мікола?

— Так, гэта я! Здраднік! Прадажная душа! І на мяне зваліць хацеў!

Марцін, як зьвер, азіраўся кругом. Але з усіх бакоў ён бачыў толькі гневам палаючыя вочы.

— Юда! Здраднік!

— Браточкі, даруйце! Зьлітуйцеся!

— Прадаючы нас, ты ведаў, на што йшоў! На мой погляд, хлопцы, яго трэба паслаць у Парэчча.

Паслаць у Парэчча—сьмерць. Гэта самая страшная частка балота.

На кожным кроку „вокны“. Ні карча, ні сучка. І ні адна жывая істота ніколі яшчэ не праходзіла там. Дарога ў Парэчча—сьмерць.

— Згодны, хлопцы?—запытаўся Алесь.—Віну яго вы ведаеце ўсе. Хто проціў такой кары?

Усё маўчалі.

— Зьлітуйцеся!

Праз поўгадзіны балота з хлюпаньнем і чмоканьнем праглынула сваю ахвяру.

## 7

Кур‘ер палажыў на стол пану Грыбоўскаму ліст.

Па меры таго, як пан Грыбоўскі прачытваў яго, яго бровы сьціскаліся ўсё больш і больш.

„...Як толькі мы прыехалі ў Гарэшкавічы, адразу ўзяліся за справу.

„Агледзелі ўсё кругом, агледзелі ўсе пакоі, але нічога не знашлі.

„Уся мая тэорыя аб падземным ходзе рухнула. Стась пачынае сьмяяцца.

„Тымчасам гэтымі днямі напалі на транспорт зброі, які везьлі ў Залужжа, і адабралі ўсё, што там было. Дзе ён хаваецца—невядома.

„Сяляне чуць не адкрыта сымпатызуюць ім. Нашы колёністыя да таго стэрорызаваны, што зьбіраюцца па-

кідаць сваеколёніі. Самае цікавае, гэта тое, што іх атаман ведае аб тым, чаго мы сюды прыехалі. Да ліста далучаю запіску, якую знашлі на стале ў нашым пакоі. Думаю, што лепш усяго будзе, калі ты сам сюды прыедзеш.

*Б. Скшынскі*".

Пан Грыбоўскі разгарнуў маленькі кавалак паперкі і прачытаў напісаныя алоўкам словы.

„Вітаю паноў з прыездам. Жадаю посьпеху ў вашай справе, хоць і вельмі сумняваюся, каб удалося вам мяне злавіць.

*Алесь ад імя „Ваўчанят*".

Пан Грыбоўскі задумаўся. Машынальна пакруціў ён у руках паперку. Раптам убачыў ён, што на другім баку таксама нешта напісана.

Пан Грыбоўскі зацікавіўся. Прачытаў і нават ушчыпнуў сябе, каб пераканацца, што ня сьпіць.

Што за ліха! На адвароце выразна напісана:

„Складаю сваю пашану пану Грыбоўскаму. Далучаюся да запрашэньня пана Скшынскага,—буду вельмі рады бачыць пана Грыбоўскага. Спаткаю каля станцыі.

*Алесь*".

Гэта было ўжо занадта. Выходзіць, што атаман ваўчанят чытаў ліст і ведае ўсё. Такі чалавек прадстаўляе сур'ёзную пагрозу.

Трэба ехаць.

## 8

За вокнамі нясуцца тэлеграфныя слупы. Праносяцца зубчастыя сьцены лесу і зялёныя дываны балот. Паравоз сыпле іскры ў балота.

У мяккім купэ 1-е клясы—двое жандарскіх афіцэраў. Станцыя С...

— Ну, мне на чарговай станцыі выходзіць!—зьвярнуўся пан Грыбоўскі да суседа.

— А мне, дык яшчэ да Баранавіч ехаць!.. Маю дарučэньні да Ўправы жандармэрыі. А вы па справах, ці так сабе?..

— Як вам сказаць... Я еду да аднаго таварыша. У яго там дзіўныя рэчы творацца. Бандыты там усю ваколіцу стэрорызавалі!..

— Як прозьвішча вашага таварыша?

— Стронскі...

— Ці ня служыў ён у 20 годзе ў Менскім гарнізоне?

— Так, служыў.

— Дык ён тут цяпер... А скажэце, далёка яго маёнтак ад станцыі?

— Вёрст 12...

— Афіцэр падумаў.

— Ведаеце што? Хочацца мне пабачыцца са старым таварышам. Я магу прамарудзіць адзін дзень. Вы нічога ня будзеце мець супроціў маёй кампаніі?

— Вельмі рады буду. Удвох весялей.

— Вы вось сказалі, што там у яго нешта нядобрае дзеецца. Ці ня будзеце ласкавы расказаць мне?

— Бачыце, там арудуе цэлы атрад бандытаў. Яны называюць сябе „Ваўчанятамі". Яшчэ з Балаховічам бароліся. Неўлавімыя. Іх атаман, Алесь, меў нахальства прыслаць мне ліст, у якім мне піша, што чакае мяне і спаткае каля станцыі.

— Ха-ха-ха... гэта цікава. Значыць, калі я паеду з вамі, то і я яго ўбачу. Так, так. Скажэце, вы ведаеце яго... гэтага Алеся?

— Калісь бачыў, але тады ён вырваўся з маіх рук,— усьміхнуўся Грыбоўскі.—Цяпер, я думаю, калі ўбачымся, то доўга не разлучымся... Аж пакуль у Навагрудку не адбудзецца над ім ваенна-палявы суд.

І Грыбоўскі зарагатаў.

— Вы паедзеце бяз варты?—запытаўся афіцэр.

— А навошта мне варта? Няўжо я буду баяцца гэтага бандыта.

— Не, я ня тое хацеў сказаць. Проста—час неспакойны і аднаму езьдзіць небясьпечна.

— Нас-жа будзе двое. Гэта раз, а падругое—у мяне ёсьць з сабою адна штучка з 6 кулямі!—Грыбоўскі хлопнуў сябе па кішэні.

Цягнік стаў. Новыя знаёмцы вышлі з вагона. Да іх падышоў нейкі хлапец.

— Ці не да пана Стронскага вы? То проша садзіцца Пан Стронскі прыслаў брычку.

Хутка пакацілася брычка па лясной дарозе. Ад'ехалі некалькі вёрст. Спачатку Грыбоўскі баязьліва аглядаўся па баках, сьціскаючы ў кішэні наган. Але па меры таго, як ад'яжджалі ад станцыі. сьмеласьць вярталася да Грыбоўскага. Афіцэр драмаў.

Раптам коні сталі

— Што такое?..—Трывожна запытаўся Грыбоўскі. Фурман адвярнуўся.

— Прыехалі,—і ў руцэ яго бліснуў рэвольвэр, а з усіх бакоў брычку акружылі ўзброеныя людзі. Грыбоўскі ўбачыў, што папаўся Супраціўляцца нельга.

— Злазь!..

Грыбоўскі пакасіўся на свайго суседа. Той насьмешліва сачыў за ім.

— Няўжо-ж вы, пане Грыбоўскі, і цяпер мяне не пазналі? Жандарская шапка зьляцела. Разам з ёй паляцеў парык. Адарваны вусы—і на Грыбоўскага глянулі такія знаёмыя, страшныя вочы. Вочы Алеся—атамана ваўчанят.

— Ну, пане, трымаюся я такі свайго слова. Спаткаў каля станцыі. Толькі ты гэта зброхаў, што нада мною будзе суд у Навагрудку. Мы вось тут праз поўгадзіны цябе засудзім!

Губы у Грыбоўскага, як апцугамі, сьціснуты. Ні слова. Алесь скінуў жандарскі мундзір і застаўся ў вышыванай кашулі з вузенькім паяском.

— Ну, хлопцы, завядзеце яго на востраў, а ты, Янка, едзь у Гарэшкавічы і скажы, што пана Грыбоўскага ня было!

## 9

На тым самым месцы, дзе судзілі паўстанцы Марціна, у шалашы з бярозавых галін сядзеў Грыбоўскі. У галаве завіруха.

— Што будзе? Што рабіць?

Грыбоўскі выглянуў з шалаша. Уся паляна была пакрыта гурткамі партызан. У кожным гуртку вяліся гарачыя спрэчкі.

— Ціха, таварышы,—раздаўся голас Алеся.

Усе сьціхлі.

— Я лічу, што мы павінны адплаціць асаднікам тэю-ж манетаю—спаліць! Пагарэўшым сялянам я выдаю грошы з нашага фонду. Усе згодны?

— Згодны, згодны

— Знача ў сёнешнюю ноч!..

У лесе захрусьцела гальлё. На палянку ўбег увесь мокры ад поту Мікола. Алесь кінуўся да яго:

— Што з табою?

Мікола толькі махнуў рукою.

— Але-ж што цябе так устрывожыла?

— А тое, што з Навагрудку выслана 5 батальёнаў войска. Нас акружаюць з трох бакоў і хочуць выцісьнуць з лесу і прыціснуць к Нёману. Войска з Ліды займае другі бераг. Трэба як мага хутчэй выбірацца адсюль.

Вочы Алеся заблішчэлі гневам.

— Сукіны дзеці!.. Надумаліся такі...

Алесь спусьціў галаву і задумаўся на хвіліну. Потым страсануў галавою.

— Будзь што будзе, хлопцы, а асаднікаў мы сягоньня ўночы спалім. Трэба раз назаўсёды даць ім зразумець, што не такія безбаронныя, як яны думаюць. І жаўнерам носа нацягнем.

І, адышоўшы з Міколам у бок, пачаў аб нечым з ім радзіцца. Відаць, плян Алеся быў вельмі арыгінальны і пад канец гутаркі Мікола аж зарагатаў.

— Ну і галава, брат, у цябе! Трэба-ж такую штуку выдумаць!..

— Цяпер трэба разьвязацца з гэтым жандарам. Цягнеце яго хлопцы на сьвет.

Двое хлапцоў кінуліся ў шалаш і праз хвіліну выскачылі адтуль з блядымі тварамі.

— Няма яго там!..

— Як няма?—кінуўся Алесь у шалаш Задняя сьценка шалаша ўнізе ўся разварушана.

— Агледзець усе кусты.'Далёка ня мог уцячы. Жывога ці мёртвага—сюды!—І хлопцы рассыпаліся па лесе·

Праз гадзіну ўсе сабраліся зноў на паляне. Грыбоўскі прапаў бяз сьледу.

## 10

— Ніякіх вестак ад Сьвіраноўскага?

— Ніякіх...

— У мяне проста галава йдзе кругам.

Стась нэрвовымі крокамі хадзіў па пакоі. Спыніўся.

— Вось што, Бронэк!.. Агляд пакояў ня даў нам нічога. Нам яшчэ застаецца адно: агледзець абрыў. Давай, возьмем зараз-жа лодку і паедзем

У дзьверы пастукалі.

— Ліст пану Скшынскаму.

Бронэк разарваў конвэрт. Пры першых-жа словах на твары яго выявілася злосная ўсьмешка.

— Ну, цяпер дудкі! Не ўцячэ!..

У лісьце было сакрэтнае паведамленьне аб нарыхтаванай аблаве.

— А гэта што?—паказаў Стась на прыпіску ў кутку ліста. І, прачытаўшы прыпіску, сябры вылаяліся. Там было напісана:

„*Чытаў і прыняў да ведама.*

*Ад імя ваўчанят—Алесь*“.

— Гэта чорт ведае што!

Супакоіўшыся, Бронэк рашуча сказаў:

— Усё-ж такі абрыў агледзець трэба. Трэба разгадаць гэту загадку.

Сябры вышлі і праз поўгадзіны ўжо ехалі на лодцы над абрывам і ўважна разглядалі кожны кусьцік, кожны выступ.

— Глядзі, глядзі, Скшынскі...

Стась паказваў на адзін з кустоў. Куст быў памяты і на выступе над ім можна было ўбачыць сьлед чалавечай нагі.

Афіцэры вышлі з лодкі. Над першым выступам быў другі. І хутка Бронэк і Стась падняліся на шырокую пляцоўку, абсаджаную кустамі. Над пляцоўкаю вырастала ўжо гладкая адвесная сьцяна абрыву.

— Стась, глянь!

І Бронэк рассунуў кусты. Перад афіцэрамі чарнела нейкая нара.

У нізе пачуўся лёгкі плеск. Стась глянуў уніз.

— Лодка!.. адчаянна крыкнуў ён,—лодка адвязалася.

Бронэк адвярнуўся і раптам некалькі пар рук схапілі яго і Стася і акуталі вяроўкай. У рот заткнулі нейкія анучы.

— Зацягнуць іх да часу сюды..

— Цяпер яны нам не перашкодзяць.

## 11

А лявоніху Лявон палюбіў.
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха, дужа ласкавая,
Чаравічкамі пalясківае.

Вінцэнт стары прымушае скрыпку даваць самыя разьвясёлыя мотывы.

Пад стольлю хмарамі калышацца дым ад махоркі. Выстукваюць абцасамі хлопцы.

Эх ты, Юрачка, што ня жэніжся,
Прыйдзе зімачка, дзе падзенешся?

Каму-ж гуляць тады, як ня моладзі. А па лавах старыя сядзяць, аб паважных справах гутараць. А калі-ні-калі і кінуць вокам на моладзь.

Эх! Мінулася. Яны-ж маладыя былі, і ў іх жылах агонь пераліваўся. Вось так і хочацца ўскочыць з лавы ды прытупнуць да такое каленца загнуць, што маладыя і рот разявілі-б. Што цяперашняя моладзь?.. Вось у нашы часы!.. І хіляцца сівыя галовы...

Я фарсуха, ты каталік;
Ня руш мяне за падолік...

А Вінцэнт рэжа на скрыпцы, жару нагам паддае.

Ой, пайду я ў крамачку,
Куплю пудры баначку,
Буду ёю мазацца—
Няхай дурні вяжуцца.

А хлопцы не здаюцца.

Плешча шчука каля млына,
Воўк у лесе вые,
А у нас на вечарынцы
Дзеўкі ўсе рабыя...

Жарты. Сьмех. А ў хату зьбіраюцца ўсё новыя й новыя хлопцы.

— Эгэ, разгуляліся...

На парозе асаднік Яцэк Каралецкі. П'яны. За ім яшчэ некалькі.

— Дазвольце і нам.

Хлопцы палахліва староняцца. Дзяўчаты зьбіліся ў кутку. Асаднікі накіраваліся да стала. Музыка змоўкла.

— Ну, што-ж змоўклі?

— Гэй, заграй мазурку.

Вінцэнт мнецца.

— Калі-ж я, паночкі, ня ўмею.

Юзэф Стульбінскі паставіў на стол пляшку сьпірту.

— Заграй нам тустэпа.

— Ня ўмею, паночкі.

— Умееш, гад, ня хочаш толькі.

— Мы обронцы ойчызны... заграй нам польку.

Пляшка апусьцела.

— Польку нам!..

Вінцэнт паціснуў плячыма і павёў смыком па струнах. Яцэк накіраваўся ў куток да дзяўчат. Але ніводная не хацела йсьці з ім танцаваць.

— Як, з намі, з обронцамі ойчызны, ня хочаце!— падасьпеў на дапамогу Юзэф.

Юзэф схапіў адну з дзяўчат і выцягнуў яе на сярэдзіну хаты.

Вінцэнт змоўк. Дзяўчаты вырываліся ад асаднікаў. Крык у хаце падняўся. У хлопцаў вочы гарэць агнём. Яцэк злавіў адну дзяўчыну і пачаў яе цалаваць...

Ніхто не заўважыў, што ў дзьвярох хаты стаяць новыя госьці. Адзін з іх падаў знак.

— Ні з месца!—і на асаднікаў накіраваліся стрэльбы.

— Скруціць іх!

П'яныя асаднікі ўжо не маглі супраціўляцца.

— Хлопцы й дзяўчаты, гуляйце спакойна, цяпер яны вас не зачэпяць ніколі...

Асаднікаў вывелі. Па хаце панёсься шопат:

— Гэтаваўчаняты!

За сьценкай раздаўся залп. Усе кінуліся к вокнам. Па двары бегалі чырвоныя цені.

— Гэта-ж пажар!

— Асаднікі гараць!..

Грамада пачала высыпаць на двор. Над маёнткам пана і над сялібаю асаднікаў уздымалася цэлае мора агню.

## 12

Нахмурыўся лес. Вабраў у сябе сьцежкі глухія воўчыя. Маўчыць, а здаецца зараз загаворыць. І слова яго будзе важкае, каранастае. Воўчымі сьцежкамі, глухімі сьцежкамі бразкочуць штыкі аб штыкі. Лес без канца. Загад—дайсьці да прырэчнай заставы Соўваецца атрад, губляючы зьвеньні па сьцежках. Толькі штыкі крыжуюцца з лапамі цёмных ёлак.

Паручнік Старжынскі здаволены. Яму, маладому такому, даверылі справу немалую.

— Акружыць і прыпёрці да рэчкі.

А там на перадзе прырэчная застава і крыжык Віртуці Мілітарыс Добра... вельмі добра І хрусьціць гальлё пад нагамі і сярдзіта расступаюцца махнатыя лапы—неахвотна дарогу даюць.

— Стой!..

З лесу мядзьведзь—не мядзьведзь—чалавек. Ды яшчэ ў форме жандарма. Дулы вінтовак нахмурыліся й востра абмацвалі новага.

— Хто такі?

— Паручнік... ваенны сакрэт!.. і зашаптаў на вуха.

— Пан Грыбоўскі ручаецца?..

— Паручнік...слухаць загаду капітана. Мне рэвальвэр!

— Прэндзэй... бягом да рэчкі.

Шэра-зялёнаю лаваю рынулі жаўнеры.

— Ціха, ціха,—хлешчуць па тварах кудлатыя лапы.

— Стой, стой, куды. Воўк, шэры брадзяга, хвост паджаўшы—у гушчар. Дзіўныя дні... Людзі балотам ходзяць, людзі па лесе вандруюць. Не зразумее ён, стары брадзяга, чаго ім тут трэба. Ваўкамі стаць яны хочуць, ці што.

Вось і балотца. А там, паміж дрэваў—рака сьвінцовым люстэркам бліснула.

— На коні... на коні...

Без дарогі па полі панёсься атрад. Абы толькі да часу пасьпець. Ночь даўно ўжо разьмяталася над нівамі.

Вось.. вось—там далёка наперадзе зарава.

13

— Апошнія патроны!..

Страшная вестка. А жаўнеры насядаюць і насядаюць.

„Канец прыходзіць!" думка калоціцца ў галаве Алеся, няма ратунку.

— Алесь, уцякай.

— Як?

— Адзін уцякай. Табе гінуць ня трэба.

— Ты разумееш, што сказаў?

І раптам—новая думка.

— Лявон і Мікола, сюды!

Загаварылі трое.

— Вось што, хлопцы! Прытаіцца вам усім трэба... Ня дыхаць... Я, Мікола, Лявон і яшчэ двое будзем уцякаць у лес і заманім туды палякоў, а вы ўсе, пачакаўшы, павінны кінуцца ў другі бок. Шкадуйце патронаў.

Партызаны зразумелі.. Атаман аддае сябе за сваіх. Насупіліся бровы.

— Падумай, Алесь, што робіш!..

Гнеў у вачох.

— Што раблю—ведаю.

Пяць цёмных постацяй вынырнулі з лагчыны і папаўзьлі да лесу. Прытаіліся хлопцы. Вочы і думкі—у той бок, куды пашоў атаман. Страляніна.

— Ну, хлопцы, цяпер можна і нам вырушыць.

Апошні раз глянулі ў бок бойкі.

— Бывай, атаман!..

Рынуліся ў цемру. Пасьля нядоўгай бойкі прарваліся і ўтапіліся ў кудлатым абшары лесу.

У гэты самы момант 5 хлопцаў, акружаных жаўнерамі, паднялі рукі ўверх.

— Здаемся.

Сотня на пяцерых—пе праб'ешся. Падышоў афіцэр.

— Хто з вас атаман?

— Угадай...

— Нічога, самі скажаце. Акружыць і завесьці ў Гарэшкавічы.

— Толькі, пане афіцэр, варты больш назначай, бо ўцячэм!..

— У цябе, паручнік, штаны ззаду прастрэлены,—з усьмешкай паказаў адзін з партызан. Паручнік інстынктыўна агляну́ўся. Сярод салдат пачуўся прыдушаны рогат.

Паручнік пачырванеў.

— Ах, ты...

І падняў руку. Але другая моцная рука спыніла яго.

— Судзіць будуць.

— Я табе пакажу суд.

Але афіцэру ўжо стала нялоўка. Жаўнеры перасьмейваліся. І ён загадаў:

— Вядзеце іх.

У лесе ваўчаняты думалі пра Алеся.

— Адбіць!.. Сілы ня·хопіць... Прапаў чалавек.

А Алесь з сябрамі перашэптваўся.

— У Гарэшкавічах, хлопцы, можна будзе падцёрці нос жандарам. Толькі маўчэце.

Паручнік Старжынскі шагае цяпер бадзёра і радасна. Злавіў 5 ваўчанят. А можа і самога атамана. Эх, каб толькі гэта так было. Маленькі крыжык Віртуці Мілітарыс, і ў загадзе па арміі—паручніку Стар-

жынскаму выказваецца падзяка. І паручніка Старжынскага будуць усе ведаць, яго будуць запрашаць у самыя лепшыя сем'і, і панна Гэля Прэнковіч не адзін раз ласкава гляне на свайго храбрага жаніха.

На ўсходзе пачалі прабівацца маленькія ружовыя язычкі раніцы.

Прышлі ў Гарэшкавічы. У доме суматоха. У доме ніхто ня сьпіць.

— Стась і Бронэк прапалі бяз сьледу.

## 14

Дапрос скончыўся. Білі доўга і ўпарта. Білі, пакуль ня выбілі з 5 змучаных людзей апошнія іскаркі прытомнасьці. Кінулі чуць жывых у цёмны пакой.

Першым прачнуўся Алесь. Думка яго адразу запрацавала.

Хлопцы выратаваліся. Нікога з іх на дапросе ня было. Дзе мы?

Пабітае цела давала сябе адчуваць. Ня было жывога месца. Усё ныла, гарэла.

Праз вузкую шчыліну зачыненай акяніцы прабіваўся сьвет і падаў на сьцяну зялёнаю палоскаю.

„У зялёным пакоі“, мільганула думка.

Прыгледзеўшыся крыху, Алесь убачыў, што побач з ім ляжалі ўсе яго сябры.

„Тым лепш“, падумаў ён і пачаў аглядаць пакой.

Так, яны ў зялёным пакоі. У тэй самай зялёнай гасьцінай, дзе жылі Стась і Бронэк. Алесь падняўся. Падышоў да стала. Памацаў столік—замкнуты. Легкім рухам адарваў крышку стала, і вочы яго блiснулі радасьцю—у століку ляжаў рэвольвэр.

Хлопцы на падлозе пачыналі прыходзіць у сябе.

— Дзе мы?—вырвалася ў Міколы.

— Цс-с-с,—зашыпеў Алесь,—ціха, зараз будзем на волі.

І, падышоўшы туды, дзе ў сьцену была ўмуравана пазалочаная рама з портрэтам нейкага вялікага ва-

яводы, Алесь пацiснуў нейкую шышачку на раме. Цiха, бяз шуму адступiў ваявода, адкрываючы за сабою чорную пустую пляму ў сьцяне

— За мною, хлопцы,—скомандваў Алесь.

Ваявода заняў сваё месца.

## 15

Стась і Бронэк спачатку нiяк не маглi разабрацца, што з iмi здарылася. Зьверху над iмi чарнелi нiзкаватыя земляныя сьцены.

Пры выхадзе з пячэры стаяла двое хлопцаў.

— Пакiнем iх тут. Ходу яны ня ведаюць, а Алесь вернецца, тады будзем ведаць, што рабiць.

— Маеш рацыю.

І хлопцы спусьцiлiся ўнiз Стась і Бронэк корчылiся і круцiлiся, як вужы, але вяроўкi былi скручаны добра. Нават загаварыць яны не маглi, бо раты iх былi пазатыканы нейкiмi бруднымi трапкамi. Толькi думка працавала ў абодвух. І Стась надумаўся. Адчаяным высiлкам ён падкацiўся да Бронэка. Некалькi страшных нацiскаў зубамi, i трапка ў роце аслабла i выкацiлася. Стась мог гаварыць.

— Ну, брат, папалiся мы з табой. І твая тэорыя пра падземны ход мусiць блiзкая да праўды.

Бронэк нешта прамычаў.

— Вось што, я пастараюся перагрызьцi вяроўку ў цябе на руках.

Некалькi хвiлiн пашло на тое, каб заняць належную пазыцыю. І Стась узяўся за працу.

— Ну, ну, яшчэ,—i рукi Бронэка сталi вольнымi. Палящела з роту трапка, а за ёю цэлы паток лаянкi.

— Як парасят у мех злавiлi.

— Ну, ты, брат, лаяцца будзеш пасьля. Лепш памажы мне цяпер распутацца.

Праз некалькi хвiлiн абодвы стаялi на нагах i разьмiналi анямеўшае цела.

— Ну, а цяпер што?—буркнуў Стась.—А ведаеш, мне здаецца, што бандыты гаварылi пра нейкi ход.

Афіцэры агляную́ліся кругом. Праз рамку ўваходу на іх пазірала сінім тварам неба.

Але ў пячэры было цёмна.

Стась дастаў сярнічкі. Слабы сьвет утапіўся ў цемры.

— Глянем туды.

І абодва, мацаючы сьценкі, накіраваліся ў глыбіню пячэры. Запалілі яшчэ адну сярнічку. Перад імі былі маленькія акованыя жалезам дзьверы. Стась пацягнуў за ручку. Дзьверы лёгка адчыніліся. Пры сьвеце сярнічкі афіцэры ўбачылі вузкі нізенькі калідор з каменным скляпеньнем. Ісьці па ім можна было толькі нізка сагнуўшыся. Прашоўшы крокаў сто, Бронэк спаткнуўся. Памацаў рукою—ступенька.

— Стась, пасьвяці!

Чыркнула сярнічка і асьвятліла цэлы шэраг ступенек, якія падымаліся некуды ўверх. Падняўшыся па ступеньках, афіцэры пачулі, што сьцены калідору расходзяцца. Гэта быў нейкі пакой. У кутку стаяў стары, паліняла ад вільгаці абраз. Проста перад Стасем і Бронэкам былі другія дзьверы. Афіцэры сьмела накіраваліся да дзьвярэй, але раптам яны адчыніліся і з іх блиснуў сьвет факелу і выглянула дула рэвольвэра.

— А, каго бачу,—пачуўся насьмешлівы голас.—Калі ня мыляюся—паны Скшынскі і Патоцкі!.. Старыя знаёмыя!.. Як гэта вы сюды папалі?.. Прышлі лавіць мяне ў маім дзелавым габінэце?

Стась і Бронэк, агарошаныя нечаканым спатканьнем, маўчалі.

— Думаю, што вы мяне крыху ўспамінаеце. Помніце паход Балаховіча?

— А як мой стары прыяцель Дзяргач жыве?

Афіцэры ўздрыгануліся.

— Вашы сябры, бачыце ня вельмі спрытныя. Злавіць мяне яны злавілі, а вось утрымаць, дык не ўдалося ім.

Кароткае маўчаньне.

— Ну, што-ж, пойдзем назад Ну, жыва!—прыкрыкнуў Алесь, бачачы, што афіцэры ня рушацца з месца. Уся процэсія паважна пасунулася па тых самых ступеньках, па якіх толькі што падымаліся Стась з Бронкам. Наперадзе ішлі афіцэры, за імі Алесь, трымаючы ў аднэй руцэ рэвольвэр, а ў другой—факел. Ззаду йшлі Мікола, Лявон і двое іх сяброў.

Хутка прышлі ў пячэру над рэчкаю. Алесь замахаў факелам.

Праз поўгадзіны пад абрывам бліснула вада і тыя самыя двое хлапцоў, якія злавілі Стася і Бронэка, падняліся ў пячэру.

— Добра-ж вы глядзелі, калі гэтых вось гусей прагледзелі,—гнеўна зьвярнуўся да іх Алесь.

Але хлопцы зьдзіўлена пазлядалі то на разьвязаных афіцэраў, то на Алеся.

— Дзякуй богу, такі выкруціўся ты ад жандараў.

— Вы мне скажэце, адкуль яны тут узяліся.

— Ды мы-ж іх скруцілі і кінулі тут, а самі ў лесе на варце стаялі.

Тут Алесь нагнуўся і падняў вяроўку.

— Перагрызена. Уцячы хацелі і чуць не дабраліся да выхаду. Ну, цяпер не дабяруцца. Забярэце іх, хлопцы, з сабою.

16

Пераплылі рэчку. Захлюпала балота. Стась і Бронэк пераканаліся цяпер, што балота не такое непраходнае, як яны думалі.

Вось і востраў.

— Ну, панове, цяпер вы ведаеце ўсе нашы ходы. Што вы скажаце?

Бронэк стараецца быць спакойным.

— Скажам тое, што бандыты раней ці пазьней пападуць у рукі паліцыі.

— Ха...-ха...-ха... а чаму не наадварот? Вось-жа двое паліцэйскіх папалі да бандытаў. Бандытаў!.. Колькі трэба паліцыі, каб пералавіць такіх бандытаў, як мы. Нас—мільёны, а вас...

Алесь плюнуў.

— Бандыты... бандыты праклятыя ў бліскучых мундзірах і ў чорных сурдутах!.. Вы што-ж думаеце—мы з вамі распраўляемся так сабе, здарава жывеш!

Вочы Алеся кідалі іскры.

— Селі на нашы шыі, смокчуць кроў, з нашай працы жывуць, гвалтуюць нашых дзяўчат... бацькоў нашых і дзядоў нашых куплялі і прадавалі і сабакамі травілі. І патрабуюць яшчэ, каб мы не абараняліся!.. Не, паночкі, паспытайце на ўласнай скуры сваё-ж дабро!.. Што тады засьпяваеце. Вось кожны з хлапцоў мае да вас рахунак.

Афіцэраў палілі поўныя ненавісьці погляды. Помста, цьвёрдая рашучасьць у вачох.

— Сястру маю пан зьняславіў і... выгнаў потым. Гуляшчаю зрабіў.

— Хату спалілі нашчэнт.

— Зямлю адабралі.

З усіх бакоў пасыпаліся абвінавачаньні. Бледныя афіцэры не маглі нічога сказаць.

— І што-ж вы думаеце, вам усё гэта даруюць?

— Чакай, чакай. Катаргі ня мінеш,—агрызнуўся раптам Бронэк.

— Ха-ха-ха... пакуль што абмінуў. Ганяецца за мною ваша паліцыя—і нічога. Сёньня злавілі былі, ды, як бачыце, не дагледзелі. А вось мы за паліцыяй ганяемся ўдачна. Вы двое ад нас ужо ня выкруціцеся. Вас і судзіць ня трэба. Што скажаце, хлопцы?

— Сьмерць,—глуха стукнулася ў гушчар.

— Праз поўгадзіны вас ня будзе на сьвеце. Але вось хачу я вам расказаць тое, чаго вы так стараліся дабіцца. Помніце, як вы мяне лавілі разам з Дзергачом. Лавілі ды не маглі ўтрымаць. Кусьлівыя мы—ваўчаняты. Ой, якія кусьлівыя! Расказаць, можа, вам, як я знашоў ход гэты, дзе вы папаліся? Ну, Лявон, слова табе!

Неахвотна загаварыў Лявон.

— Малым яшчэ быў я—любіў лазіць па панскім саду. Яблыкі смачныя там. Ну, і натрапіў на пячэру!

— А я вось,—загаварыў Алесь, дабраўся і далей. Да самай зялёнай гасьцінай, як вы называеце. Чуў, як Стронскі грошы адтрымліваў, вашы ўсе гутаркі чуў... Эх, хацелася мне часамі рашчапіць каму з вас галаву... так, як вы Грышку...

Алесь увесь гарэў.

— Сотні, тысячы вас за Грышку мала!..

Алесь абарваўся.

— Э, ды што тут з імі цацкацца, хлопцы! Шэсьць куль—і ў балота. А я пайду другіх судзіць.

## 17

Затрубілі збор...

Зарыпалі дзьверы, і ў зялёны пакой увашлі Грыбоўскі, Старжынскі і малады Стронскі. Увашлі і акамянелі.

— Няма!..

Грыбоўскі адным ударам кулака вышыб акяніцу.

У пакоі пуста. На стале—кавалак паперы.

Грыбоўскі—да стала.

„Бывайце здаровы, хутка з вамі расплачуся за ўсё. Чакайце".

Грыбоўскі рваў на сабе валасы.

— З-пад носу ўцяклі... Сорам... Сорам.

...Пагоню зараз! Яны не маглі далёка ўцячы за 2 гадзіны.

— А ты праўду кажаш..., пачуўся ззаду такі знаёмы—спакойна-насьмешлівы голас.

Усе азірнуліся. Каля дзьвярэй выстраіліся хлопцы ў шэрых сялянскіх сьвітках. Кожны трымаў у руцэ рэвальвэр.

— Ты праўду кажаш!.. І Алесь падышоў да Грыбоўскага,— недалёка мы былі. Цяпер прышоў я суд над вамі чыніць.

Ваўчаняты занялі выхады і стаялі каля вакон.

— Узяць усіх трох!

Грыбоўскі адбіваўся... Але трое хлопцаў у момант скруцілі яго.

Перапуджаны Стронскі ня мог сказаць ні слова. А Старжынскі, бедны Старжынскі! Ня будзе для яго Віртуці Мілітарыс.

— Выведзеце іх нашым ходам!

Адступіў ваявода нахмураны і даў дарогу сваім праўнукам.

Там на паляне суд быў кароткі.

— Усіх трох расстраляць!

Алесь зьвярнуўся з прамовай да сяброў:

— Так што сёньня, хлопцы, мы расправіліся з нашымі зьлейшымі ворагамі; можа яшчэ не адзін з нас загіне слаўнаю сьмерцю. Можа яшчэ шмат хто з нас будзе замучаны буржуазнымі жандарамі, бо мы—вангард рабочага пролетарыяту. Але мы, ваўчаняты, за ўсё адамсьцім праклятаму буржуазнаму капіталу. Цяпер нам тут заставацца небясьпечна. Выйдзем адсюль і пойдзем змагацца. Шмат лясоў ёсьць у нас. Будзем адтуль біць паноў.

## 18

— Дык, кажаш, спалілі?..

— Спалілі нашчэнт. На матку накінуліся... дзе сын... А Стронскага экономка падкруцілася... „у бандытах“, кажа... „у лес пашоў з ваўчанятамі“. Схапілі матку, а Ганулю павалілі на ложак... Матка кінулася і за горла салдата, а нейкі другі—са стрэльбы. І ня крыкнула—памёрла. А затым Ганулю прытомнасьць ужо страціла...

— Дык спалілі, кажаш!..

Голас Лявона дрыжыць, а ў вачох—полымя.

— Спалілі і згвалтавалі... а матку...

Сьлёз няма на вачох у Лявона.

— Дзе яны цяпер?

— У пана Стронскага ў палацах пастарунак пакінулі... чалавек 10.

Лявон да Алеся.

— Пайду я, Алесь! Пайду!..

— Куды ты адзін?

— Я... я нічога. Я толькі на хатку спаленую гляну... і.. назад. Акамянела ў мяне сэрца... Алесь.. вярнуся!

— Адзін ня пойдзеш. Усе пойдзем. Суд страшны ўчынім.

Вочы Лявона заблішчэлі.

— Суд... так, страшны суд і гняздо праклятае — к чорту!.. Алесь, у мяне цяпер толькі адзін брат застаўся, Вось гэты.

І Лявон пагладзіў кудлатую, белую галаву Юркі:

— Усяк бывае... можа не вярнуся я з гэтай справы..

— Ён будзе сынам ваўчанят.

## 19

— Вады, вады!

Пані Стронская самлела. Але нікому ня было да яе справы.

Стронскі, яшчэ з таго дня, як прапаў яго сын, зусім згубіў розум. Ён сядзеў на сваім крэсьле і ўсё глядзеў у адну кропку.

— Зараз прыдзе мой сын — паручнік уланскі.

Капрал Пшэндзінскі ў адчаяньні. А вокны ўжо засьцілаюцца чорным дымам.

— На вылазку.

Рынуліся жаўнеры праз вокны. Але на двары іх чакалі ваўчаняты.

— Здавайцеся!..

Жаўнеры і ня думалі абараняцца. Лявон неўмалімы.

— Да сьценкі!..

— За крыўду, за гвалт — расстраляць!

Залп, кароткі адрывісты залп.

І раптам страляніна з усіх бакоў. Жаўнеры ў браме. Жаўнеры з усіх бакоў.

Нават у Алеся ёкнула сэрца. Пажар ужо разгарэўся. Стары прыгожы палац ужо здаваўся пад напорам агню.

— У рукапашную!

Усё вузей і вузей кальцо жаўнераў. Вось зараз і канец.

Страляніны ўжо няма. Толькі прыклады гуляюць па галовах.

— Эх! Яшчэ напор!

Ужо ваўчаняты вырваліся з кальца.

— Хутчэй-бы да лесу!..

Жаўнеры з лаянкаю вярталіся назад. Пастарунковыя расстрэлены. У бойцы шмат палягло. Двое афіцэраў забіта. Палац ужо абваліўся і агню ня было. Толькі хмары дыму клубіліся пад неба.

З груды цел паднялася адна галава. Жаўнеры кінуліся туды.

— Партызан! жывы!

Лявона, аглушанага ўдарам прыкладу, завезьлі ў Навагрудак.

Алесь з уцалеўшымі ваўчанятамі глухімі воўчымі сьцежкамі прабіраўся на поўдзень.

— Спынімся ў Лунінецкіх лясох!

## 20

— Імя?

— Лявон Санчук!

— Колькі год?

— 18.

— Дзе дзеліся таварышы?

— Яны цяпер там, куды вашы лапы не дастануць.

— Падсудзімы! Шчыры адказ можа памягчыць кару.

Лявон зазлаваўся.

— Расстрэльвайце, сукіны дзеці. Расстрэльвайце. Матку з сястрою забілі, хату спалілі... І я вам адамсьціўся. Расстрэльвайце.

— Гэта абраза суду!..

— Судзеце хутчэй. Бо магу ўцячы, і тады вашы галовы цэлыя ня будуць.

Афіцэры за сталом пераглянуліся.

— Чытайце прыгавор.

Сакратар падняўся.

— Імем Рэчы Паспалітай польскай. Навагрудзкі ваенна-палявы суд прыгаварвае Лявона Санчука, селяніна вёскі Залужжа, за падпал маёнтку Гарэшкавічы і ўзброенае паўстаньне супроць ураду да кары сьмерці праз расстраляньне.

На зары за горадам на 18 ліпні свайго жыцьця, пранізаны 12 кулямі разьвітаўся са сьветам Лявон Санчук.

21

Ноч.

Трывогай зьвініць тэлефон.

— Слухаю! Што? Гарыць маёнтак Патоцкага? 30 чалавек? Яшчэ грабяць? Так, так, высылаю дапамогу. Кавалярыйскі атрад. Ужо.

— Можна увайсьці?—пастукаў нехта ў дзьверы начальніка дэфэнзывы.

— Зайдзеце!—хмура адказаў начальнік, павесіўшы трубку тэлефону на месца.

— А, гэта вы, пан Ванькові́ч? Сядайце, сядайце, калі ласка...

— Я да вас, пан Сьвяньціцкі. Вось прачытайце, калі ласка... І Ваньковіч працягнуў Сьвяньціцкаму нейкую паперку.

„Пан Ваньковіч!

Прапануем табе выдаць кожнаму селяніну з вёскі Дайнава па 100 руб. Вёска Дайнава, дазволь табе напомніць, уся зьбіта па тваймy загаду, а частка яе спалена. Справу абароны пакрыўджанай вёскі мы бярэм на сябе. Калі праз 3 дні з моманту атрыманьня гэтага лісту ты не дасі добрахвотна сялянам гэтых грошай, дык на 4 дзень раніцою мы з табой пагутарым. Спадзяемся, што пабачыцца з намі ты ня вельмі хочаш, а таму, будзь ласкаў, у тэрмін выканай загад. Калі паведаміш дэфэнзыву—будзе горш. Яна ўсё роўна не абароніць цябе“.

ВАЎЧАНЯТЫ.

— Даўно атрымалі гэты ліст?—запытаўся, прачытаўшы, яго, начальнік дэфэнзывы.

— Учора раніцою, пане Сьвяньціцкі.

— Так!—прамычаў начальнік.

— Я проста галаву трачу. Я ня ведаю, што мне рабіць. Я, здаецца, кіну свой маёнтак і ўцяку да Варшавы. Хай яны прападуць, гэтыя ўсходнія крэсы.

— Ведаеце што, пане Ваньковіч,—праўду кажучы, дык я сам губляю галаву. Гэтых бандытаў нельга зла віць. З імі няма як змагацца. На іх баку сялянства.

— Што-ж рабіць, што рабіць?—ламаў рукі Ваньковіч.

— Што рабіць!—раззлаваўся начальнік.—Патрэбны рэформы. Трэба выселіць адсюль беларусаў наогул, каб ніводнага з іх у Беларусі ня было. Іх землі адбіраць і насяляць польскімі жаўнерамі.

— Ну, а хто-ж тады абслугоўваць маёнткі будзе, калі гэта быдла выганіце. Не пайду-ж я сам працаваць у поле. О!—злосна зарагатаў Ваньковіч:—Добрыя рэформы. Няма што казаць.

— Ну, дык я тады ня бачу ніякага выхаду!—прабурчэў Сьвяньціцкі.

—Мілы сябра,—загаварыў зноўВаньковіч.—Няўжо-ж вы думаеце, пан Гюбнэр, паважаны міністар унутраных спраў ня думаў пра гэта. О, яшчэ й як думаў. Вось нядаўна ў часе сваёй паездкі на крэсы, ён заяжджаў да мяне ў госьці. Гаварылі мы з ім, пане Сьвяньціцкі, аб гэтым. Гаварылі.

— Ну?—запытаўся начальнік дэфэнзывы.

— Вось тут вам і ну,—адказаў Ваньковіч.—Вы думаеце, пану Гюбнэру ня шкода сваіх маёнткаў. О, яшчэ і як-бы ён хацеў супакоіць гэта быдла. Высяляць... вы кажаце. Дык і высяляюць-жа. Толькі нельга-ж усіх выселіць: я-ж казаў, хто нам працаваць тады будзе. Пан Гюбнэр, я памятаю, казаў мне гэтак: „Гэты зброд бунтуецца, гледзячы заграніцу. Падабаюцца ім бальшавіцкія парадкі... Але мы хутчэй усіх іх расстраляем, пакуль дазволім ім расстраляць нас“. Во што сказаў пан Гюбнэр.

— Вялікая галава ў пана Гюбнэра,—разважаючы, сказаў Сьвяньціцкі.

— О, гэта адзін з найвялікшых людзей нашага часу... Я яшчэ ўспамінаю...

Затрашчэў зноў тэлэфон.

Зморанаю рукой начальнік узяў у рукі трубку.

— Што?—закрычэў ён так, што пан Ванькові аж падскочыў на крэсьле.

— Што? аграбілі цягнік? Паштовы? Што? Аграблен сам ваявода? Што? і біскуп? Ваявода ледзь выратаваўся, падлезшы пад лаўку? Што і да... да мяне прыдзеце!.. Ды хто, хто гэта гаворыць? Адкуль? З тэлэфону атамана. 3 хвіліны—5 кап. Хто гаворыць, пытаюся? Ва... ва... ваўча... і, кінуўшы трубку, начальнік упаў.

## 22

Хутка імчыць цягнік па перагоне Лаўча-Парахонск.

Нібы ў сябе ў пакоі спакойна сядзіць ваявода палескі Даўнаровіч у вагоне.

— Паглядзеце, якая пекная пагода,—зьвярнуўся ваявода да сядзеўшага супроць яго біскупа.

— Так... залатая восень у гэтым годзе,—адказаў біскуп Лазінскі.

І сапраўды, неба завалаклося гэткаю сіньню, што аж крычаць хацелася ад радасьці. Расьсякаючы балоты і лясы, цягнік імчаўся.

— А вы чулі,—запытаўся біскуп у ваяводы, што Ванькові атрымаў ліст з наказам выдаць мужыком з вёскі Дайнава па сто рублёў. Гэткая подласьць!—гарачыўся біскуп.

— Так,—згодзіўся ваявода. Гэта—подласьць. Па сто рублёў. Па сто куль на кожнага з іх, а не па сто руб.! Хамы! Ну, ды нічога, я цяпер сам выключна дзеля таго і выехаў, каб на месцы абсьледваць працу. О, я іх пералаўлю! У маім ваяводзтве будуць спакойна жыць памешчыкі.

— Гэтае зло трэба з карэньнем выдзіраць!—сьмірэнна падумаў у голас біскуп.

— О, вы, духоўныя, і ня ведаеце, як выдзіраем мы гэта зло,—казаў ваявода.

Дэфэнзыва...

—Калі ты не назавеш сяброў вашай арганізацыі, мы скуру з цябе спусьцім. Ня ты першы, ня ты апошні.

Той, да каго гаварыліся гэтыя словы, маўчаў.

Некалькі чалавек накінуліся на маўчаўшага, скінулі бялізну і пачалі калоць яго цела шабляй, расьціраючы кроў ботам.

Катаваны маўчаў.

Тады яго кінулі ўніз у нейкі склеп і пачалі катаваць электрычнасьцю і агнём.

Каб ня чутно было яго стогнаў, яму завязалі галаву мокрай бялізнай.

— А цяпер назавеш?—пыталіся агэнты.

Змучаны чалавек маўчаў, ды ў яго і сілы ня было гаварыць.

Тады яго прывязалі да лаўкі так, што вяроўкі моцна ўрэзаліся ў параненае цела. Адзін з агэнтаў сеў на галаву, а другі пачаў калоць пяткі.

Катаваны ўжо і не стагнаў. Ён змоўк. Толькі з другіх пакояў несьліся стогны.

— Кажы, хто прымаў удзел у вашай арганізацыі? Кажы!

Дэфэнзыва...

## 23

— Так вы, духоўныя, і ня ведаеце, як мы выдзіраем гэтае зло,—паўтарыў ваявода.

—О, чаму,—скромна захіхікаў біскуп.—Чуткамі зямля поўніцца. Мы, духоўныя, таксама крыху ведаем. Ну, ды нічога... Хай благаславіць вас бог у вашай цяжкай працы!

Ваявода схіліў галаву.

Крыху памаўчалі. Цягнік нёсься.

—Я выдзеру ў гэтым павеце, з карэньнем выдзеру вольнадумства гэтых хамаў,—бурчэў ваявода.

І не пасьпеў адказаць яму біскуп, як цягнік раптам са скрогатам стаў.

—Што такое?—усхапіўся ваявода.

— Глупства,—супакойваў біскуп.—Мусіць, нешта сапсавалася.

Але раптам дзьверы купэ адчыніліся.

Трое людзей, з накіраванымі на сядзеўшых наганамі, увашлі ў купэ.

— Дзень добры, пане ваявода!—сказаў адзін з увашоўшых.

—Цо-цо-цо то-то ест?—пачырванеўшы, ляскаў зубамі ваявода.

— А нічога. Ды вы сьмялей, пане ваявода, не саромце вашай вопраткі, бо з такога пераляку...

—Ну, але няма часу валэндацца з вамі. Ваявода, аддавай сюды свой рэвольвэр!

І ваявода дрыжачай рукой палез у кішэню і, дастаўшы рэвольвэр, падаў яго аднаму з увашоўшых.

—Так... Добра. Малайцом ваявода. Ну, а цяпер скідай сваю адзежыну.

Ваявода так пачырванеў, што здавалася, во-во кроў пырсьне з яго твару.

—Ну, няма часу, хутчэй скідай! А ты, айцец духоўны, чаго стаіш? Дапамагай ваяводзе!..

Дрыжачымі рукамі пачаў ваявода скідаць сваю адзежу.

—Айцец духоўны, добра дапамагай!

—Ну, ну, вось малайцом Так... так...—падбадзёрвалі хлопцы ваяводу...—І майткі таксама. Ну, жыва скідвай! І кашулю! І ўсё!..

Ваявода, здаволены пахвалою, слухаўся.

—Цяпер кладзіся на лаўку!

Ваявода паслухмяна лёг.

— Двадзесьце пеньць!—загадаў нейкі голас.

—А ты, айцец духоўны, кладзіся пад лаўку, каб потым ня так сорамна было ваяводзе табе ў вочы глядзець.

Біскуп паслухаўся.

—Даў двадзесьце пеньць?

—Ну, як, пане ваявода, соладка ці не? Гэта-ж тая самая страва, якою ты ўвесь час корміш сялян. Што, вясковая горш панскай? А? Як думаеш? Ды чаго маўчыш?

—А можа яму ня дваццаць пяць далі, можа зьбіліся пры падліку. Таму ваявода і ня хоча з намі гаварыць. Трэба з пачатку адлічыць,—заклапаціўся адзін з прышоўшых.

—Так, так, з пачатку,—падцьвердзіў другі,—бо потым ваявода будзе сьмяяцца. Скажа...вядома, мужыкі, да дваццаці пяці і зьбіліся.

—Ну, пачынай-жа, Мікола, ды глядзі ня зьбіся! Ты па пальцах лічы!

—Ня беце!—узмаліўся ваявода.

—А, сумленьне загаварыла! Ты, мусіць, пане ваявода, першы раз у жыцьці сваім сказаў: ня беце. Чаму-ж да гэтага часу ты толькі і казаў: бі!

— Паспытай-жа на сваёй скуры, як выконваліся твае загады. А цяпер пішы расьпіску... Пішы, што атрымаў усё поўнасьцю.

Дрыжачымі рукамі ён вывеў на кавалку паперы: „Атрымаў дваццаць і яшчэ пяць.

Ваявода Даўнаровіч“.

Група паўстанцаў згуртавалася каля паравозу.

— Пусьці поўны ход і сам саскаквай,—загадвалі яны машыністэму.

—Ну, хутчэй, Янка, улазь з ім на паравоз ды глядзі, каб ён першым саскочыў.

Праз хвіліну паравоз адзін бяз людзей і вагонаў поўным ходам ляцеў наперад у Лунінец.

—Давай збор!—Крыкнуў адзін з хлапцоў.

Празьвінелі тры выстралы. З вагонаў выходзілі маладыя хлопцы з абразанкамі.

—Пачакайце, я яшчэ абыйду цягнік, а потым у дарогу!—І адзін з грамады аддзяліўся і пашоў у вагон.

Адзін ён і абышоў увесь цягнік. У кожным вагоне ён голасна пытаўся.

—Таварышы, сяляне ці рабочыя ёсьць? Ці не пакрыўдзілі мае хлопцы каго з вас, кажэце!

Але нікога з сялян і рабочых паўстанцы не кранулі.

Паскардзіцца на паўстанцаў маглі толькі жандары ды вайсковыя, але яны маўчалі.

—Хлопцы! У дарогу!—загадаў малады хлапец, вышаўшы з вагону.

Даўно ўжо зьніклі ў лесе, паўстанцы, а вайсковыя, жандары і сам ваявода ўсё яшчэ ляжалі пад лаўкамі, куды іх пазаганялі паўстанцы.

Дарэмна вольныя грамадзяне, што спакойна сядзелі на лаўках, бо іх паўстанцы не чапалі, дарэмна яны ўгаварвалі вайсковых вылазіць з-пад лавак, божучыся, што кругом нікога ўжо няма.

## 24

Разгортваецца барацьба,—што дзень—то болей...

Па беларускіх неабдымных лясох ваўчанятамі прытаіліся маладыя паўстанцы.

На чале самых маладых з паўстанцаў—Алесь.

Пакуль ёсьць лясы—ня выбіць з іх ваўчанят.

Пакуль ёсьць прыгнечаная Беларусь—ня вытравіць з яе паўстаньня.

